# Маладосць

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны ілюстраваны часопіс**

**(702) МАЙ, 2012**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна ДЗЯНІСАВА**

**5**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:

*Мікалай ПЛАВІНСКІ*

# У АДЗІНОЦЕ ДАЖДЖУ



***Мікалай Плавінскі нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт БДУ і аспірантуру Інстытута гісторыі НАН Беларусі. З 1999 года працуе ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь, загадвае навукова-фондавым аддзелам археалогіі, нумізматыкі і зброі.***

* * *

Прамінула палова лета,
Як жыцця праляцела палова.
Позна ўжо мне гуляцца ў паэта
І адшукваць прыгожыя словы,

Бо рабіў непатрэбныя справы,
Абіраў я не тыя сцяжыны.
І шукаў на зямлі таннай славы
Замест вуснаў каханай жанчыны,

Замест слоў клапатлівай пяшчоты,
Замест доўгіх блуканняў без мэты
Сярод золкае восеньскай слоты,
Як належыць адвеку паэту.

Варта ўсё-ткі чакаць канца лета
І фіналу другое паловы,
Ды ісці ў адзіноце да мэтаў,
Што не вартыя простага слова.

* * *

Поўня цёплаю ліпеньскай ноччу
Гарадскія заліла алеі
Жоўтай фарбай, нібыта алеем,
І хаваць круглы твар свой не хоча.

Я гуляю самотны і п’яны,
Бы шляхцюк у закінутым парку,
Ў кунтушы і са срэбнаю чаркай,
Я шукаю Чароўную Панну.

Але сёння Яна не ў гуморы
І не хоча ісці на спатканне.
Пэўна, буду блукаць я да рання
У кампаніі поўні і зорак.

* * *

Вясновы снег
Дзівосна-недарэчны,
Як часу бег,
Якому мы пярэчым,
Турботаў мех,
Што прыціскае плечы,
Як першы грэх,
Адвечны чалавечы.

* * *

У Мінску восень.
У Мінску туман і слота.
У небе просінь —
як амбразура дота.

Па мокрым парку
Блукаюць чужыя цені,
я ў бары з чаркай
шукаю сваё натхненне.

* * *

Дзіўны сон —
белы снег,
недзе стогн,
недзе смех,
недзе соль
новых слёз,
новы боль,
новы лёс,
новы дзень —
шпаркі бег,
дзіўны сон —
белы снег.

* * *

Снег на дрэвах і на дахах,
На машынах і кустах,
Снег на марах і на жахах,
І на колішніх снягах.
І нічога больш не бачна,
Толькі белы-белы снег,
Хай халодны, але смачны,
Як калісьці першы грэх.

А цяпер грахоў замнога,
Не хапае ўжо снягоў,
Прыхаваць каб іх ад Бога
І суседскіх языкоў.

* * *

Хацелася быць мне вясёлым,
Хацелася радасным быць,
Святлом сваім пушчы і горы
На досвітку пазалаціць.

Відаць, нездзяйснёнаю мара
Мая застанецца ўжо,
Ўсе мары, як шэрыя хмары,
Сцякаюць па шыбе дажджом.

* * *

Адзінокія кроплі дажджу,
Адзінокія твары людзей,
Адзінокім вар'ятам хаджу
У кампаніі марных ідэй.

Бессэнсоўныя шыльды наўкол,
Бессэнсоўныя плыні машын.
І не д'ябал, і не анёл,
Ўчора, сёння і заўтра адзін.

Я іду ў адзіноце дажджу,
Ў бессэнсоўнасці плыняў машын
І нічога сабе не прашу.
Ад чаго гэта ўсё? Адкажы!

Толькі што застаецца рабіць?
Рушыць шляхам дажджоў і завей
Толькі каб на імгненне злавіць
Позірк гэтых чароўных вачэй…

*Аляксандра ФЕДЧАНКА-ХАМЯНОК*

# АПОШНІ НЕКРАЛОГ

***Апавяданне***

«“Мама!” — ускрыкнула маленькая дзяўчынка і пабегла насустрач маладой жанчыне. Яе попельныя валасы, спехам сабраныя ў касу, зусім раскудлаціліся. У іх шалеюць паўднёвыя промні сонца. Яе вялікія цёмныя вочы блішчаць — дачакалася. Маладая жанчына паскарае крок. Іх падзяляюць метры і нашпігаваныя, як калейдаскоп каляровымі шкельцамі, незлічоныя гады».

Я падзарабляю ў рэдакцыі адной з мясцовых газет. Пішу некралогі. Па тры долары за штуку. Вылічваю я іх менавіта ў «штуках» — толькі так атрымліваецца захаваць хоць нейкую незалежнасць ад гэтых гісторый. Мой рэдактар Марат, дарэчы, усе гэтыя гады на дзіва ўважлівы да маёй працы, нават занадта: патрабуе падрабязнага апісання жыцця нябожчыка, яго заслуг, прычын і акалічнасцей смерці. Уручаючы мне на штодзённай планёрцы чарговую порцыю «працоўнага матэрыялу» з прыкладзенай фотакарткай (як ён лічыць, для большай эмацыйнасці), Марат кажа:

— Сёння «штука» пра такога-та. Займайся. Я за табой сачу.

Безумоўна, гэтыя «такія» застаюцца жыць у сэрцах сваіх блізкіх і сяброў, але для мяне іх жыццяпіс — штодзённая руцінная праца, якая дае магчымасць ні ў чым сабе не адмаўляць: два разы на тыдзень хадзіць на літаратурныя курсы і столькі ж разоў на месяц наведвацца ў джаз-бар, каб паслухаць Сёміны гітарныя сола. За месяц выходзіць у сярэднім па сорак «штук», а ў сезон і таго больш. Праца не бог ведае якая, але грошы прыносіць.

Аднойчы прыйшлося пісаць пра сваю маці. Ведаючы пра мае «кіслыя» заробкі і шчыра, напэўна, жадаючы дапамагчы мне «падняцца», Марат параіў мяне свайму сябру і канкурэнту містэру Зед: буйной рыбе ў сферы рэдакцыйнай справы. Зед, як мне падказалі, быў па натуры чалавекам слабахарактарным і неверагодна ўражлівым. Каб пазбегнуць «калідорных» абмеркаванняў яго здольнасцей падначаленымі, ён не мог даручыць напісанне, па яго словах, «гэткага далікатнага матэрыялу» камусьці са сваіх супрацоўнікаў. Акрамя таго, як высветлілася пазней, па просьбе адна-



***Аляксандра Федчанка нарадзілася ў 1984 годзе ў горадзе Мсціславе. Закончыла юрыдычны факультэт БДУ, цяпер вучыцца ў магістратуры. Пісаць пачала яшчэ ў школьныя гады. Была адзначана ганаровай граматай арганізатараў 4-га Беларускага моладзевага эпістальярнага конкурсу «Ліст да чалавека, якога мне не стае». Піша вершы і апавяданні.***

кашнікаў маёй маці ён голасна паабяцаў напісаць пра яе сам. Ніхто не памятаў Зеда такім чуллівым.

Натуральна, не напісаўшы і радка, напярэдадні здачы газеты ў вёрстку, містэр Зед нечакана ўспомніў пра сваё абяцанне. Не знайшоўшы лепшага выйсця, ён звярнуўся да Марата, які, не маючы аніякага ўяўлення пра мае роднасныя сувязі — жыву пад іншым прозвішчам, — накіраваў мяне да Зеда. Я, уся ў сінім і ў прадчуванні лёгкіх грошай, паляцела на сустрэчу.

— Любая, — распачаў містэр Зед. — Ты ж разумееш, у якую пастку я трапіў. І праца твая будзе добра аплачана. Адмовы не прыму, а ты пастарайся ўжо. Вось, трымай. І каб тэкст быў моцным, мужчынскім.

Гэта ён прамовіў з такой інтанацыяй, што я разгубілася, мне зрабілася моташна. Секунд трыццаць сядзела, утаропіўшыся ў яго твар і спрабавала ўцяміць: здзекуецца Зед з мяне, альбо сапраўды моліць пра дапамогу. Я разгарнула ўрачыста перададзеную мне папку і хутка прабегла вачыма па пунктах анкеты, якую запаўняюць сваякі ці знаёмыя нябожчыка. Яе прозвішча. Мяне паралізавала. Зед працягваў яшчэ нешта гаварыць, але я ўжо нічога не чула. У вушах звінела, быццам сотні цыкад знайшлі ў маёй галаве прытулак. Я не магла паверыць. Імя, год нараджэння, адукацыя, — усё супадала. Чорт! І я паляцела ў прорву з мільёнамі цыкад. Мне здалося, што нават заплюшчыла вочы і разявіла рот, каб лягчэй перанесці ціск палёту. У сапраўднасці ж я глядзела на шырынку містэра Зед, які бязлітасна шпігаваў мяне славеснымі бутэрбродамі са сваіх страхаў і вартасцей. Калі ж яго калючы позірк упаў на мае калені, я нечакана для самой сябе выціснула ўсмешку, проста сказала «добра» і развіталася. Гэтым я зрабіла сабе ласку, пазбавіўшыся, нарэшце, ад панурага пачуцця ўласнай мізэрнасці, якое ўзнікае ў прысутнасці такіх, як Зед. Ён быў з ліку тых, хто, не маючы аніякага на тое права, бярэ на сябе занадта шмат. Але нягледзячы на сваю відавочную нікчэмнасць, выходзіць з любой сітуацыі пераможцам.

Пакінуўшы рэдакцыю, я наўпрост пашыбавала напівацца ў бліжэйшую кавярню, трымаючы пад пахай спехам згорнутую папку з фактамі свайго ўласнага жыцця…

Тры гады мы жылі ўдваіх з бацькам. Да яго смерці. Ён памёр ад рака ў сорак пяць. Я сышла разам з ім ад маці з пачуцця салідарнасці і перакананасці, што ён ва ўсім меў рацыю. Так у мяне з’явіліся мачыха Кірачка і зводны брат Сёма. Мне было тады чатырнаццаць.

У дзень ягонай смерці я павінна была ляцець у Англію. Такім чынам мяне ўзнагародзілі за руплівае наведванне семінараў па англійскай мове.

Я памятаю, як у адзін дзень усё неяк скрывілася: у школе на мяне пазіралі з непрыхаваным жалем, да нас, нягледзячы на мае дзёрзкія пратэсты, пераехала жыць Кірачка, а мяне «перасялілі» ў іншы пакой. Як мне тады растлумачылі, маўляў, у маім былым — адзіна зручнае для хворага бацькі крэсла. Толькі ў ім ён неяк засынаў. І хаця гэты аргумент падаўся мне тады непераканаўчым, я зрабіла выгляд, што ўсё зразумела. Напярэдадні ад’езду я сказала Кірачцы, якая гатавала мне бутэрброды:

— Мне здаецца, тата страціў розум. Ён кажа, што бачыць рыб у куце, на сцяне.

Кіра павярнулася да мяне. У яе позірку чыталіся боль і раздражненне:

— Так, там сапраўды рыбы, — выціснула яна. — Прыгледзься.

Я сціснула зубы і вырашыла тады, што розум страцілі яны абодва. Але на ўсялякі выпадак вырашыла прыгледзецца да той плямы на сцяне, у якой мой згасаючы ад моцных лекаў і болю бацька бачыў бясконцыя касякі рыбы. Натуральна, там нічога не было. Дарэчы, толькі праз гады два, паваліўшыся ў тое самае крэсла я, п’яная і

ад гэтага задаволеная, спрабавала злавіць сваю свядомасць у перапоўненай рыбай пляме. Гэта здарылася толькі аднойчы. Бацька быў сумленным чалавекам і нават у гэтым меў рацыю, а я адчула сябе вінаватай і… дарослай.

У той вясновы дзень вылецець у Лондан мне не пашанцавала. За дванаццаць гадзін чакання ў аэрапорце ніхто з праважатых і словам не абмовіўся, хаця ўсе ведалі, што бацькі майго ўжо няма. Прапанаванае мне ў той дзень труслівае тлумачэнне: «Мы цябе берaглі», зрабілася ледзь не дэвізам маёй радні на шматлікія гады наперад і прыкрыццём для ўсіх прынятых без майго ўдзелу рашэнняў. Я добра памятаю той таксафон пад лесвіцай, каля эскалатара. Кожную гадзіну я тэлефанавала Кірачцы і, захлёбваючыся, распавядала пра аэрапорт, самалёты, якія ўзлятаюць і прызямляюцца, пра д’юці фры, дзе ўсё прадаецца за «чужыя» грошы, і Бог ведама пра што яшчэ. Кірачка, здавалася, шчыра радавалася маім адкрыццям і праўдападобна захаплялася маёй назіральнасцю. Але мае спробы пагаварыць з бацькам перарывала рэзка і безапеляцыйна:

— Ён спіць. Вельмі моцна.

— Ну, добра. Хай спіць. Я пазней патэлефаную.

І я бегла далей вывучаць закуткі аэрапорта. Якой жа я была наіўнай. У сямнаццаць год…

Прыйшоўшы дадому, паклала папку на ложак і, не сказаўшы сабе ані слова, пайшла спусташаць страўнік. Высветлілася, што маці памерла ў чацвер — проста не прачнулася. Лёгкая смерць для такой жанчыны. Фотаздымкі, мае лісты, яе вершы: дзе яны гэта ўзялі? Я пашастала па закутках сваёй памяці: адзін і той жа сюжэт зноў і зноў. Заплюшчыла вочы.

«“Мама!” — ускрыкнула маленькая дзяўчынка і пабегла насустрач маладой жанчыне. Яе попельныя валасы, спехам сабраныя ў касу, зусім раскудлаціліся. У іх шалеюць паўднёвыя промні сонца. Яе вялікія цёмныя вочы блішчаць — дачакалася. Маладая жанчына паскарае крок. Іх падзяляюць метры і нашпігаваныя, як калейдаскоп каляровымі шкельцамі, незлічоныя гады».

«Мама…» — ледзь чутна прашаптала я і прачнулася.

*За гэты кавалак газетнай паперы я атрымала свой двухмесячны заробак. Але канверт так і не распячатала, кінула яго ў скрыню з надпісам: «Дапаможам безнадзейна хворым дзецям». Сышла з літаратурных курсаў і вучуся граць на гітары. Некралогі я больш не пішу...*



Алеся КУЗЬМІЧ

# АПАВЯДАННІ



***Алеся Кузьміч нарадзілася ў 1983 годзе ў горадзе Талачын на Віцебшчыне. Скончыла Аршанскі дзяржаўны педагагічны каледж, пазней БДПУ імя М. Танка (факультэт беларускай філалогіі і культуры). Працуе рэдактарам аддзела пісьмаў і сацыяльна-бытавых праблем раённай газеты «Наша Талачыншчына».***

## А ШТО ЗА МАНІТОРАМ?

Кватэра, як і штодзень дагэтуль, сустрэла насцярожанай цішынёй, якая заўсёды палохала Насцю. Што толькі ні выдумляла яна, каб не прыходзіць у цішыню, — завяла спачатку ката, пародзістага, вельмі дарагога, які дзесьці праз тыдзень выслізнуў за дзверы і знік, а потым быў сабака, невялічкі такі, смешны шарпей Пупс, які трапіў пад колы машыны, калі Насця вывела яго выгуляць. Потым узнікла думка пра папугая ці марскую свінку, але шкада стала жывёл — з імі ж таксама нешта здарыцца. Абавязкова здарыцца…

За сем гадоў, што Насця жыла ў гэтай кватэры, якая засталася ёй ад бабулі, яна спачатку доўга прывыкала да цішыні, потым знайшла ў ёй нейкую асалоду і задавальненне: прыходзіш з працы, а цябе ніхто не чапае, можаш рабіць, што пажадаеш. Але хутка цішыня ператварылася ў ворага — гэткага дзіўнага, нячутнага і нябачнага ворага, які адным тым, што прысутнічаў, даводзіў часам да брыдкіх страшных думак. Насця пачала баяцца цішыні, цемры і адзіноты. Асабліва невыносна было ноччу, калі хочацца спаць, няма аніякага жадання чытаць ці глядзець тэлевізар, ужо вочы стаміліся ад камп’ютара, толькі ж класціся ў ложак страшна, як і страшна выключаць святло, бо не ведаеш, што там у цемры. Думкі малююць розныя жудасці, хаця розум падказвае — усё гэта проста самападман.

Апошнім часам Насця часта засынала, так і не выключыўшы святло ў пакоі, было і такое, што ўсю ноч прыглушана бубнеў тэлевізар. Аднойчы, ужо далёка за поўнач, калі Насця доўга не магла заснуць, яна ўсё ж задрамала… каля камп’ютара, схіліўшы галаву да стала.

А вось раніцы яна любіла! Нават, калі зусім не выспаная, за дзесяць-пятнаццаць хвілін збіралася на працу, ледзь паспяваючы прывесці сябе ў больш-менш прэзентабельны выгляд. На работу нельга было прыйсці «не ў форме». Бо ж недарма сцвярджаюць, што сакратарка — візітная картка арганізацыі. Трэба сказаць, што і дырэктар, Маргарыта Іванаўна, ніколі не стрымлівала сябе, калі заўважала, што знешнасць

супрацоўнікаў не адпавядае ўзроўню фірмы. Часам так магла зрабіць заўвагу, што хоць ты бяжы да яе і прасі прабачэння за тое, што абразіла вытанчаны густ і сапсавала і без таго заўжды дрэнны настрой начальніцы няправільна, на яе думку, падабраным колерам памады.

Насця дабіралася да працы грамадскім транспартам — калі на аўтобусе, калі на метро. І толькі зрэдку на сваім «опелі», які па ўзросце быў равеснікам гаспадыні, а дагэтуль змяніў вялікую колькасць уладальнікаў. «Опелю», як і Насці, трыццаць два гады. І калі машына для свайго ўзросту была даволі жвавенькай, то Насця ў параўнанні з ёй — зусім старая, пастаянна стомленая, знерваваная ды маўклівая.

— Добрай раніцы, — гэта праз прыёмную праплыла Маргарыта Іванаўна. — Захварэла? Лячыся…

Адказу на пытанне, як і заўсёды, яна не чакала. Пакуль Насця падняла ад манітора вочы, дырэктарка ўжо знікла за дзвярыма свайго кабінета. Пытанне наконт здароўя і лячэння павіслі непатрэбнымі, нікому не адрасаванымі словамі дзесьці паміж Насціным сталом і бліскучымі дзвярыма з шыльдачкай, якая паведамляла наведвальнікам пра час прыёму па асабістых пытаннях і перапынку на абед.

Дзіўна неяк атрымліваецца — прыём па асабістых пытаннях павінен адбывацца кожны аўторак з дзесяці да дванаццаці, пры тым, што ў гэты адрэзак часу ў Маргарыты Іванаўны менавіта ў аўторак праходзіла вытворчая нарада. Дзесьці за пяць хвілін да дзесяці нуль-нуль дырэктар звычайна загадвала нікога ў кабінет не пускаць, акрамя тых, хто ёй патрэбны. І Насця ведала, што ў кабінет на штотыднёвую нараду, якая кожны раз называлася нечарговай, прыйдуць людзі, для якіх аўторак — дзень куды цяжэйшы за панядзелак. На нарадзе звычайна кагосьці пазбаўлялі прэміі, аднойчы нават звольнілі…

Да Насці ж гэта не мела аніякага дачынення. Галоўнае, што ў яе быў камп’ютар, падключаны да сусветнай павуціны. А там — сацыяльныя сеткі, сайты знаёмстваў, там — тыя, хто, як і Насця, жыве перапіскай, віртуальным фліртам і такім жа каханнем, якое апошнім часам станавілася ўсё больш модным. А чым дрэнна? Пасварыцца ў інтэрнэце малаверагодна, бо ёсць час падумаць, перш, чым напісаць нешта… Цікава, што знешнасць у віртуальным свеце значна саступае пазіцыі, бо мноства камп’ютарных праграм дае магчымасць выправіць літаральна ўсе знешнія заганы. На фотаздымках сайтаў знаёмстваў адно з двух — або прыгожыя, бо ўмеюць карыстацца выратавальнымі праграмамі, або на аватарках «вісяць» усемагчымыя зоркі рознай велічыні і вядомасці. І толькі мізэрная колькасць карыстальнікаў пакідае свае аматарскія недапрацаваныя разумнымі праграмамі фотаздымкі. Гэта тыя, хто недзе ў глыбіні душы яшчэ захаваў трапяткую веру ў даўно страціўшае актуальнасць сцвярджэнне, што знешнасць — не галоўнае, абы чалавек добры быў. Праўда, чамусьці гэтыя добрыя людзі практычна ніяк не могуць знайсці сабе спадарожнікаў па жыцці. Так і «вісяць» у інтэрнэце аматарскія фотаздымкі. Добра яшчэ, калі фон цікавы, а калі фотакартка ўзята з пашпарта ці студэнцкага білета…

Насця праглядае анкеты — «для сур’ёзных адносін», «для стварэння сям’і»… Вось дзіўна, людзі пішуць, што знаёмяцца толькі для стварэння сям’і, пры гэтым у графе «патрабаванні да прэтэндэнта» столькі прыгожых слоў ды выразаў, нават душэўнасці… «Шукаю звычайную добрую дзяўчыну. Галоўнае — не знешнасць, а ўнутраны свет, уменне зразумець, падтрымаць…» Так было ў анкеце нейкага трыццаціпяцігадовага Віктара. Але ў першых радках яго паслання да Насці быў шэраг

пытанняў пра рост, вагу, памер грудзей, колер валасоў, вачэй… І гэта пісаў чалавек, для якога знешнасць не мае значэня. Ці для яго якасць душы і ўнутранага свету чалавека вызначаецца ростам, вагой і аб'ёмам таліі?..

«Без матэрыяльных і жыллёвых праблем. Шукаю сімпатычную дзяўчыну, якая згодна пераехаць да мяне ў вёску…» Гэта ўжо Мікалай. Ён напісаў Насці ледзь не цэлую аповесць пра сябе, сваю працу, пра братоў ды сясцёр. У канцы не забыў пацікавіцца Насцінай зарплатай і тым, ці ёсць у яе асабістае жыллё, колькі яно «квадратаў». Калі даведаўся, што ў субяседніцы двухпакаёвая кватэра ў цэнтры сталіцы, адразу ж вырашыў, што жыць яны будуць у горадзе, маўляў, магчымасцей больш і ўсё такое, што ў падобных выпадках гавораць. Прыехаць і пераехаць быў гатовы ледзь не ў той жа дзень. І гэта той чалавек, які пісаў, што родную вёсачку не прамяняе ні на які, нават самы прыгожы, горад.

Насця ўжо даўно нікому не пісала — расчаравалася. З усёй разнастайнасці прэтэндэнтаў застаўся толькі Алег. Менавіта ён быў прычынай таго, што Насця начамі сядзела каля камп'ютара, ды і днём старалася зазірнуць на сайт, дзе яны пазнаёміліся, каб паглядзець ягоныя новыя фотаздымкі. Алегу трыццаць восем. Зрэшты, да гэтай інфармацыі дзяўчына ставілася крытычна — хутчэй за ўсё яму сорак, а мо і больш. У інтэрнэце ж напісаць усякага можна. У яе анкеце, напрыклад, пазначаны ўзрост 28 гадоў.

Алег з тых карыстальнікаў інтэрнэту, якія знаёмы з праграмамі для апрацоўкі фота. Па яго словах, ён увогуле з камп'ютарам на «ты», бо працуе праграмістам.

З Алегам Насця перапісваецца ўжо больш як месяц — стаж для віртуальнага знаёмства даволі значны. У адрозненні ад іншых Алег піша граматна, не прапускае ніводнай коскі, карыстаецца і працяжнікам, і двукроп'ем, што ў інтэрнэт-перапісцы ўжываецца рэдка. Самае ж галоўнае: ён цікавы субяседнік. Насця зрабіла такую выснову пасля таго, як яны амаль усю ноч абмяркоўвалі літаратуру школьнай праграмы, — што і ў якім узросце лепей чытаць. Чаму, да прыкладу, у школе чытаць «Вайну і мір» нецікава, а потым, праз некалькі гадоў твор вельмі займальным робіцца… Не тое, каб Насця дасканала разбіралася ў літаратуры, зусім не. Проста ў апошні час шмат чытала, асабліва перад сном, каб не думаць пра тое, што яна адна, што ў кватэры нясцерпная цішыня…

Алег таксама жыве ў сталіцы. Ён распавядаў, што ў яго свая кватэра недзе недалёка ад арганізацыі, дзе працуе Насця. Але сустрэцца пакуль што не прапаноўваў. Маўчала і яна.

«Добрай раніцы. Як настрой?» — прыйшло паведамленне праз «аську». Гэта Алег.

«Так сабе. Яшчэ не прачнулася». На вуснах Насці з'яўляецца ўсмешка — ранішняе вітанне Алега становіцца добрай традыцыяй. «А ты як?»

«Добра. Іду гуляць. Надвор'е выдатнае. Пайшлі разам!»

Дзівак, ведае, што яна на працы, і прапануе. Загадзя разлічвае на адмову?

Насця раптам зірнула на гадзіннік — да завяршэння «чорнага аўторка», як звычайна называлі гэты прамежак часу калегі, яшчэ паўтары гадзіны… Не, гэта залішне. Збягаць з работы невядома куды, невядома да каго. Пры тым, што Маргарыце Іванаўне ў любы момант можа што-небудзь спатрэбіцца. Не… А хаця…

«Куды пойдзеш?»

«У Батанічны сад».

Гэта недалёка. За паўтары гадзіны можна паспець вярнуцца… Але ці патрэбна?

«Пойдзем. Але дзе я цябе там шукаць буду?»

Насця схапіла тэлефонную трубку.

— Волечка, добрай раніцы. Дапамагай. Здаецца, забылася дома ваду выключыць у ванне. Не знаходжу сабе месца. А ў нашай — разбор палётаў. Пасядзіш за мяне? Калі што якое, скажаш, што ў аптэку пайшла. Яна, здаецца, раніцай заўважыла, што я хварэю…

Праз некалькі хвілін Насця ўжо выбегла на вуліцу, спусцілася ў метро…

Алег напісаў, што будзе чакаць каля ўвахода ў Батанічны сад. Насця ўяўляла сабе сустрэчу амаль месяц, не, крыху менш, бо адразу ён зусім не спадабаўся ёй, і яна не планавала доўгую перапіску. А потым вось неяк склалася… Насця разумела, што ўсё ў Алегавай анкеце можа быць лухтой, але так хацелася верыць…

Сёння на дзіва цёплае сонца. І людзі… Людзі ўсміхаюцца. Насця выбегла з метро. Яшчэ некалькі хвілін — і яна ўбачыць чалавека, пра якога, дзякуючы месяцу перапіскі, ведае амаль усё… А можа думае, што ведае. Трэба хутчэй, а то Вольга пакрыўдзіцца, калі Насця не прыйдзе ў час…

А вось і ўваход у Батанічны сад. Насця азірнулася — нідзе не бачна зеленавокага брунета, чалавека, які ёй ужо некалькі разоў сніўся, які павінен яе тут чакаць. Няўжо не дачакаўся? Чаму яна, дурніца, не пацікавілася яго нумарам тэлефона? Выходзіць, што дарма ехала… Азірнулася яшчэ раз — каля касы нейкі дзядуля з маленькім унукам, на лавачцы — нецікавы малады чалавек, занадта худы і ў акулярах, на другой — хлопец з дзяўчынай. Больш нікога.

Насця ўздыхнула і нетаропка павярнулася да метро. Гэтага можна было чакаць, чаму не падумала загадзя? На вочы нагарнуліся слёзы. А яна спадзявалася, нават пачала планаваць, як яны з Алегам сустрэнуцца, ён падорыць ружы, бо цікавіўся ж, якія кветкі яна любіць. Яны будуць шмат размаўляць, ён, магчыма, не — абавязкова — запросіць яе ў кафэ, а потым, ужо вечарам, праводзіць дадому. І яна будзе адчуваць сябе ўтульна побач з ім… А інакш і не ўяўлялася.

Насця падышла да метро. Крыху пастаяла ў разгубленасці перад роўнымі радкамі прыступак, якія беглі ўніз, і па якіх цэлымі днямі сноўдалі людзі. Дзіўна, калі глядзіш на іх, стоячы ўнізе, то яны імкнуцца ўверх, а калі глядзець так, як цяпер Насця, то тыя ж самыя прыступкі — шлях у адваротным напрамку. Як і ў жыцці… Насця задумалася. А мо варта паглядзець на сітуацыю з іншага боку? Калі б яна не прыбегла сюды, то б і далей чакала цудаў, праводзіла ночы каля манітора, чакаючы пакуль чалавек, да якога яна паспела ўжо прывыкнуць, напіша ёй тое, што яна чакае ад яго пачуць… Цяпер прасцей. Цяпер усё стала значна прасцей…

Насця рашуча пайшла па тратуары. Да работы дабярэцца пешшу, ёй трэба падумаць, разабрацца ў сітуацыі. Нічога, калі і спозніцца. Ды і надвор'е сёння надзвычай прыемнае, хаця Насця і не вельмі любіць вясну.

Нешта не складвалася ў жыцці. І цягнецца гэта ўжо не першы год. Калісьці было і вялікае каханне, і мары пра сям'ю, і ён… Такі родны, зразумелы. Але нешта сапсавалася ўжо тады. Насця добра памятае кожны дзень перад расстаннем. Спачатку ёй падалося, што ён зрабіўся няшчырым, потым — тое ж самае пачула ў свой адрас. Быў момант, калі хацела сказаць яму ўсё — што кахае, хоча сур'ёзных адносін, што даўно перастала бачыць у ім проста сябра. Хаця думала, што ён і так пра ўсё ведае. Але ён апярэдзіў Насцю, прызнаўся сам. Сказаў, што сустрэў дзяўчыну сваіх мар і цяпер запрашае сяброўку дзяцінства на вяселле ў якасці ганаровай госці. Што тады было з Насцяй, не мог зразумець ніхто. Зрэшты, ніхто ж і не здагадваўся пра яе пачуцці. Сябруюць хлопец з дзяўчынай са школы і сябруюць… Насця тады ўжо

скончыла вучылішча і планавала застацца ў сваім райцэнтры працаваць, бацькі ўжо і месца знайшлі. Але, калі даведалася, што каханы хоча пабрацца шлюбам зусім не з ёю, Насця змяніла планы. Паехала да бабулі ў сталіцу. Наведвацца да бацькоў адмовілася катэгарычна, больш у родным горадзе за апошнія дзесяць год і не была… Яна і не ведала, ці ажаніўся чалавек, якога лічыла калісьці каханым, як жыве. Маці, магчыма, здагадвалася пра прычыну дочкиных уцёкаў, бо, прыязджаючы ў госці, ніколі нічога не казала ні пра таго хлопца, ні пра яго жонку. Не ўспомніла аніводным словам былое сяброўства.

А тое, што не прыйшоў сёння Алег, — добра. Гэта нават выдатна. Усё роўна адносіны, народжаныя дзесьці ў глыбіні інтэрнэту, не маглі быць сур'ёзнымі. Насця пра гэта здагадвалася і раней, але перапіска з Алегам запаўняла адзіноту, разбаўляла цішыню, дапамагала забыцца на тое, што рэальнае жыццё — зусім не такое простае, як на сайце знаёмстваў. Зрэшты, а чым дрэннае жыццё без манітора камп'ютара?.. Насця спынілася, азірнулася, усміхнулася нейкаму маладому чалавеку, які ішоў насустрач, заўважыла невялічкую краму, дзе прадавалі кветкі. Купіла тры белыя ружы, пакрочыла далей.

Насця любіла кветкі, усялякія. Можа таму, што ёй ніхто ніколі іх не дарыў.

Калі б яна паглядзела на сябе збоку ў той момант, калі падыходзіла да дзвярэй офіса, здзівілася б сама. Таму і не дзіўна, што Вольга, якая сядзела на яе месцы ў прыёмнай, нават паднялася з крэсла.

Зазірнуўшы ў манітор, Насця ўбачыла паведамленне ад Алега. «Прабач, я не змог прыйсці. Выклікалі на працу. Давай сустрэнемся вечарам…» Насця засмяялася… Калі не рызыкнуў паказацца днём, не прыйдзе і вечарам, але хоча неяк апраўдацца. Дзівак-чалавек…

Насця набрала знаёмы нумар і пачула ў тэлефоннай трубцы родны голас.

— Мама, гэта я. Ведаеш, вырашыла, што прыеду на выхадныя… Не, нічога не здарылася, я проста прыеду. Канешне, патэлефаную загадзя. Будзе добра, калі тата сустрэне, я ж і заблукаць магу, даўно не была…

А цяпер галоўнае. Насця разгарнула блакнот, дзе запісвала сайты, на якіх рэгістравалася, логіны, паролі, каб не забыць. «Вы насамрэч жадаеце выдаліць сваю старонку з сайта?» — некалькі разоў задавала пытанне разумная машына, спадзеючыся, што Насця «адумаецца» і націсне «не». Але Насця заставалася непахіснай. Прыйшло разуменне ілюзорнасці інтэрнэтнага жыцця. За знешней радасцю, шчасцем, смайлікамі-ўсмешкамі схавана мноства людзей, якія, адчуўшы прастату і прыемнасць віртуальнага сяброўства, кахання, перапіскі, сталі баяцца сапраўднасці. Тут ты з лёгкасцю можаш прызнацца субяседніку ў каханні. Яно нічога не вартае, ні да чаго не абавязваючае, а назаўтра гэты ж субяседнік можа з такой жа лёгкасцю занесці цябе ў чорны спіс. Так хутка пачынаецца і заканчваецца віртуальнае каханне. У рэальным жыцці нельга так лёгка знайсці другую палавінку, а тым больш пакінуць чалавека, які надакучыў. А колькі расчараванняў прыносяць спробы пераходу з віртуальнага свету ў сапраўдны… Відаць, чалавек прыходзіць на сайты знаёмстваў і ў сацыяльныя сеткі, каб пазбегнуць сапраўднасці, а не для таго, каб зноў да яе вярнуцца…

Насця выключыла камп'ютар, узяла часопіс, адзін з тых, якія яна купляла кожны тыдзень для наведвальнікаў, якія доўга чакалі ў прыёмнай дырэктара. Пачаўшы чытаць, здзівілася — аказваецца, інфармацыя ёсць не толькі ў інтэрнэце. Проста многія ўжо пра гэта забыліся.

## ВОЧЫ НА ЎЗРОЎНІ ПАДЛОГІ

Асенняе сонца ўжо даўно знікла, прыйшла тая пара, якую не любяць і не называюць пяшчотна-залатой восенню, бо гэтая восень іншая — брудная, мокрая, сумная. Далёка не ўсе рамантыкі знаходзяць у ёй нешта такое, што можа настроіць іх на лад замілавання. Нават яны не здольны знайсці ў гэтым невясёлым часе штосьці адметнае. Кожны дзень падобны да папярэдняга — такі ж шэры і нудотны.

Вечарамі раней запальваюцца ліхтары на вуліцах, пакідаючы сумныя жаўтлявыя плямы свайго святла ў брудных халодных лужынах. Часам яны ўздрыгваюць ад чыісьціх крокаў або разлятаюцца вялікімі кроплямі ад колаў аўтамабіляў. І зноў вяртаюцца ў сумную цішыню, зноў зліваюцца ў адну, брудную пляміну.

Такой восенню не хочацца затрымлівацца на вуліцы — гэта не той час, калі можна, назіраючы за доўгім павольным кружэннем лістоты, стаяць у захапленні задраўшы галаву. Не хочацца пад аднастайным нудна-шэрым дажджом разважаць пра жыццё — няйнакш і яно атрымаецца менавіта такім, шэрым… Або і таго горш — шэра-чорным. Таму людзі і спяшаюцца з працы дадому. Нідзе не затрымліваюцца, нідзе не спыняюцца, нават не размаўляюць… Адна толькі думка і імкненне — дадому. Туды, дзе цёпла, дзе няма гэтай халоднай макрэчы, дзе тэлевізар ды гарачая духмяная кава і любімае крэсла з тоўстым пледам. Навошта стаяць і калець на вуліцы, калі столькі прыемнага чакае дома?.. Гэта для тых, у каго ён ёсць, дом. А вось калі яго няма, гэта ўжо іншая гісторыя, зусім іншая…

* * *

Яго ведаюць многія. Зрэшты, гэта зусім не дзіўна — ён нікуды не хаваецца, заўсёды каля людзей, іншым разам нават і размаўляе з імі. Яны, праўда, часцей за ўсё ідуць міма, робяць выгляд, што не заўважаюць, не чуюць, не бачаць. Але ён ёсць…

З раніцы звычайна сустракае першыя электрычкі. Бывае, што менавіта тут і зарабляе на сняданак. Стоячы на пероне, ён назірае — можа хто з заспаных пасажыраў што-небудзь згубіць. Калі людзей становіцца менш, хуценька прабягае па вагонах, каб паспець раней за прыбіральшчыц знайсці ўсё тое, што пасажыры пакінулі на сядзеннях. Шанцуе не часта, бывае, што і з пустымі рукамі выходзіць з цягніка. Аднойчы знайшоў жаночую сумачку, маленькую, мабыць, даволі дарагую. Тады ён не прайшоў усе вагоны… Было ўжо не да пошукаў.

Знаходка аказалася сапраўды нядрэннай — акрамя асабістай каштоўнасці, яна змяшчала ў сабе кашалёк са значнай сумай грошай і невялічкую касметычку з некалькімі залатымі пярсцёнкамі і завушніцамі. Даволі хутка і сумачка, і пярсцёнкі ператварыліся ў грошы.

Сказаць, што хапіла іх надоўга, нельга. Ненадоўга. Тады Руды, як клікалі яго сябры, такія ж, як і ён — без пэўнага месца жыхарства — стаў на некалькі дзён гаспадаром і сапраўдным мужыком. Частаваў усіх — знаёмых і незнаёмых. Што толькі ні пілі — і віно, і гарэлку, а адзін раз Руды нават здзівіў гасцей невялічкай бутэлькай каньяку. Але гэта хутка скончылася. І зноў — раніца, электрычкі, людзі, якія адмахваліся ад яго, як ад надакучлівай мухі, хаця ён і не вельмі да іх вязаўся. Скажуць, што не дадуць грошай, — ён і адыходзіць, не настойвае…

Насамрэч Руды не зусім без пэўнага месца жыхарства. Ён жыве ў гаражы. Калісьці ў гэтым жа гаражы стаялі ягоныя новенькія «Жыгулі», а цяпер застаўся толькі стары трохногі стол і паламаны ложак, які некалі быў першым прадметам

мэблі ў новай кватэры. Зрэдзь да Рудога заходзілі ў госці сябры, часам начавалі, але ніхто не затрымліваўся надоўга — не любілі яны аседласці, а можа, і баяліся яе… Мішка Кот, былы зэк, у свой час змайстраваў для Рудога штосьці накшталт пліты, каб рыхтаваць ежу і грэцца, неяк падключыўшы да электрычнасці. І пакуль не пачалі правяраць гаражы на прадмет пажарнай бяспекі, Рудому было цёпла і часам нават сытна. Цяпер даводзілася грэцца каля старэнькай грубкі, якую Руды выцягнуў з пакінутага дома ў недалёкай вёсцы. Але з палівам — дровамі — была праблема. Гэта ж не ў вёсцы, дзе прайдзіся да лесу і назбірай голля ды буралому, а хочаш, то і каля хат можна пашукаць у драўніках ці хлеўчыках. А тут горад, дзе кожнае дрэва на ўліку, а задарма ніхто і паленца не дасць.

Руды ўжо даўно прывык не есці вечарамі. Не таму, што не любіў ці не ўмеў гатаваць, а таму, што вечарамі звычайна ён быў п'яны. Здаралася і такое, што не памятаў, як дадому вяртаўся… Раніцай усё пачыналася наноў — электрычка, вакзал, крамы, сябры, гараж…

Ужо гадоў дзесяць так жыў Руды, а мо і болей. Зрэшты, няма сэнсу лічыць. Навошта? Гэта толькі псуе настрой. А калі ў Рудога няма настрою — тады ў кампаніі ён маўклівы, шмат курыць, на кожнае неасцярожнае слова звычайна адказвае кулакамі. І абавязкова на некалькі дзён знікае, сябры ўжо ведаюць — Руды ў дэпрэсіі. А ён і сапраўды адчувае сябе не вельмі добра. Ды і як па-іншаму, калі ў гэтыя некалькі дзён яму як ніколі хочацца вярнуцца ў мінулае дзесяцігадовай даўнасці, хочацца жыць, як усе, мець жонку Ларысу, прыгажуню-дачушку Лідачку, машыну… Дзе цяпер Ларыса і Лідачка?.. Колькі ўжо Лідачцы?.. Чаму ўсё ў жыцці так дзіўна і незразумела склалася?..

* * *

— Я дома! — нясецца з вітальні звонкі жаночы голас. — Васіль, можа б ты сумкі ўзяў?

Яна не папракае, што ён сам не дадумаўся выйсці, яна ніколі не папракае. Кожнае яе слова — мяккае, пяшчотнае, нібы сонечны праменьчык. Нават, калі яна незадаволена, то ніколі не крычыць і нікога не асуджае. Гаворыць так, быццам нагадвае пра тое, што хтосьці забыўся нешта зрабіць. За гэта Васілю многія зайздросцяць, асабліва інстытуцкі сябра Воўка Жураўлёў, які жанаты на Наталлі. Яна спуску мужу не дае, а калі, крый Божа, Воўка дадому прыйдзе нам падпітку, то не тое што ў іхняй кватэры, а нават і ў суседніх лепей не знаходзіцца, — занадта ўжо гучна ажыццяўляе выхаваўчы працэс Наталля.

— Іду, — адгукнуўся Васіль.

За тры гады сумеснага жыцця ён так і не навучыўся сустракаць жонку з працы. Яна ніколі не гаварыла, але Васіль здагадваўся, што жонцы было б гэта прыемна.

— Як справы? — пацікавіўся ён, забраўшы з падлогі тры пакеты.

Ніколі не разумеў, што жанчыны могуць набраць у краме, каб валачы дадому такія клункі. Здаецца ж, сам калі ідзеш, то ніколі не цягнеш больш аднаго пакета. Самае неабходнае — хлеб, батон, макароны, соль, цукар… А яны ж нечага накупляюць, што рукі абрываюцца, але ўсё роўна цягнуць. Навошта ім гэта трэба?

— Нічога, нармальна. Сёння зноў за Марынку справаздачу рабіла.

— А што Марынка?

— Ай, у яе чарговае каханне. Ёй няма калі займацца працай. А мне што… Я дапамагчы заўсёды згодна.

— Малайчына.

Пакуль Ларыса пераапраналася, Васіль выцягнуў усё з пакетаў. Паглядзеў, што прынесла жонка, — некалькі кавалкаў каўбасы розных гатункаў, рыба замарожаная, селядзец, некалькі пакетаў круп, яблыкі, бананы, пяток бляшанак тушонкі, памідоры, агуркі — кожнага, мабыць, больш як кілаграм, бутэлька алею, упакоўка гарбаты, нейкае пячэнне, цукеркі. Нібы апошні дзень магазіны працуюць…

— А ў цябе як справы? — у сваю чаргу пацікавілася Ларыса, з'яўляючыся на кухні ў кароценькім ружовым халацiку.

— Добра, вечарам едзем.

— Назад калі?

— Дзесьці праз тыдзень, мо больш. Не ведаю.

— Чаму ў цябе няма звычкі тэлефанаваць, што ты ўжо вяртаешся? Я б вячэру святочную падрыхтавала…

— Што тэлефанаваць… Прыехаў і прыехаў. Гэткае ўжо свята.

— Я ж сумую, калі цябе няма. Чакаю. Для мяне гэта — свята.

Васілю стала прыемна — чакае… Але ў той жа момант у галаве ўзнікла яшчэ адна думка, якая потым не давала спакою ўвесь той тыдзень, які яго не было дома. Чаму яна так хвалюецца, чаму хоча, каб ён паведамляў пра час, калі прыедзе? Можа, у яе з'явіўся палюбоўнік? Зрэшты, ён, Васіль, часта адсутнічае, камандзіроўкі па тыдні-два. Што яна тут робіць, калі застаецца адна? Але не, не можа Ларыса быць з іншым мужчынам. Не такая яна...

* * *

— Не такая яна! І не гавары мне больш нічога! — нібы звар'яцелы крычаў Васіль. — Я ведаю, што ты зайздросціш! Выдумляеш абы-што!

— Супакойся, Васіль. Мне не верыш, спытай у Наташы, мы разам былі, — Воўка курыў каля форткі.

— Як я магу супакоіцца, калі ты мне такое гаворыш? Я табе не веру. Няхай ты і лепшы сябра, і ўсё такое, але я табе зусім не веру. Ты бачыў на свае вочы тое, пра што гаворыш? — Васіль чапляўся за кожную магчымасць, каб толькі апраўдаць жонку.

— Бачыў…

Воўка запрасіў Васіля да сябе адразу, як той вярнуўся з чарговай камандзіроўкі. Сказаў, што хоча сур'ёзна пагаварыць. І вось пагаварыў — сказаў, што бачыў Ларысу з нейкім мужчынам. І яны не проста ішлі побач ці размаўлялі. Ларыса трымала яго пад руку, а ў другой руцэ несла вялікі букет руж.

— Ты нешта блытаеш, — даволі няўпэўнена спрабаваў абараніць жонку і сябе Васіль.

— Не… Усё так і было. Разумееш, я доўга думаў, ці гаварыць табе. Але вырашыў, што трэба. Усё роўна, ты рана ці позна, а даведаешся, потым вінаваціць будзеш, што не сказалі, — разважаў Воўка.

Сапраўды, даведаўся б… Так лепей… Як цяпер паводзіць сябе? Што ёй гаварыць? А можа, гэта ўсё няпраўда? Але навошта Воўку хлусіць?..

— Што мне цяпер рабіць? — Васіль насамрэч не чакаў ад сябра адказу, ён проста думаў услых.

— Што-што… Не ведаю я. Station: Паназірай за ёй, паглядзі, як цябе сустрэне. А там па ходзе будзеш і дзейнічаць. Шкада толькі, што дачка ў вас маленькая. Калі што якое, то не зразумее яшчэ…

Так, вось пра Лідачку Васіль і не падумаў. Малая яшчэ, зусім малая. Чатыры гады ўсяго. Вельмі любіць маму і тату… Смешна так гаворыць… Заўсёды чакае татку з камандзіровак…

— Пайду я, — раптам сабраўся Васіль.

Захацелася дадому, каб упэўніцца, што ўся гэтая гісторыя — глупства. Воўка штосьці пераблытаў. Ведама ж, даўно зайздросціць, вось і прыдумаў…

На вуліцы дажджыла. Восень… Васіль любіў лета, Ларыса — зіму. А восень не падабалася ні яму, ні ёй. Штосьці самотнае ёсць у гэтых доўгіх дажджах, яны нагадваюць усё дрэннае, што калісьці здарылася ў жыцці, вяртаюць думкі да ўсяго таго, што так чакалася, але не збылося. Васіль ішоў па скверы. Вакол — груды бруднай лістоты, паверхня якой ад дажджавых кропель стала падобнай да скуры слізкай жабы: такая ж непрыемная навобмацак. Хто прыдумаў, што восень — пара замілавання? Зусім не так… Васіль ужо даўно заўважыў, што ў ягоным жыцці ўсё самае непрыемнае здараецца менавіта восенню. Калісьці даўно ў студэнцтве, яшчэ да Ларысы, ён сустракаўся з Верай, прыгожай дзяўчынай, лепшай спартсменкай на курсе. Марылі пра будучыню, збіраліся пажаніцца. А восенню на пятым курсе яна нечакана кінула ўніверсітэт і Васіля ды выйшла замуж кудысьці ў Польшчу. Праз год восенню памерла маці, самы блізкі і родны Васілю чалавек. Гэтую страту ён доўга не мог перажыць. Пачаў часта хварэць, не цікавіўся нічым, акрамя працы. Але потым сустрэў Ларысу…

Вось на мокрай лаўцы, на цэлафанавых пакетах сядзяць хлопец і дзяўчына, яна прыхінулася да яго, ён штосьці шэптам ёй расказвае. Яна ўсміхаецца шчаслівай усмешкай закаханай жанчыны. Менавіта такая ўсмешка была ў Ларысы, калі яны з Васілём пачалі сустракацца…

Дождж узмацніўся. Паліто прамокла, халодныя кроплі даўно каціліся па шыі. Але Васіль не звяртаў на гэта ўвагі. Думкі яго былі далёка адсюль. Ларысу ён сустрэў на чыімсьці дні нараджэння. Ён, Васіль, апынуўся там зусім выпадкова, яго не запрашалі, проста так атрымалася. З таго вечара Васіль зразумеў, што Ларыса — жанчына, якая яму патрэбна… У непрацяглы перыяд спатканняў ён гаварыў, распавядаў, разважаў пра такія рэчы, якія наўрад ці былі цікавыя жанчыне, а яна слухала і моўчкі пяшчотна ўсміхалася… Як тая дзяўчына ў скверы.

Васіль не заўважыў, як апынуўся ля дома. Каля пад'езда на нейкай скрыні сядзеў мужчына: незнаёмы, брудны, з доўгімі пасмамі валасоў. З вопраткі на ім можна было пазнаць толькі джынсы, калісьці яны мелі звычайны блакітны колер, а цяпер жа па ім можна было чытаць гісторыю іх уладальніка. Ды і не аднаго. У руцэ незнаёмец трымаў бутэльку «чарніла», на зямлі стаяла яшчэ адна. Падыходзячы, Васіль адчуў пах нямытага цела і вопраткі, паморшчыўся. Заўважыўшы Васіля, мужчына шчыльна закрыў бутэльку, паставіў яе на зямлю.

— Давай вып'ем, — раптам прапанаваў ён.

— Чаго? — Васіль не чакаў, што з ім загавораць.

— Вып'ем, кажу, давай, а то замерз, мабыць… Мокра…

— Дзякую, але я дадому іду, — Васіль хутка адчыніў дзверы і знік за імі.

— Калі што якое, прыходзь, — данеслася з-за дзвярэй.

Васіль ішоў на свой трэці паверх доўга, некалькі разоў спыняўся, пераводзіў дыханне. Адзін раз затрымаўся каля акна на лесвічнай пляцоўцы, назіраў, як, абганяючы адна адну, коцяцца па шкле дробныя кроплі. Яго ніколі не цікавіла гэта відовішча, а тут стаяў бы і стаяў, зачаравана гледзячы на раней зусім не прывабную карцінку. А на сваім паверсе нечакана для сябе заўважыў, што на

падаконніку стаяць вазоны з кветкамі, якіх ён увогуле ніколі не бачыў. А мо іх тут і не было?.. Не, хутчэй за ўсё былі. Проста ён не бачыў, не заўважаў. Як і многае іншае.

На ягоны званок адчыніла дзверы Жанна Іванаўна. Васіль паглядзеў на нумар кватэры, каб упэўніцца, што дадому прыйшоў. Менавіта ў гэты момант ён зразумеў, што, сапраўды, у сям'і нешта здарылася. Хутчэй за ўсё тое, пра што гаварыў Воўка… А мо і яшчэ горш, бо цешча прыходзіла толькі ў асаблівых важных выпадках ці тады, калі яе клікала Ларыса. Жонка ж ведала, што Васіль не любіць Жанну Іванаўну, таму рабіла гэта вельмі рэдка, часцей сама наведвала матулю… За ўсю гісторыю сямейнага жыцця гэта толькі трэці візіт цешчы — першы раз яна прынесла вестку, што памёр Ларысін стрыечны брат, які жыў недзе далёка ў Расіі, другі — калі нарадзілася Лідачка…

— Даўно чакаю цябе, праходзь, — неяк асцярожна і не вельмі ветла запрасіла цешча.

У Васіля склалася ўражанне, што ён не да сябе дадому прыйшоў, а да некага чужога ў госці.

— Дзе Ларыса? — адразу запытаўся, хацелася хутчэй усё высветліць.

— А што табе Ларыса? Распранайся, пагаворым… А Ларыса… Яна потым прыйдзе, можа быць, — Жанна Іванаўна, відаць, хвалявалася, але старалася не падаваць выгляду, хавала пачуцці за маскай сур'ёзнасці і непрыхільнасці да зяця.

— Я пытаюся, дзе Ларыса? Яна дома? — зноў паўтарыў Васіль, а ў галаве пачало пульсаваць: «Праўда! Праўда! Усё праўда!!!»

— Яе няма. І Лідачкі няма. Ты прабач, але гэта раней ці пазней павінна было здарыцца… Сам вінаваты…

Праз некалькі хвілін разгублены Васіль у мокрым паліто зноў з'явіўся на ганку. Дажджу ўжо не было. Бяздомны, які сядзеў на скрыні, ішоў кудысьці да хляўкоў, у руцэ нёс непачатую бутэльку.

— Мужык! — Васіль кінуўся даганяць зусім чужога чалавека, злавіўшы сябе на думцы, што гэты чалавек адзіны на ўсёй зямлі, з кім яму хочацца пагаварыць. — Пачакай… Давай вып'ем.

Бяздомны, якога, як потым даведаўся Васіль, усе клікалі Марусяй, а сапраўднае імя і не памятаў ужо ніхто, азірнуўся, паглядзеў пустымі вачамі, усміхнуўся з нейкім пачуццём задавальнення. Здавалася, што ён знарок ішоў вельмі павольна, чакаў Васіля, нібы ведаў, што ён прыйдзе. А можа, і ведаў…

* * *

Рудога не было доўга, мо месяц, а то і больш. Нарэшце ён з'явіўся, п'яны, зусім непазнавальна-схуднелы. І вельмі злосны… Дзе быў, не распавядаў. Ды і не прынята было ў іхнім асяродку пытацца пра гэта. Дзе быў, там ужо няма… А астатняе непатрэбна.

Можа, Руды захварэў, бо ва ўсіх ягоных рухах адчувалася нейкая пакутлівасць, нібы праз сілу ён ішоў, з цяжкасцю перастаўляў ногі, шмат сядзеў: то на лаўках аўтобусных прыпынкаў, а то ў парку, то каля крамы проста на зямлі, падцягнуўшы да сябе калені. Прасіў людзей даць грошай, не хлусіў, што просіць на гарэлку. Не гаварыў, што на хлеб ці лекі. Часам чуллівыя бабулькі давалі яму некалькі грашовых паперак, пры гэтым божкаючы і ўздыхаючы. Было і такое, што лаяліся, раіліісці

працаваць… Усякага было. Але Руды да ўсяго адносіўся абыякава, нават аптымістычна. Дадуць грошы — добра, вып'е, не дадуць — таксама нядрэнна, бо не трэба падымацца з нагрэтага месца ды ісці ў краму.

Людзей Руды адрозніваў па абутку: на ўзроўні вачэй ён бачыў менавіта чаравікі, боцікі, красоўкі... «Вось пайшлі чорныя скураныя і дарагія — факт, багатая баба, а гэтыя патрэсканыя брудныя, зусім не цікавыя. Ну няхай і патрэсканыя, а памыць жа можна было б, — часцяком мільгала ў галаве Рудога думка. У такія моманты ён забываўся, што ў самога абутак нічым не лепшы, а значна горшы… — А гэтыя бліскучыя боты на высокіх металічных абцасах. Мабыць, іх гаспадыня дагледжаная прыгажуня, хучэй за ўсё бландзінка. — Але Руды не падымаў галавы, каб упэўніцца ў гэтым. — Красоўкі… Ды неблагія… Таксама чалавек пры грошах пайшоў. Хутчэй сын бацькоў, у якіх ёсць добрая капейчына. Чалавек сярэдняга дастатку сабе не дазволіць набыць такі абутак. А гэтыя чырвоныя…» У Рудога перахапіла дыханне. Менавіта гэтыя боты з маленькай залацістай ружай на «маланцы» ён ужо бачыў… Не так даўно. «Няўжо гэта яна? А можа, ён памыляецца»… Руды раптам пачаў папраўляць брудныя валасы, яму зрабілася сорамна за няголены твар… Чырвоныя боты прайшлі далей, і Руды асмеліўся падняць галаву… У чырвоных ботаў было чорнае паліто з чырвонымі прашыўкамі, чырвоная сумачка… Насустрач ім ішлі чорныя лакіраваныя мужчынскія боты, якія толькі што выскачылі з хуткага цягніка. Раптам гаспадыня чырвоных ботаў азірнулася і паглядзела, як падалося Рудому, на яго… Гэты позірк апаліў яго… Руды схаваў твар у шэрае плямістае паліто без гузікаў, якое яму засталося ад Марусі і, увагнуўшы галаву ў плечы, ледзь не пабег да сябе ў гараж. А потым зноў знік… Хтосьці гаварыў, што Руды памёр, іншыя аспрэчвалі, маўляў, не памёр, а проста паехаў з гэтага горада…



*Марыя КОБЕЦ*

# НА ШЧАСЦЕ І НА ДОЛЮ

* * *

…А бэз ужо даўно адцвіў…
І водар не салодзіць вечар.
Даўно над вёскаю паплыў
Ён да ўспамінаў на сустрэчу.

Запаліць вечар ліхтары…
Як і тады, пры нашых стрэчах.
…А бэз адцвіў з тае пары.
І водар не салодзіць вечар.

І салавей не так пяе.
…Ды на знаёмым на улонні
Мне гэтак бэзу не стае,
Гады зацерусілі скроні.

* * *

Зрывае вецер з дрэў лісты,
Ціхенька кронамі шапоча.
А мне здаецца — побач ты.
Забыць цябе душа не хоча.

Да болю роднае імя
Шапчу ізноў, нібы замову.
І думкі быццам спакваля
Вяртаюць у свой вір нанова.

Засыпле снег усе масты.
Мароз у голлі затраскоча.
А я блазную — побач ты.
Цябе пускаць душа не хоча.

* * *

Вазьміце мяне, зоры,
У далягляд маўклівы!
Бязмежныя прасторы
Дадуць нябеснай сілы.



***Марыя Кобец нарадзілася ў вёсцы Валішча Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Пінскае медвучылішча, цяпер працуе дырэктарам Дома культуры. Аўтар кнігі вершаў «Кроплі». Друкавалася ў газеце «Літаратура і мастацтва», «Краязнаўчай газеце», «Народнай газеце», «Пінскім весніку» і іншых.***

Палонніцай сваёю
Мяне з сабой паклічце.
Каб з вашаю сям'ёю
Навек на небе зліцца.

Я на зямлі гаротнай
З нядоляй абвянчана.
Пакутніцай самотнай
Быць мне наканавана.

Вазьміце ж мяне, зоры!
Бо тут я госць дарэмны.
Мо з вамі на прасторы
Знайду спакой душэўны.

* * *

Лёсу майго калыска,
Продкаў зямля спрадвечная,
Сэрца маё — о, Піншчына,
Шчасце маё — Берасцейшчына!

Вецер шапоча ўслых
Словы, што мне, як ісціна,
Назвы, што зводзяць дых —
Піншчына, Берасцейшчына!

Край мой, прыгожы край,
Людскаю працай расквечаны!
Божа наш, шчасця дай
Піншчыне, Берасцейшчыне!

**МАТУЛІ НЕ СПІЦЦА**

Зноў лячу, як сініца,
Пад страху — да матулі.
Нешта маме не спіцца,
Хоць даўно ўсе заснулі.

Хваляванні, трывога…
Як тут не клапаціцца?..
Цяжка маме. Знямога.
Зноў матулі не спіцца.

Вокны свецяць мне зноўку —
Прывячаюць з дзяцінства.
Да вытокаў на золку
Я іду прычасціцца.

У бярозы галінах
Ружавее зарніца.
Можа й я ў чым павінна,
Што матулі не спіцца?..

* * *

Узляцець бы да зор —
Не разбіцца —
У нябесны прастор —
Наталіцца б!
Адшукаць між аблок
Зорку-мару!
Не згубіць незнарок
Свайго твару.
Узляцець бы ў прастор
Шэрай птушкай!
Каб быў шлях мой да зор
Белай стужкай!

* * *

Матуля-мамка калісь мне ручнік
Саткала і дала на шчасце і на долю…

…Чакаю ўсё, чакаю, не спатолю
Жадання мне нарэшце дачакацца
Уздзеяння магічнага мастацтва.

**ЛЕТНІ ДОЖДЖ**

Заблудзілася сонейка ў хмарках.
Захавала і жоўтыя косы.
Блікаў сонечных, жнівеньскіх, яркіх
Не відаць, не кладуцца на росы.

Кветкі сорамна горнуць пялёсткі,
Ад дажджу захінаючы тварык.
Дробны, цёплы, лагодны, не жорсткі,
Летні дождджык бяжыць па бульварах.

* * *

Калі на сэрцы не гучыць
Акордаў музы першых,
Тады паэзіі не жыць
У рыфмаванні верша.

Алесь МАКОЎСКІ

# КАМАНДЗІРОВАЧНАЕ ШЧАСЦЕ

*Апавяданне*

Зіна Фалейчык закахалася. У які раз — адзін Бог ведае. Што ж, для маладой, улюблівай маладзіцы звыклы стан душы. У аддзеле, дзе яна працавала канструктарам, першымі гэта заўважылі, вядома ж, сяброўкі (у іх асаблівы нюх на такія рэчы). І пачалося: «Хто ён? Адкуль? Жанаты?»

Зіна загадкава пасміхалася, свяцілася ціхай радасцю, чым яшчэ больш інтрыгавала цікаўных. Калі і самой ужо стала не ўтрываць ад нахлынулых пачуццяў — здалася. Пахвалілася:

— Фірма! Генрыхам клічуць. Быў жанаты. Развёўся. Сюды, у Мінск, прыехаў прадстаўніком саліднай нямецкай канторы. Пры ім нават ёсць перакладчык...

Зіна знарок змоўкла, каб паглядзець на ўражанне ад уласных слоў. Па вялікіх і круглых вачах жаночай паловы аддзела пераканалася — трапіла ў дзясятку. Таму з імпэтам працягвала:

— У нашым горадзе хіба можна пазнаёміцца з прыстойным хлопцам ці мужчынам? Нармальных расхапалі. Засталіся адны алкашы і дэбілы...

Наконт гэтага ў калег-маладзіц пярэчанняў не было і не магло быць. Таму Зіна ўрачыста забіла апошні цвік:

— Я рашыла пакласці хоць адну цаглінку ў падмурак нашага агульнаеўрапейскага дома...

З гэтага дня ў аддзеле ўсе жанчыны — разведзеныя, замужнія і тыя, хто збіраўся стаць імі, — пачалі адкрыта зайздросціць Зіне. Гаворкі хапала на ўвесь рабочы дзень і нават больш. Навіна гэта абсмоктвалася яшчэ і дома вечарамі, са сваімі мужамі і палюбоўнікамі. Праўда, не на карысць апошніх. А Зіна, тым часам, зусім згубіла асцярогу, хвалілася не саромеючыся.

— А што? — сакатала шчаслівая маладзіца, — я ж помню, як са сваім першым, Васем, жыла. З работы прыпрэшся ў пене і адразу — на кухню. Выхадныя стаіш уся ў мыле, шаруеш-мыеш яму... А якая ўдзячнасць? Вось, скажыце, якая падзяка? Добрага слова за чатыры месяцы, што пражылі, не пачула ад яго. Адно, мат-перамат. А Генрых?! О-о-о!

Але жыццё — гэта рух... Зіна сходзіла ў цудоўна абноўленую Генрыхам і яго таварышамі цырульню



***Алесь Макоўскі нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Павуссе Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Белдзяржуніверсітэт. Працаваў на будоўлі, заводзе, у аршанскай аб'яднанай газеце «Ленінскі прызыў», газеце «Чырвоная змена», часопісе «Вожык». Пазней — у Нацыянальным прэс-цэнтры РБ. Аўтар кніг нарысаў «Сябры-таварышы», «Майстры добрага настрою» і іншых.***

(немец быў майстрам будаўнічай брыгады, і перакладчык пры іх аціраўся — наконт прадстаўніка Зіна схлусіла), зрабіла прычоску, а Генрых купіў білет на самалёт. У той дзень ні ўрагану, ні землятрусу не здарылася, наадварот, ласкава свяціла сонца, дзьмуў лёгкі, цёплы вятрыска і самалёт вылецеў, як звычайна, па раскладзе. А Зіна ўся ў слязах прыйшла дамоў, села на канапу і кінулася ва ўспаміны.

...Яна прачнулася ранавата. Можна было б і паспаць, ляцець на злом галавы на аўтобус не трэба. Дзень выхадны. Але ж звычка. І ўставаць не хацелася.

Ванна. Кухня. Лёгкі сняданак. Што далей? Лынды біць? Наперадзе доўгі летні дзень. Можа, з'ездзіць на возера пазагараць? Раптам пашчасціць надыбаць суджанага? Ці, як Маня кажа, — падчапіць кадра. Раптам там выйдзе з вады на бераг высокі, шыракаплечы, загарэлы, пайграе біцэпсамі, падыдзе да яе, Зіны, і скажа: «Вы тая, якую я шукаю». І ўсё. Знікне дурман выпадковых знаёмстваў, абрыдлага адзіноцтва, няўпэўненасці ў сваёй будучыні…

Яна сабрала неабходныя рэчы і паклала іх у цэлафанавы пакет. Скінула халат, апранула сваю любімую сукенку: у абцяжку, так што рэльефна падкрэслівалася кожная прывабная частка жаноцкага цела. Белыя басаножкі на высакаватых, яна не прызнавала абутку на нізкіх, абцасіках стаялі напагатове. Пакруцілася перад люстэркам, шчоўкнула пальцамі рук, што сведчыла пра гуллівы настрой і задаволенасць сабою.

Выйшла на вуліцу. Праменілася ранішняе сонца. Блакіт неба абяцаў дзень ясны, цёплы, можа, нават гарачы. То і добра. Бутэрброды яна зрабіла, вады можна купіць і там, у лаўцы. Перакочвайся з боку на бок цалюткі дзень і ні пра што не думай.

У двары, паміж рэдкіх клёнаў і ясеняў, на здратаванай траве, старэнькая бабуля, чыясьці маці, выгульвала сабаку. Сціпла, па-вясковаму апранутая ў трыкатажную сінюю кофту і цёмную спадніцу, у стаптаных пантофлях і яркай квяцістай хустцы, завязанай пад бараду, бабуля з усяе сілы стрымлівала на павадку шыракагрудую, здаравенную, рудую нямецкую аўчарку.

Зіна не любіла старых людзей. Яна не магла ўявіць, нават думаць не хацела, што і сама калі-небудзь састарэе. Аднойчы яны з Маняй гулялі па горадзе і сустрэлі згорбленую, неахайную бабу-бамжа. Сяброўка пажартавала: «Во, Зіна, глядзі. І ты такая будзеш...» Яна ад злосці закалацілася, ледзьве стрымалася, каб не пасварыцца назаўсёды. Цяпер Зіна нават прыпынілася, нядобра падумала: «Нехта цябе клікаў у горад. Сядзела б у сваёй вёсцы, калупалася ў зямлі. А то, во...»

Аўчарцы хацелася волі. Яна падскоквала, кідалася ў бакі, тузала старую так, што тая ледзь паспявала перастаўляць ногі. Абрыдлая гэта гулянка з аўчаркай была ў цяжар бабулі. Хто ведае, пра што яна ў гэты момант думала...

Раптам аўчарка ўбачыла ля куста бэзу варону. Тая дзяўбла нейкую костку, аўчарка рванулася, і старая бразнулася на зямлю. Ляжала ніцма, выцягнутая ў струну, але павадка з рукі не выпускала, ціха войкала, мусіць, моцна выцялася. Сабака раз'юшыўся, гаўкаў, кідаўся да вароны, патроху падцягваў за сабою бабулю. Урэшце, не могучы вырвацца, пачаў заднімі лапамі грэбці пясок, мінулагодняе сапрэлае чорнае лісце і смецце — усё гэта ляцела старой у твар, на галаву.

Зіна ўволю нацешылася відовішчам, насмяялася ад душы. Старых бабулек яна не любіла яшчэ і таму, што прайсці паўз іх незаўважна з чарговым кавалерам можна было толькі глухой ноччу. Інакш — абшыюць плёткамі з ног да галавы.

Каля газетнага кіёска прыпынілася, надумала купіць ілюстраваны часопіс. Прыцанілася і пашкадавала грошай. Тугавата было ў яе з гэтымі фанцікамі. Зусім някепска, каб той малады і прыгожы, які выйдзе з вады, быў яшчэ і пры грашах.

Усё ж купіла газету з красвордамі і анекдотамі. Таксама няблага, бо гэта сведчыць, што маладзіца яна дасціпная, вясёлая і свойская. Не намі прыдумана: ты на гару, а чорт за нагу. Мажліва, Зіну падвялі высокія абцасікі. Падкаціў патрэбны аўтобус, яна схапіла з акенца кіёска газету, рэзка крутанулася і... Боль быў страшэнны і нясцерпны. На момант пацямнела ўвачу, і яна ледзьве не грымнулася, як тая бабуля, што выгульвала аўчарку. На левую нагу ступіць яна ўжо не магла. Крыху ачуняла, скокнула, як верабей, на адной назе і абаперлася на вугал кіёска. Людзі спяшаліся па сваіх справах, а на яе ніхто не звяртаў увагі. А тыя, што не спяшаліся, паглядвалі і, мабыць, думалі: стаіць чалавек і хай сабе стаіць. На прыпынку тоўпілася шмат народу, пэўна ж, былі і тыя, хто бачыў ды нават чуў, бо яна ад раптоўнага, вострага, пякучага болю ўскрыкнула і пахіснулася. Ды, можа, і яны ўволю цешыліся. Народ жа пайшоў, хлебам не кармі — дай павесяліцца. Таму тупалі і цікавалі, што мае быць далей. Зіна стаяла ў разгубленасці і адчаі. Спадзявалася хіба што на цуд. І ёнтакі здарыўся.

Да яе кіравалі двое. Адзін, невысокі і паўнаваты, калабок калабком, з прыкметнай лысінай на макаўцы, сталы мужчына ішоў першым, а за ім, нехаця, высокі, шыракаплечы, загарэлы малады хлопец. Калабок наблізіўся і штосьці запытаў на нямецкай мове. Так-так, па-нямецку, яна вывучала яе ў школе. Праўда, было тое даўнавата. У адказ Зіна змушана ўсміхнулася і паказала вачыма на сваю нагу. Лысы счакаў, пакуль яго таварыш падышоў бліжэй, штосьці хутка і ўсхвалявана сказаў яму.

— Пан Генрых Шмігель пытаецца, што здарылася і чым вам можна дапамагчы? — пераклаў хлопец і патлумачыў. — Я перакладчык пана Шмігеля.

Свайго імя малады чалавек не назваў. З першага погляду ён не надта спадабаўся Зіне. Пазіраў і гаварыў так, быццам асуджаў яе за прычыненыя яму недарэчныя турботы. Але ў Зіны не было іншага выйсця.

— Скажыце пану Шмігелю, што я павярэдзіла нагу і не магу сама ісці. Так і перакладзіце, — з выклікам прамовіла яна.

Пакуль ішлі перамовы, Зіна прыглядалася да Генрыха. Спадабаўся спалоханы выраз добрага твару, жывая цікаўнасць і спагада ўвачу да яе бяды. Ён і цяпер штосьці ўзрушана гаварыў, махаў рукамі: пераконваў у чымсьці свайго перакладчыка. Той напачатку ўхмыляўся, крывіўся, урэшце, загаварыў:

— Мы вам «хуткую» выклікаем і адвязем у траўматалогію. Так вырашыў пан Шмігель, — з кепска прыхаванай прыкрасцю ў голасе паведаміў хлопец і дадаў: — Мяне Артурам клічуць. Будзем знаёмы. А вас?

У бальніцы Зіне не спадабалася — казёншчына, няўтульна. Доўга давялося чакаць доктара. Тут варта зазначыць, што яна ўвогуле першы раз трапіла ў такую ўстанову. Сур'ёзна, дзякаваць Богу, ніколі не хварэла. А што яшчэ за нечаканасці могуць зваліцца на галаву маладзіцы ў дваццаць сем гадоў?

Неўзабаве з'явіўся доктар, зірнуў на нагу і адправіў на здымак. Вывіх у сучляненні касцей шчыкалаткі. Нават лангет не налажылі, туга перабінтавалі, параілі выклікаць участковага тэрапеўта. Пан Шмігель з перакладчыкам Артурам, на таксі, адвезлі яе і дапамаглі падняцца ў кватэру.

Вось і ўсё знаёмства і, здавалася б, уся гісторыя. Але ж мы ўжо ведаем, што гэта толькі пачатак прыгожага, як у кіно, рамана пра каханне.

Па першым часе Генрых наведваў яе амаль кожны вечар. Прыносіў гасцінцы, кветкі... Перашкаджаў моўны бар'ер. Аднак жа самая дасканалая і зразумелая з усіх моў — мова пачуццяў. Кранальныя ўсмешкі, салодкія пацалункі, вытанчаныя ласкі, а Зіна ўсім гэтым валодала дасканала, рабілі цуд. Немец быў у захапленні ад

свайго анёла. Так ён яе называў. Праўда, даволі часта ўжываў выраз: мой доктар. Тлумачэнне важнае, але надта ўжо асабістае і інтымнае. Нямала высілкаў, вынаходлівасці, жаночай хітрасці, увесь свой багаты вопыт папярэдніх знаёмстваў спатрэбіўся Зіне, перш чым Генрых адчуў сябе ў ложку сапраўдным мужчынам.

Нямецкую мову яна ўсё ж вучыла. Па слоўніках штудзіравала. Ёй, як абяцаў Генрых, свяціла жыццё ў Дрэздэне. Сам ён больш налягаў на сасіскі з тушанай капустай — любіў іх. І гэта адзіная страва, якая ў Зіны добра атрымлівалася.

Зіна ўключала бра, яны садзіліся на канапе поплеч, так, каб адчуваць блізкасць рук, ног, сваіх гарачых целаў. Зіна ў кароткім сітцавым, у васількі, халаце. Генрых у шортах і лёгкай тэнісцы. Напачатку ўпарта асвойвалі лексіку кахання. Пазней надышоў час бытавой гаворкі: што любіш, твая любімая страва, п’еш шампанскае і каньяк, каб шчаслівa жыць патрэбны грошы... Аднак жа самы працяглы час спатрэбіўся на высвятленне абставін кароткага замужжа Зіны і разводу са сваёй жонкай Генрыха. Абое былі аднадушнымі: не пашчасціла, трэба пачынаць усё зноўку.

— Зламаў мой казёл Вася мне жыццё, — шукала і знаходзіла ў слоўніку патрэбныя словы Зіна.

— Мая каза Моніка мне таксама, — тыцкаў тоўстым, кароткім пальцам у слоўнік Генрых.

Няшчасце адных людзей робіць больш злоснымі і жорсткімі, другіх — аб’ядноўвае, дае сілы ўстаяць на нагах, не губляць надзею на лепшыя часы. Няўдалы лёс, які напаткаў герояў нашага аповеду на старце жыцця, злітасціўся і цяпер шчодра адорваў усёй паўнатой душэўнай цеплыні, любові, ласкі. А Генрых умеў быць далікатным, уважлівым, чуйным да кожнага ўздыху Зіны. Кветкі і пітво, галантнае абыходжанне, ніякай табе лаянкі... Зіна таксама старалася. То лашчыцца, нібы котка, то пакладзе Генрыху галоўку на плячо, то прыхінецца і абаўе яго шыю пяшчотнымі рукамі, ці сядзе яму на калені і замурлыкае. Абходжвала і дагаджала як магла.

Сама Зіна ажыла, папрыгажэла, вочы проста гарэлі, стала ўвішная на працы і дома. Нібы падмянілі чалавека. Пакрысе вымалёўвалася вясёлае жыццё за мяжой, вельмі важна было не пакаўзнуцца.

Аднойчы вечарам яе калабок расчуленым і жаласлівым тонам прамовіў:

— Выклікаюць для справаздачы ў фірму. Трэба ехаць. Чакай, мой анёл, — і, глытаючы слёзы, дадаў: — Хутка вярнуся — буду забіраць цябе. Чакай.

— Напішы мне ліст. Абавязкова напішы, — апала духам і ледзь вымавіла Зіна. — Я буду чакаць...

— А я буду пісаць майму міламу доктару кожны дзень, — паабяцаў немец.

І Зіна дачакалася першага ліста.

*11 жніўня*

Добры дзень, мая самая прыгожая і добрая Зіна!

Твой Генрых піша гэты ліст у самалёце. З кожнай хвілінай я ўсё далей і далей ад свайго нечаканага камандзіровачнага шчасця. Услухоўваючыся ў роўны гул матораў, гляджу ў ілюмінатар на яго крылы і думаю: хай бы маторы заглухлі, а крылы адваліліся. Усё роўна жыццё без цябе згубіла для мяне ўсялякі сэнс. Прабач за невялікую плямку на паперы, гэта не каньяк, які прапаноўвала сцюардэса, гэта — мая чыстая слязіна. А навошта мне цяпер жыць? Я і так удзячны лёсу, што ён падараваў мне сустрэчу з табою. Не кожнаму камандзіровачнаму выпадае шчасце сустрэць такую цудоўную даму, як мая Зіна.

Сказаць шчыра, калі я цябе ўпершыню ўбачыў — высокую, стройную, элегантную — мне зрабілася сорамна за свой пульхны жывот і лысіну. Я яшчэ тады падумаў: «Не, Генрых, гэта красуня не для цябе». Але здарыўся цуд. Няшчасны выпадак нас пазнаёміў.

Мая дарагая Зіна! Вось я заплюшчыў вочы, і ты ўся перада мною. Вось я кранаю рукамі твае, колеру спелага каштану, валасы, што вольна раскінуліся на тваіх, колеру гашанай вапны, плячах. А вось на мяне глядзяць твае, колеру шампанскага, вочы. Такіх вачэй я раней ніколі не сустракаў. У іх столькі адданасці і рашучасці! А вось твае пухленькія губкі, маленькі роцік, што так любіў шампанскае. Проста жах, колькі мы з табою яго выпілі. Каб гэта перавесці на грошы, то ў мяне кашалёк быў бы значна таўсцейшым. Але, як ты любіла казаць, шчасце не ў грашах. Правільна, мой анёл. Асабліва, калі гэта грошы камандзіровачныя.

Ну вось, дарагая, маторы не заглухлі, крылы не адваліліся, самалёт ідзе на пасадку. Пачало кідаць так, што ў мяне булькае ў жываце. Канчаю пісаць. Моцна, моцна цябе цалую.

Твой Генрых. Пішы, як і дамовіліся, да запатрабавання.

*24 жніўня*

Добры дзень, мой дарагі, мой самы лепшы Генрых!

Ты не ўяўляеш, з якім нецярпеннем я чакала ад цябе весткі. І вось атрымала доўгачаканы ліст. Цяжка перадаць мае пачуцці — не вытрымае папера...

Усе гэтыя дні я жыла выключна памяццю пра цябе. Не піла і не ела. Спецыяльна не выкідаю кветкі, што ты падараваў перад ад'ездам, хоць яны і засохлі. Ды што там казаць! Нават пыл не выціраю ў кватэры, каб не выветрыўся твой дух. Вечарам прыйду з працы, сяду на нашу канапу і думаю, думаю, думаю... Якія мы з табой былі шчаслівыя!

На нашых мужчын я нават глядзець пасля цябе не магу. Мне здаецца, што яны і ростам не ўдаліся, а пра абыходжанне і казаць няма чаго. Ім да цябе — як да неба. Да таго ж яны пачалі з мяне пасміхацца. Маўляў, паехаў твой камандзіровачны донжуан, цяпер шукай ветру ў полі. Любы! Скажы мне, што гэта не так. Супакой свайго анёлка. Бо інакш у мяне не вытрывае сэрца.

І вось я сяджу дома, сумую. Не, Генрых, няма нічога больш жудаснага на свеце, чым быць адзінокай, для маладой жанчыны. Не заўважаеш сама як пачынаеш апускацца, станавіцца злоснай, буркатлівай... Я, Генрых, лічу, што адзінокая маладая жанчына — гэта цяжкі грэх перад Богам і здзек над прыродай. Цяпер ты сам, мой дарагі, разумееш, як мне цяжка. Жанчына павінна адчуваць на сабе позіркі мужчын, тады яна квітнее, як ружа, і заўсёды ў форме. А ты, Генрых, не сумнявайся ў маёй вернасці. У Зіны слова жалезнае. Сказала сабе сёння: у кафэ не пайду! Бо ўжо позна, і нешта Маня, мая сяброўка, не звоніць. Спадзяюся, мой калабок, і ты будзеш верны сваёй Зіне... А я ўжо ў даўгу не застануся. Хай мужчыны поўзаюць каля маіх ног, пераступлю і нават не азірнуся — яны мне не патрэбны. Яшчэ не хапала клопатаў мыць, шыць, гатаваць, бегаць па крамах. На мой век хопіць камандзіровачных. Ты ж, мой таўсцячок, яшчэ прыедзеш? Ты ж абяцаў? Чакаю цябе, як ластаўка лета.

Цалую тысячу разоў. Твой анёлак — Зіна.

*8 верасня*

Мадам Зіна! Перш за ўсё, дазвольце даць вам некалькі карысных парад: не змарвайце сябе дарэмна голадам — мужчыны гэтага не варты. Далей: тэрмінова пры-

бярыцеся ў кватэры. Завялыя кветкі ў вазе нагадваюць пра вашы немаладыя гады, а пыл сведчыць не на карысць самой гаспадыні.

Цяпер дазвольце прадставіцца: Моніка — законная жонка «таўсцячка» Генрыха. Разумею, вы, мабыць, збянтэжаны, таму спяшаюся ўсё растлумачыць. Пасля таго, як мой муж вярнуўся з камандзіроўкі, ён неўзабаве атрымаў неблагія грошы і прыйшоў дадому на моцным падпітку. Такое, ведаю, здараецца і з вашымі мужчынамі. Дык вось, вялікія грошы ў кішэні мужа, пагадзіцеся са мною, мадам Зіна — гэта ўжо вялікая небяспека. І абавязак кожнай жонкі прадухіліць катастрофу, што я і зрабіла. Ветліва папрасіла Генрыха (у мяне няма такой звычкі правяраць кішэні мужа самой), каб ён аддаў грошы мне. Генрых не супраціўляўся, бо ведае, што гэта марна: выклаў з усіх кішэняў усё, што было, а заадно і ваш ліст. Я доўга вагалася: чытаць ці не чытаць? Урэшце, выключна ў інтарэсах Генрыха, а цяпер бачу і ў вашых, вырашыла прачытаць з дапамогай свайго добрага знаёмага — Васі. Хто ён такі? Ды вы ўжо здагадваецеся!

Мне цяжка зразумець з вашага ліста, мадам Зіна, наколькі сур’ёзныя вашы пачуцці да майго мужа. Мяркуючы па Генрыхавых паводзінах, гэта быў лёгкі флірт камандзіровачнага мужчыны і маладой жанчыны. Дарэчы, наконт таго, што жанчына павінна пастаянна адчуваць увагу з боку мужчын. Згодна з вамі, мадам Зіна. Мы, жанчыны — кветкі ў садзе, мужчыны — садоўнікі. Колькі нам квітнець і як, залежыць ад іх. А Вася — ваш былы муж — садоўнік адмысловы. Я толькі не магу зразумець, мадам Зіна, як вы з вашым вопытам маглі даверыцца камандзіровачнаму мужчыну? Сёе-тое мне Генрых распавёў пра вас. Няўжо вам незнаёма псіхалогія камандзіровачнага мужчыны? Вы павінны ведаць, што за рэдкім выключэннем добры муж не паедзе, хоць бы яму там абяцалі і залатыя горы, ад жонкі ды дзяцей. Бо сям’я для яго даражэй за ўсё на свеце. Такім спачатку быў і мой Генрых. На жаль, быў. Таму я і выбрала, пасля доўгага роздуму, найлепшы варыянт — Васю.

Цяпер жа мой Генрых, як і большасць камандзіровачных, толькі за парог дома ступіць, а ўжо думае, каб знайсці жанчыну, выпіць і пагуляць. Такімі ўжо Бог стварыў мужчын. Але вы, мадам Зіна, як маглі паверыць абяцанням Генрыха? Хіба не ведаеце, што ўсе камандзіровачныя мужчыны, калі ім верыць, — ці халасцякі, ці разводныя? Вы прыпісваеце майму Генрыху тыя якасці, якіх у яго не было і не будзе.

І тут, мадам Зіна, я хачу закрануць адно прынцыповае пытанне. Мне здаецца, не, я ўпэўнена, што вашы мужчыны зусім не кепскія. Дарма вы іх ганьбіце. У адсутнасць Генрыха я мела шчасце пазнаёміцца з вашым былым мужам. Ён з таварышам манціраваў абсталяванне на нашым заводзе. Ах! Які гэта выхаваны, тактоўны, мужны, далікатны мужчына. І ўвогуле, мадам Зіна, нашым жанчынам вельмі падабаюцца вашы мужчыны; яны сапраўдныя джэнтльмены. Я, вядома, нічога не магу сказаць благога пра Генрыха. Але яму далёка да Васі. Што праўда, то праўда. Мой Генрых шмат п’е піва і многа курыць. А Вася... Праўда, ён, калі выпіваў, то часам ужываў словы, якіх няма ў слоўніках…

Дык вось, Зіна! Як жанчына, я разумею вас: знайдзіце ў сабе мужнасць і пастаўце крыж на маім мужы. Скажу шчыра: больш вы з ім не ўбачыцеся. З вашым лістом я схадзіла на фірму, дзе працуе Генрых. Папрасіла, каб яго больш у камандзіроўкі не пасылалі. Камандзіроўкі псуюць мужчын. І яшчэ, раю вам лепш прыглядзецца да вашых мужчын. Паўтараю, яны проста цудоўныя! А тое, што нам, жанчынам, даводзіцца шмат сілы і часу траціць на хатнія клопаты, то не вы першая, не вы апошняя гэтым абураецеся. Аднак гэта зусім не азначае, што можна квапіцца на чужых мужчын. Прыміце мае спачуванні.

Моніка.

P. S.

Дзякуй, «мой доктар», што вярнулі Генрыху форму. Цяпер на яго стомы няма. Бывайце.

У Зіны хапіла сілы дачытаць ліст. Хоць спачатку і не ўцяміла, як след, сэнс усяго, што там напісана. Роспач, адчай, крыўда запаланілі ўсю істоту. «Як жа так апраставалосіцца? Чым ён думаў, калі аддаваў разам з грашыма ліст?! Ды ён жа ашукаў мяне! Бясконца даводзіў, што разведзены, а прыпіска ў канцы гэтай казы Монікі: “мой доктар” і дзякаванне... Значыцца, ён размагніціўся, расклеіўся, раскіс на цёплых жончыных нагах да таго, што выбалбатаў ёй усё самае патаемнае?! Які ж ты пасля гэтага мужчына?! Слімак. Мой Вася, каб яго падвешвалі, маўчаў бы, сцяўшы зубы».

Ад нянавісці да любові, як вядома, адзін крок. Ад любові да нянавісці ўсяго — паўкрока. Несусветная злосць ажно распірала Зіну. Яна ўзяла сшытак у лінейку, шарыкавую ручку, прэзентаваную Генрыхам, села пісаць донжуану ліст.

*14 верасня*

Прывітанне, стары казёл! Атрымала ліст ад тваёй задрыпанай казы — Монікі. Ты што мне за локшыны вешаў на вушы? Разве-дзе-ны... Нежана-а-а-аты... Пускаў слюні, каб падлашчыцца, расчуліць мяне? Чаго ты варты, калі нават ліст і грошы не здолеў як след прыхаваць? Мой Вася, бывала, з зарплаты прыйдзе паддаты, то грошы схавае, сам пасля тыдзень шукае. Мяне прасіў, каб дапамагла знайсці. А ты? Узяў і сунуў у рукі сваёй казе... Ёлупень ты і зануда. Прыслаў бы лепш мне якую сотню еўрыкаў...

Скажы сваёй казе, што калі стрэну яе — патлы павыдзіраю. І, заадно, табе — астатнія. Ты яшчэ кепска ведаеш, што я за цаца. У мяне такіх як ты, да Масквы ракам не пераставіць. Твая каза вучыць мяне, як жыць. Маўляў, нашы хлопцы неблагія. Сама ведаю. Не раўня табе. Ужо калі рабіць, дык рабіць, калі гуляць, дык гуляць, калі любіць, то да знямогі. А за Васю я ёй спуску не дам, хай не чакае. Воцатам вочы залью...

Паступова праходзіла ўтрапенне, адхлынула ад сэрца, утаймавалася чорная злосць. Зіна выплюхнула сваю горкую крыўду на паперу, апамяталася. У галаве завіравалі думкі спакайнейшыя, больш разважлівыя. «Што гэта я раблю? — схамянулася яна. — У нас жа з Генрыхам было ўсё так гожа і прыстойна. Можа, гэта якая недарэчнасць? Можа, ён ні ў чым не вінаваты і ў нас яшчэ ўсё будзе добра? А як жа тады праклялы ліст? Вось ён ляжыць... І гэта здзеклівая прыпіска... Няўжо ён не мае аніякага сумлення, мужчынскай годнасці і я памылілася ў ім? То што цяпер рабіць? Ніяк нельга адсылаць тое, што напісала пад гарачую руку. Мая ўтрапёнасць выкліча толькі смех у Монікі. Моніка... Моніка... Каза задрыпаная. Стала на маім шляху да шчасця... А Генрых? Што ён? Адкажа на мой ліст ці не? Трэба чакаць...»

Зіна падрала на дробныя шматкі лісток з напісаным, пайшла на кухню і выкінула ў сметніцу. Пасля ўзяла тэлефон, набрала знаёмы нумар, сказала:

— Давай, Маня, сёння сустрэнемся. Пасядзім у кафэ, ёсць навіны, ты — ахнеш, — падумала і рашуча дадала. — Няхай ён галавою ляснецца. Буду жыць як набяжыць. А там — гары яно ўсё гарам...

# УСВЯДОМІЦЬ СВАЮ БЯСКОНЦАСЦЬ

## *ВІТАЕМ КОНКУРС «БрамаМар»!*

***Адкрыты конкурс літаратурнай творчасці студэнтаў «БрамаМар» запачаткаваны творчай лабараторыяй «Крытык» кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ. На старонках чэрвеньскай «Маладосці» за 2011 год адбылося першае знаёмства чытачоў і з самім праектам, і з творамі фіналістаў. Арганізатары, выкладчыкі Уладзімір Капцаў, Аксана Бязлепкіна і Маргарыта Аляшкевіч сцвярджаюць, што «БрамаМар» быў прыдуманы студэнтамі для студэнтаў: настолькі актыўна маладыя людзі спрычыніліся да яго арганізацыі і правядзення.***

***Сёлета конкурс быў аб'яўлены па шасці намінацыях: «Проза», «Паэзія», «Драматургія», «Крытыка», «Сцэнар», «Творы для дзяцей». Удзел у ім узялі 225 чалавек (у папярэдняй «БрамеМар» было каля 160 канкурсантаў). Вашай увазе — вершы прадстаўнікоў новай хвалі беларускай паэзіі.***

**Вікторыя ЛЯЙКОЎСКАЯ**

**Ірына КАРЭЛІНА**

### АКРАВЕРШ

**Б**люзнерства філалагічных практыкаванняў,
**Р**уйнаванне зместу дзеля формы,
**А**пантанасць «звышновым», «арыгінальным»
**М**астацтвам па-за нормамі.
**А**дчуйце сябе паэтамі!
**М**оўныя гульні — такія ўмоўныя!
**А**краверш пісаўся не пра гэта. Усё
**Р**оўна.

**Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ**

### БУРШТЫНАВЫЯ ВЕРШЫ

Верш — імгненне, выхапленае ў вечнасці
і застыглае на паперы,
нібы закрышталізаваная ў бурштыне кузурка,
травінка ці каменьчык.

Першыя вершы пісаліся менавіта
бурштынам,
ён надта ўдала вычапляў вобразы
і аблямоўваў іх у непаўторную форму,
метафарычна спалучаў немагчымае.
Яго ўдасканальвалі і рэдагавалі
марскія хвалі,
і вершы, завершаныя імі,
мы бачым цяпер, праз тысячы тысяч гадоў.
І напрыканцы я не стаўлю кропку,
бо я за давершанасць
бурштынавых вершаў

## Максім БАРАВІК

* * *

Мне помніцца, як штовесну
бабуля заўсёды чакала нас
на прыпынку нашай
забытай Богам вёскі,
у заляпаных гразёю гумовых ботах
пасля няблізкага шляху
па хлюпкай вясновай узбочыне,
як я выскокваў да яе з аўтобуса,
абдымаў і цалаваў
ейную маршчыністую шчаку,
што задаволена ўсміхалася і расцвітала
чырванню замілавання
ад непадробна цёплых дотыкаў
дзіцячых вуснаў...

Улетку яна ўжо стаяла на дарозе
насупроць сваёй хаты
ці, часцей за ўсё,
сядзела на лаве,
адпачываючы пасля цяжкога
сялянскага дня
пад вялікім і разрослым
хмызом язміну,
які ў спёку захінаў
ад распаленых сонечных прамянёў,
а ў дождж даваў прытулак
ад раз'юшанай нябеснай артылерыі...

Восеньскімі вечарамі
бабуля сустракала нас
або седзячы ў сваім улюбёным фатэлі,
або лежачы на цёплай грубцы
і грэючы ногі,
якія, прызнацца,
балелі ў яе з тых часоў,
з якіх я сябе яшчэ не памятаю.
Хату напаўняў
незабыўны бульбяна-мясны водар
пахкае і смачнае вячэры...
Мы сядалі ўсе разам за сталом
і да апоўначы гаварылі
пра ўсё на свеце...

Цяпер жа
мне ўсё часцей і часцей думаецца:
што ж будзе,
калі бабулі раптам з намі не стане?
— Зіма...

## Ганна ДУСЬ

**ВЯРТАННЕ**

***(Дыптых)***

**1**

На раз, два, тры
Расплюшчыла вочы.
Грукае ў такт цягніку сэрца.
Назаўтра буду маліцца
Не здрадзіць,
Не згубіць свой Дрэздэн.
На адлегласці ў тысячу кіламетраў
Адшукаў ува мне сваю Вільню...

**2**

Хутка будзе «позна-позна»
Усвядоміць сваю бясконцасць,
Замовіць яшчэ гарбаты
І забыцца на марнасць імпэту
Двух супрацьлеглых цягнікоў.

## Вольга ПАЎЛЮКЕВІЧ

### АРЭХАВАЯ

яны каштавалі адно аднаго,
яна называла яго антонаўкай,
бо восеньскі,
бо старэйшы на год,
бо так жа ўпівалася ў вусны ягоныя.
а ён называў яе на пацеху ёй
арэхавай.

яны сустракаліся ці ў сяброў,
ці ў «двушцы» ягоных бацькоў у Дражні,
казалі, яна з яго ўе вяроўкі,
яна зацяжарала —
як разважліва!
вяселле,
кватэра на Нававіленскай —
і закруцілася…
дачка нарадзілася хутка —
ў лютым,
і ён нечакана амаль расплакаўся,
адразу ж назваў яе — сам — Анютай,
адразу ж прыдумаў ёй сотню якасцяў
і будучыню,
так, што сам паверыў —
наперад.

не стала заробкаў праз некалькі год —
якраз ён падумваў скапіць на машыну —
злаваўся, як чорт,
а яна для яго
штаны перашыла
і шалік звязала — як і для дачкі,
хіба толькі большы за дзесяць такіх.
а потым, калі прыйшоў нецвярозы,
паклала яго ў ложак, як хворага,
і іншым казала:
якая
вам
розніца?
а мужа пытала:
табе не сорамна?..
не біла талерак і не крычала —
спачатку.

усё падалося адным імгненнем,
а колькі разоў так хацела кінуць.
жанчына з каханнем сваім мацнее:
арэхам,
загорнутым у лупіну.
а вочы арэхавае надзеі —
цямнеюць…

## Дзмітрый БАЯРОВІЧ

* * *

раённая ўлада
Тое прадонне патоне
апантана,
ды танна,
ды сумна.
Застануцца толькі
чыісьці рукі —
вязні кішэняў —
нейкай побач дзяўчыны,
што ўсё апошнім часам
у мяне выклікае ўзбуджэнне.

Сам насам з сабой
ці мо з ёй, незнаёмай,
я быццам страчваю
сваю маёмасць.

Я з цягніка, яна — адтуль жа
і цягнецца,
як і апошні цягнік
доўгая-доўгая,
шэрая-шэрая —
апошняя
за намі смута.

Я з ёй.
І ўжо
мы нарэшце, Божа!
Тыя чарнявыя валасы, бы шоўк…

* * *

А яна,
здрадніца,
збочвае
на Чыжоўку.

## Кацярына НАРВАТКІНА

### ВЕЧАР

Пачну я вечар з кавы… з каньяком,
І рэтра музыкі, што так душу чаруе.
Даўно сцямнела за маім акном,
Мне сёння хораша, я сёння не сумую.
Пачну я вечар з кавы… з каньяком!

Ад пылу вытру дзедаў патэфон,
І бок старой, вінілавай пласцінкі.
Яна — маленства пацьмянелы звон,
На ёй гады, як дробныя ільдзінкі.
Ад пылу вытру дзедаў патэфон,

У вазе бэз пакіну на стале,
Мне гэты пах нагадвае… світанне,
Стары каштан у ранішнім святле,
Зямлі і сонца першае спатканне.
У вазе бэз пакіну на стале…

Заціх мой горад, з ім і я маўчу,
Мне музыка сусвет свой адчыняе,
Я зараз толькі аднаго хачу,
Няхай яна гучанне не спыняе…
Заціх мой горад, з ім і я маўчу…

## Кацярына ГЛУХОЎСКАЯ

* * *

Ты ўсміхаўся так рэдка, што я развучылася бачыць,
Што шукаю навобмацак вецер ласкавы ды золкі.
А Зямля, быццам кошык, павісла на ручцы вясёлкі —
Так сказалі маўклівыя сведкі на Сонцы гарачым.
Ты спяваў так высока, што слухалі хмары да росаў.
Што кажан браў напеў і хаваў матыльку паміж крылаў.
А мне слоў было мала. Мне  слоў — да цябе — не хапіла.
І звалілася з лесвіцы вершаў, нібы з хмарачоса.



Іван КАРЭНДА

# ЗБАН

*Апавяданне*



***Іван Карэнда нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Крывічы Іўеўскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы. Працаваў настаўнікам, намеснікам міністра інфармацыі Беларусі... Аўтар зборнікаў лірыкі «Белы наліў», «Знічка», кнігі для дзяцей «На загадкі ёсць адгадкі», п'есы «Залатыя яйкі» і іншых.***

Стаяла сухое, спякотнае лета.

Сонца пякло так, што патрэскалася зямля. Павыгаралі падворкі. Стаў белым, з рудымі плешынамі ў лагчынах, прырэчны луг. На полі звяла, змарнела бульба, нават не спазнаўшы жыццядайнай пары цвіцення. Не было надзеі і на агароды, хоць вяскоўцы, хто яшчэ меў сілу, палівалі свае грады па два разы на дзень — з самага ранку і познім адвячоркам.

Людзі заліваліся потам, нервова кусалі сасмяглыя вусны. Нават у цяньку дыхалася цяжка. А высоўвацца на сонца — зусім небяспечна. Ім забаранілі хадзіць у лес і на тарфянікі: пажары там маглі ўзнікнуць без дай прычыны, пра што раз-пораз папярэджвалі па радыё.

Перагрэтым паветрам, якое амаль не астывала за кароткую летнюю ноч, было запоўнена ўсё наваколле. А калі з пашы вяртаўся статак кароў, за ім шэрай сцяной цягнулася паласа густога пылу, які доўга вісеў над вуліцай, а потым паволі асядаў на таполі, ліпы, кусты бэзу, на стрэхі хат.

Адчайна пазіраючы на бясхмарнае, спрэс блакітнае неба, на якім ужо даўно не было аніводнай, нават белай, аблачынкі, людзі шчыра маліліся і прасілі ў нябёсаў ратунку — дажджу.

Нясцерпная гарачыня гнала ўсіх да вады.

І дзятва, і моладзь, і старыя ўцякалі ад спёкі хто да рэчкі, а хто да возера (ад вёскі да рэчкі хвілін пятнаццаць нетаропкай хады, да бліжэйшага возера — напалову меней). Сядзелі ў вадзе гадзінамі, забыўшыся пра ежу, пра неадкладныя сялянскія клопаты, якіх летам, калі дзень год корміць, непачаты край.

Мабыць, толькі цяпер вяскоўцы ўцямілі, якое вялікае багацце ахвяраваў ім Бог: і рэчка пад бокам — паўтары вярсты, не далей, да берага, і азярын на лузе — на пальцах не пералічыш. І рыбку зловіш, калі маеш час і цярпенне, і з асалодаю выкупаешся ў гарачую пару, і зімою для дзяцей выгода — катацца на каньках ці з клюшкамі ганяць шайбу.

Лепшым месцам для купання лічыцца возера са смешнаю назвай — Збан. Яно сапраўды нагадвае старадаўні посуд, вырабам якога, між іншым, славіліся раней

тутэйшыя ганчары. Знешняе падабенства да гэтай простай рэчы, якая калісьці мелася ў кожнай вясковай хаце, а ў добрых гаспадынь і сёння стаіць на паліцах у каморы, нікім не аспрэчваецца: возера крыху выцягнутае, з прадаўгавата-акругленымі берагамі, з «шыяй» — амаль сіметрычным звужэннем з абодвух бакоў і нават з «ручкай» — невялічкім вузенькім азярцом, парослым аерам ды чаротам, што цераз палоску сушы месціцца бліжэй да «гарлавіны», выгінаючыся дугою і чапляючыся дзвюма пратокамі за вялікую азярыну.

Збан займае ладны кавалак тэрыторыі паміж вёскай і рэчкай — якраз недзе пасярэдзіне. Што ні кажы, а шлях карацейшы — значыць, і нагам лягчэй. Таму купальшчыкі, асабліва старэйшыя людзі, часцей за ўсё спыняюцца тут. Паляжаць на духмянай мурожнай траве, якая з бакоў атачае азёрнае люстэрка, пагрэць на сонцы старыя косці ці маладыя спіны, а ў самую спёку падрамаць у цяньку пад кустамі арэшніку, любяць тут і дарослыя, і дзеці.

Возера вельмі чыстае, бо напаўняецца крыніцай, якая б'е аднекуль знізу, каля бліжэйшага ад вёскі берага. А яго жоўтае пясчанае дно ў сонечны дзень прасвечваецца так, што бачна і праз трохметровую тоўшчу вады. Такі ж жоўты пясочак рассыпаны на адным з берагоў — адмысловы натуральны пляж, не горшы за які-небудзь турэцкі ці егіпецкі.

Ды і добрае яно, возера Збан, спагадлівае да людзей: нават мясцовыя старажылы не могуць згадаць ніводнага выпадку, калі б яно паказала свой жорсткі нораў, неспадзявана пацягнула каго-небудзь на той свет. Не тое, што вытварае час ад часу рэчка, не шкадуючы ні пабярэжных жыхароў, ні вандроўнікаў.

Вось і сёлета радуе, лагодзіць Збан вяскоўцаў і шматлікіх гасцей, якія прыязджаюць сюды зблізку і здалёк, сваім зялёным аксамітным убраннем, аерна-чаротным водарам ды цёплай, нібы сырадой, вадою.

...Яшчэ мінулым летам калі-нікалі шлэпаў туды, падоўгу сядзеў на беразе і дзед Паўлюк. Падлеткі, весела боўтаючыся ў вадзе, тады жартавалі:

— Дзядуля, давайце навыперадкі — хто хутчэй на другі бераг пераплыве?

А ён, таксама жартам, адказваў хлапчукам:

— Я ўжо восемдзесят восем разоў пераплыў... А вы, гарэзнікі, можаце пабіць мой рэкорд?..

— Гэта як — адзін раз на год? — задаваў яму казытлівае пытанне падстрыжаны на лета «пад Катоўскага» Косцік Пеньчык, які не раз па-суседску, па ўласнай ініцыятыве, памагаў старому пілаваць і шчапаць дровы.

— Можа, і нырца даваць ўмееце? — дапытваўся нейкі незнаёмы хлапчук, відаць, з гарадскіх.

— Каб калі-небудзь пусціў з-пад вады бурбалкі, то цяпер на беразе не сядзеў бы, — пераконваў сваіх юных апанентаў дзед Паўлюк і пераходзіў ў контратаку: — А вы зімою, у ледзяной вадзе, можаце пераплыць рэчку — як я аднойчы?..

— Зімою рэчкі замярзаюць — не паплаваеш, — працягваў спрэчку на сур'ёзнай ноце малодшы сярод падшыванцаў Ванька Бэська, сын калгаснага агранома.

— Усяляк бывае, — не пагаджаўся з ім дзед.

— Калі трэба будзе, то і зімою паплывём, — запэўніў ад імя ўсёй кампаніі «гарадскі». — Мы марозу не баімся. Летам плаваем, як рыба, а зімою, як маржы...

— Я бачу, што ў цябе рот без варот. А ты, морж, насамрэч пакажы, на што здольны, — даймаў хлапчука-незнаёмца вясковы старажыл.

Падміргнуўшы сябрукам, «гарадскі» спрытна даў нырца ў Збан прама з берага.

«Харошыя хлопцы растуць, будзе з іх толк», — думаў, задаволены гутаркай з падлеткамі, дзед Паўлюк.

Хіба ж мог ён прызнацца ім, што пасля вайны ніводнага разу не купаўся? Ні ў возеры, ні ў рэчцы... Парагаталі б — ды і толькі...

...Цяпер да Збана яму не дашлэпаць: няма сіл у нагах, не можа адысці ад хаты нават у краму, да якой дзве сотні крокаў. Добра, што суседка Верка хлеб ды цукар прыносіць. І штодзень збаночак, на два літры, малака — болей яму амаль нічога і не трэба. А калі чаго, бывае, і захочацца, то па аўторках каля хаты спыняецца прыватная аўталаўка з райцэнтра — купляй што душа пажадае.

Дзякаваць Богу, дзявяты дзясятак заканчвае. Хопіць тупаніны — нахадзіўся, натупаўся. Няхай тупаюць маладшыя за яго. І няхай сабе гойсае дзятва, якая цяпер суткамі мокне ў Збане, — яе век толькі пачынаецца.

Адтуль, з возера, і далятаюць у вёску яе галасы. Нічога дзіўнага — дзе ж ім, жэўжыкам, у такую спёку, як не ў Збане, сядзець?! Тое, што за лета з некаторых ужо па некалькі разоў злупілася скура, — не бяда, скура на маладым целе нарастае хутка.

Ах, якія ж яны лёгкія! — нібы птушкі, адно што крылаў не маюць — не лятаюць.

«А куды мая лёгкасць падзелася? Здаецца ж, быў рухавы і да любой сялянскай працы спрыт меў. А цяпер без палачкі і кроку не зробіш. І ў руках слабасць — дрыжаць, як лапкі ў зайца ад страху...»

Седзячы ў самотным маўчанні ў цяньку пад бэзавым кустом, на абноўленай гады тры таму лаўцы, абапёршыся абедзвюма рукамі на самаробны кіёк, выразаны калісьці з арэшыны на беразе рэчкі, дзед Паўлюк міжволі ўспамінаў і сваё апошняе наведванне Збана, і апошняе купанне...

...Позняя восень сорак трэцяга. Няўмольна набліжалася зіма, якая ўжо была гатова заўладаць наваколлем: над зямлёю кружлялі белыя мокрыя мухі — сняжынкі.

Загад фарсіраваць Дняпро ім зачытаў сам камандарм Хаменка (яго прозвішча запомнілася на ўсё жыццё), — нагадаўшы дырэктыву Стаўкі: за паспяховае фарсіраванне ракі байцы і камандзіры будуць прадстаўлены да прысваення звання Героя Савецкага Саюза.

Але хто тады думаў пра Залатую Зорку?! Была баявая задача — любой цаною перабрацца на правы бераг, выбіць адтуль ворага і захапіць плацдарм. Усе разумелі: ашалелыя ад няўдач пад Сталінградам і Курскам немцы свае пазіцыі на правабярэжжы Дняпра так проста не пакінуць. І думалася перш-наперш пра тое, як выжыць у гэтай смяртэльнай бойцы. А выжыць можна было толькі адным чынам: быць хітрэйшымі за гітлераўцаў і больш рашучымі за іх у баі за пераправу. Першае залежала ад камандзіраў, другое — ад радавых воінаў.

Вопыт вайны на гэты час быў у кожнага свой: адны ўжо не раз удзельнічалі ў крывавых баях, мелі раненні, паваляліся нямала ў шпіталях, астатнія, як і ён, Павел Галушка, яшчэ пораху не нюхалі, калі не лічыць кароткія, трохтыднёвыя зборы ў разанскіх лясах, дзе ён упершыню ўзяў у рукі кулямёт. З гэтым кулямётам ён і дабраўся сюды, на перадавую, са сваім рэзервовым палком, які быў кінуты да Дняпра для вырашэння вельмі важнай, як тлумачылі ім палітработнікі, — стратэгічнай задачы. Можа, таму і абяцалі ўсім званне Героя. Але і без камісараў было ясна: трэба як мага хутчэй выгнаць фашысцкіх захопнікаў з роднай зямлі — гэта і будзе найвышэйшай узнагародай для абаронцаў Айчыны.

Як у першым баі, яшчэ, па сутнасці, не ваяваўшы, адразу стаць героем, Галушка і такія ж, як ён, неабстраляныя ваяры, уцяміць не маглі. Лепей выйсці ў бітве за Дняпро «сухімі з вады», жывымі і здаровымі, чым атрымаць за гэтую перамогу самую высокую ўзнагароду, праліўшы кроў, бо да Берліна яшчэ далёка, а дайсці да фашысцкай бярлогі полк абавязаны.

Разведка прынесла несуцяшальныя звесткі: немцы заселі на правым беразе грунтоўна, выбіць іх адтуль наскокам не атрымаецца. Вада ў Дняпры можа стаць чырвонай ад крыві фарсіроўшчыкаў. Аднак іншых варыянтаў, акрамя як атакаваць у лоб, няма: самі фашысты, добраахвотна, адтуль не выберуцца, а ў тыл ім не зойдзеш. Адзін спадзеў — на падмогу партызан, але тыя сваю справу і так рабілі даволі паспяхова, раз-пораз падрываючы нямецкія эшалоны са зброяй і жывой сілай.

Разлічваць на тое, што немцы сядзяць склаўшы рукі, ці ў гатоўнасці ўскінуць тыя ж рукі ўверх, прызнаючы сваё паражэнне, можна было толькі ў шчаслівым сне.

А спаць якраз і не было калі.

На падрыхтоўку да пераправы стралковаму палку сорак чацвёртай арміі было адведзена шэсць сутак.

Расцягваць гэты тэрмін азначала б адно: спрыяць немцам, даць ім дастаткова часу для поўнай баявой гатоўнасці. Аднак жа і самім нельга было пачынаць наступленне, ды яшчэ з фарсіраваннем ракі, безаглядна, добра не падрыхтаваўшыся.

Пра пантонную пераправу і гаворкі не было: наладзіць яе праціўнік не дазволіць. Таму заставалася горшае — перабірацца на правы бок ракі саматужным чынам.

На машынах і падводах амаль бесперапынна падвозілі свежаспілаваныя сасновыя бярвенні і гатовыя дошкі з адноўленага дзесьці паблізу тартака. Полк днём і ўначы вязаў плыты і просценькія байдакі, рабіў на хуткую руку лодкі-пласкадонкі, заліваючы днішчы смалою. Было вырашана падцягнуць іх да берага ўначы перад наступленнем і спускаць на ваду толькі ў першыя хвіліны фарсіравання. А сам пачатак аперацыі прызначылі на тры гадзіны ночы, спадзеючыся застаць немцаў знянацку, калі большасць з іх будзе спаць.

Вечарэла. Аб'явілі пастраенне. Камандзір палка Драздоў некалькі разоў прайшоўся туды-сюды перад строем, зазіраючы ў вочы байцоў, а потым нечакана спытаў:

— Хто з вас вырас на рэчцы і ўмее добра плаваць?

— Я, таварыш камандзір! — крок наперад адначасова зрабілі мо два дзясяткі байцоў, сярод іх быў і Галушка.

— Будзеце са мною, на вастрыі атакі. Першая, ударная група фарсіравання пойдзе на лодках, — акрэсліў заданне палкоўнік.

Ноч перад боем выдалася такая цёмная, што нават у некалькіх кроках пазнаць знаёмага чалавека было немагчыма. Каму гэта было на руку — нашым ці немцам? — дакладна адказаць мог толькі світанак, калі бой, хутчэй за ўсё, скончыцца. Аднак цямнеча як быццам лепш спрыяла тым, хто болей рызыкаваў, — байцам савецкага стралковага палка, якія павінны пад покрывам ночы ціха, неўпрыкмет пачаць аперацыю фарсіравання. Менавіта таму артпадрыхтоўку на гэты раз адмянілі: камандзіры прынялі рашэнне, што артылерысты ўступяць у бой толькі пасля таго, як немцы адкрыюць агонь.

Павел Галушка апынуўся ў адной лодцы з камандзірам палка. Разам з імі было трое аўтаматчыкаў. А кулямёт на ўвесь экіпаж адзін — у яго, Галушкі. Вырашылі, што двое аўтаматчыкаў — адзін спераду, другі ззаду — будуць веславаць, а трэці будзе гатовы разам з Паўлам па камандзе Драздова весці агонь па беразе. Так размеркавалі абавязкі і на іншых лодках.

— Галоўнае — па магчымасці цішэй адплыць ад берага, — паўтараў раз-пораз камандзір палка.

Цішыня, можа, і стала б іх паратункам пры фарсіраванні, калі б маўчалі, спалі непрабудным сном немцы, ці адбывалася б гэта зімою, калі вада цячэ пад тоўстым ледзяным панцырам, па якім можна амаль бясшумна і хутка, напра-

сткі, перабрацца на супрацьлеглы бераг. А ў іншы час ніводная рака не любіць цішыні — наадварот, сіла гукаў каля вады шматкроць памнажаецца, нават шэпт за паўвярсты пачуеш.

Напружанне на левым беразе нарастала — усе чакалі трох гадзін ночы. Здавалася, час спыніўся, і да пачатку аперацыі яму рухацца забаронена. Але гэта вельмі падманлівае адчуванне — у галовах байцоў пульсавала іншае: «Вось-вось пачнецца...»

І пачалося... Рэзкім узмахам рукі Драздоў паказаў, што «час ікс» настаў. Першыя пяць лодак на руках паднеслі да берага і асцярожна ссунулі на ваду.

Галушка прысеў з кулямётам пасярэдзіне камандзірскай лодкі. Яму дыхаў у патыліцу кампалка. Абодва весляры пачалі дружна грэбці, супраціўляючыся цячэнню ракі, якое на гэтым прамежку Дняпра нават каля берага было досыць моцнае. Байцы і камандзір маўчалі.

Побач з імі, злева і справа, адправіліся ў халодную прыдняпроўскую цемру экіпажы іншых лодак. За імі ў непазбежны начны бой павінен рухацца на байдаках і плытах увесь полк.

На правым беразе панавала цішыня. Аднак гэтая ціш працінала, трывожыла сэрца Галушкі.

А плюханне вады і грукат вёслаў аб борт, шум над ракой з кожнай хвілінай сталі больш гучнымі.

Аўтаматчык, які веславаў на карме, цяжка дыхаючы, прашаптаў Драздову:

— Таварыш камандзір! Палову, мабыць, прайшлі, але зносіць цячэнне...

— Маўчаць!.. — прашыпеў скрозь зубы палкоўнік. — Сам бачу.

Што бачыў кампалка, было ведама аднаму яму, бо Галушка абрысы ні аднаго, ні другога берага разгледзець у тую хвіліну не мог. Як ні прыглядаўся Павел, цёмныя выявы лодак і постаці байцоў першай лініі атакі ледзь-ледзь угадваліся над паверхняй вады. Не відаць было не толькі берагоў, але і неба над галавою — над Дняпром вісела непраглядная цемрадзь.

Галушка сядзеў нерухома, прыслухоўваючыся да глыбокіх прыдыханняў весляроў і нарастаючага навокал шуму.

Раптам з правага берага пачуліся стрэлы, і неба, нібы маланкай, асвяцілася сігнальнымі ракетамі. Павел паспеў палічыць іх — амаль адначасова выпусцілі сем ракет. Услед за імі наваколле скаланулася ад артылерыйскіх залпаў.

Адкуль, з якога берага б’е артылерыя, ён спачатку і не зразумеў. Быццам з-за спіны. Іх жа папярэджвалі, што гарматы пачнуць абстрэл варожых пазіцый толькі тады, калі ў бой рынуцца немцы. Выпушчаныя з правабярэжжа ракеты сведчылі, што фашысты заўважылі пачатак аперацыі фарсіравання і гатовы адкрыць агонь па ўсёй лініі абароны.

«А можа, гарматныя стрэлы прагрымелі менавіта з іх боку, каб захапіць баявую ініцыятыву? Ды навошта гадаць? — бой пачаўся, і ў цябе, Галушка. Цяпер павінен быць адзін клопат — весці па немцах прыцэльны, знішчальны агонь», — прыгадаў кулямётчык-навабранец азы кароткай дафрантавой падрыхтоўкі. Але як і па кім весці агонь, калі ні ворага, ні чорта лысага не відаць, ягоны нулявы баявы вопыт ніякай падказкі не даваў. Павел чакаў каманды, а яе ўсё не было — камандзір палка маўчаў, нібы набраўшы ў рот вады.

А бабахала ўжо, без сумненняў, з абодвух бакоў Дняпра. Над галавою сустрэчнымі курсамі праносіліся-свісталі снарады, якія дзесьці непадалёку, на берагах, падалі на зямлю і ўзрываліся.

Залпы артылерыі і выбухі «білі» па вушах, і Галушка шчыльней нацягнуў на

галаву вушанку. Яго здзіўляла, што Драздоў не дае перадыхнуць стомленым і ўзмакрэлым веслярам, — іх варта было б падмяніць.

Пачалі зацякаць ногі, але ён баяўся паварушыцца: любы неасцярожны рух — лодка нахіліцца, страціць раўнавагу, і ўся каманда можа апынуцца ў вадзе. «Няхай Бог адверне ад такой бяды!..» — думаў Павел, спадзеючыся, што яму і яго спадарожнікам па пераправе ўдасца-такі выбрацца на бераг сухімі.

Ды дзе той бераг? Вяслуюць, грабуць хлопцы з усіх сіл, а яго ўсё не відаць, — як быццам уначы Дняпро яшчэ болей ушыркі раздалося.

Тым, хто перапраўляўся за імі, на плытах і байдаках, было, вядома ж, яшчэ цяжэй. Бо лодкай кіраваць зручней — яна лягчэйшая, паваротлівая.

А цячэнне ракі тым часам мацнела і круціла лодку як толькі магло. Днепр не спаў, не драмаў — ён таксама безаглядна рваўся наперад, да сваёй пераможнай вярсты, да мора. І хаваць сваю магутную сілу, патураць начным смельчакам-перапраўшчыкам не збіраўся.

З правага берага зноў паляцелі ўверх, у начное неба, ракеты. Не паспелі яны набраць належнай вышыні, як над Дняпром, амаль над самай паверхняй вады, павіслі і загойдаліся некалькі асляпляльных светлавых слупоў — пражэктараў. Адзін з іх слізгануў па камандзірскай лодцы. А праз імгненне па вадзе засвісталі снарады і кулі: немцы адкрылі прыцэльны агонь па фарсіроўшчыках.

Ні ў чым не вінаватая рака ўмомант страціла раўнавагу — закалацілася, забурліла; пырскі вады ад шматлікіх страшэнных выбухаў узляталі на некалькі метраў увышыню. Насуперак сваёй волі і заўсёднай прыязнасці да тутэйшага люду, яна цяпер не толькі не магла нікога засланіць ад жорсткай агрэсіі з правага берага, але і фактычна спрыяла тым, хто пачаў тапіць яе сапраўдных абаронцаў — адчайных фарсіроўшчыкаў.

Але чаму маўчаць іх палкавыя кулямёты, чаму не аддае аніякіх загадаў Драздоў?

Павел пачуў, як на бліжэйшай лодцы хтосьці ўскрыкнуў — што там такое? Ён павярнуў у той бок галаву, але нічога не паспеў разгледзець, бо ў гэтую самую хвіліну снарад прасвістаў у яго ля вуха. Здрыгануўшыся ад зусім блізкай небяспекі, Галушка прыгнуўся, але тут жа ўспомніў, што за ім сядзіць камандзір палка, і зноў падняў галаву. «Чаму ён не аддае каманду “Агонь!”? Па якой прычыне марудзіць?.. Зрэшты, па кім страляць, калі нічога не відаць? Які з гэтага толк?»

На дне іх камандзірскай лодкі сабралася не адно вядро вады — ці то ад пырскаў, ці, можа, сачылася недзе праз шчыліны. Але ногі ў яго былі сухія — пару тыдняў таму выдалі новыя боты. І гэта крыху супакоіла — значыць, не ўсё так кепска. Ён чакаў горшага, бо на рацэ ўжо дзеелася чорт ведама што: грукат вёслаў, лязгат жалеза, свіст куль і снарадаў, боўтанне ў вадзе і крыкі байцоў зліваліся ў суцэльны вэрхал.

— Без панікі!.. Наперад, да берага! — прагучала, нарэшце, каманда палкоўніка.

Панікуюць тады, калі не чакаюць бяды, калі яна прыходзіць неспадзявана. А фарсіроўшчыкі ведалі, на што ішлі, хоць, пэўна ж, кожнаму хацелася выжыць, сустрэць світанак на запаветным правым беразе. «Але хто зможа ўскараскацца на яго жывым пад такім шчыльным агнём?» — для добрых думак месца ў Паўлавай галаве, мабыць, ужо не заставалася.

І раптам штосьці шандарахнула па лодцы так, што яе рэзка разварнула і кінула ўбок. Павел убачыў, як пахіснуўся і апынуўся ў вадзе вясляр. Цераз правы борт у лодку хлынула вада.

Сапраўдная вайна для Галушкі пачыналася толькі цяпер.

Камандзірская лодка ўмомант перакулілася, і ўвесь экіпаж на чале з палкоўнікам саслізнуў у ледзяную дняпроўскую плынь. Павел не ўтрымаў, выпусціў з рук кулямёт.

— Мяне параніла, — пачуў ён голас Драздова. — Дапамажыце: я не ўмею плаваць…

Боўтаючыся ў вадзе, Павел азірнуўся, шукаючы вачыма камандзіра. Той быў ужо метры за тры ад яго — аднесла цячэнне. Галушка паспрабаваў зрабіць некалькі ўзмахаў рукамі, каб даплыць, дацягнуцца да палкоўніка, але вайсковая апратка набрыняла так, што скоўвала рухі.

І тут ён згледзеў, што побач з Драздовым плыве перавернутая ўгору дном лодка. Яе чорнае прасмаленае днішча, нібы паплавок, вытыркалася, віднелася з вады, даючы шанец на выратаванне хоць каму-небудзь з фарсіроўшчыкаў.

— Не адпускай лодку, — крыкнуў Галушка камандзіру. Але той ужо і сам паспеў ухапіцца за яе, як за выратавальную саломінку. Паўлу заставалася адно: самому дабрацца да пласкадонкі, узяцца за край і цягнуць яе разам з палкоўнікам да берага, заграбаючы ваду вольнай рукою.

Гэта быў лепшы варыянт з тых, што падрыхтавала яму і Драздову крывавая, жудасная ноч на Дняпры.

Ухапіцца за лодку Паўлу ўдалося адразу, як толькі ён падплыў да яе.

Аднак да берага яшчэ трэба было даплысці, цягнучы за сабою лодку з камандзірам. Выдатная мішэнь для немцаў — нічога не скажаш!.. Хіба мог ён падумаць, што на фронце давядзецца стаць жывым буксіроўшчыкам, карчанеючы ў ледзяной вадзе, што ў першым баі, не зрабіўшы аніводнага стрэлу, застанецца без зброі? Кулямёт пайшоў на дно, і хто цяпер мог даць гарантыю, што ўследкі за ім не пойдзе туды і сам Галушка?

Павел адчуваў, што на буксіроўку сілы хопіць, і гэта крыху абнадзейвала. Ды і не зломак ён, вясковы хлопец: рукі ў яго моцныя, учэпістыя, — так проста не дасць зацягнуць сябе ў ледзяны вір, пабарукаецца з Дняпром!..

Ён быў згодзен трываць халадэчу, карчанець у сцюдзёнай дняпроўскай вадзе, толькі б дабрацца да берага, ўратаваць сябе і камандзіра ад долі тапельцаў. Але ж палкоўнік паранены — ці зможа ён трымацца на вадзе?..

Лодка паддавалася яго высілкам. Толькі б Драздоў не адарваўся ад яе, бо Павел тады не паспее падхапіць яго, і кампалка, не ўмеючы плаваць, пойдзе на дно, што камень. «Вось чаму ён падбіраў экіпаж з тых, хто вырас на рэчцы...» — успомніў баец словы камандзіра перад пачаткам фарсіравання.

Галушка азірнуўся, каб пераканацца, што палкоўнік трымаецца за лодку, што выратавальны шанец яшчэ ёсць, і яны змогуць-такі выбрацца на бераг. У тую ж хвіліну куляй ці асколкам збіла, знесла з яго галавы шапку. «Такой бяды, гэта не горшае, што цяпер можа здарыцца. Пакуль сапраўдная небяспека абмінула, я жывы, ці ж варта наракаць на долю?..» — падумаў Павел і, пераканаўшыся, што камандзір надзейна трымаецца, — той, здавалася, учапіўся за край лодкі і рукамі, і зубамі, — пачаў яшчэ шпарчэй заграбаць ваду.

«Бераг!..» — пачулася недзе зусім блізка, але сэнс слова-крыку да Галушкі дайшоў не адразу: гэта ж голас Драздова — значыць, паранены палкоўнік яшчэ не выбіўся з сіл, трымаецца на вадзе. Праз імгненне Павел і сам ўгледзеў абрысы берага, такога жаданага і небяспечнага — тут іх чакаў раз'юшаны вораг, тут у засадзе хавалася, падпільноўвала іх смерць.

У наступную хвіліну радасна ёкнула сэрца: яго ногі слізганулі па нечым цвёрдым, намацалі пад сабою нябачнае апірышча — дно ракі. Ён зрабіў некалькі крокаў,

цягнучы за сабою лодку. Яна цяпер пасоўвалася лёгка — нібы гусіная пярынка. Чаму? — знарок азірнуўся і ўбачыў, што палкоўнік ужо не трымаецца за яе, а сам перастаўляе, валачэ ў вадзе ногі. Лодка стала непатрэбнай, і Галушка адпусціў яе.

Цяпер патрэбна было хутчэй зачапіцца рукамі за прыбярэжныя кусты, каб выбрацца на бераг. Зараснікі лазы шырокай паласой цягнуліся ўздоўж ракі, падступаючы да самай вады. Фарсіроўшчыкі, вядома ж, бачылі іх, разглядаючы днём правабярэжжа і прымяркоўваючы да мясцовасці свае дзеянні ўначы. Гэтае кустоўе цяпер магло стаць выратавальным для Галушкі і яго ўцалелых аднапалчан, якім удалося адолець водную перашкоду.

«Наперад!.. Занять плацдарм!..» — данёсся голас Драздова. Гэта сведчыла, што камандзір, нягледзячы на раненне, не страціў надзеі на паспяховае завяршэнне рызыковай начной аперацыі палка. І абнадзейвала яго, Паўла: самае цяжкае — пераправу — адолелі, а тут, на беразе, яшчэ можна паваяваць. Аднак ваяваць не было чым: ягоны кулямёт ляжаў цяпер дзесьці на дне Дняпра. А голымі рукамі ўзброеных да зубоў немцаў не возьмеш. Але і адступаць не было куды — назад, на левы бераг, не вернешся, згінеш у вадзе.

Над галавою і па баках працягвалі свістаць кулі ды снарады. Да кустоўя напрамкі заставаліся лічаныя метры, але цячэнне збівала з ног, цягнула за сабою. Павел не заўважыў, як апынуўся побач з палкоўнікам. Толькі цяпер ён пачуў, — ці, можа, так яму падалося, — што Драздоў стогне.

«Малайчына! Трымайся за мяне», — падбадзёрыў ён камандзіра, зноў забыўшыся на армейскую субардынацыю. І, не чакаючы сустрэчных рухаў, — сілы на гэта ў Драздова, напэўна, ужо не было, — сам схапіў палкоўніка за руку і пацягнуў да сябе, затым узваліў на спіну. Асаблівага цяжару не адчуў — ісці, перастаўляць у вадзе ногі стала нават крыху лягчэй.

Ды і такая палёгка выйшла кароткай: пад нагамі аказалася нейкая заваліна — корч, хутчэй за ўсё… Спатыкнуўшыся, ён плюхнуўся разам з камандзірам у ваду, моцна выцяўшыся носам аб гэты самы корч. Падымаючыся, Павел, нечакана для сябе, шмаргануў рукою па нечым вострым, нібы па калючым дроце, — дзе тут, у цемры, разбярэшся… Але праз імгненне сцяміў: гэта ж галіны кустоўя — мабыць, лазы. Вось ён, нарэшце, чаканы бераг! Ад радаснага хвалявання здрыгануліся плечы, затраслося ўсё яго мокрае, скарчанелае цела. Павел зноў падхапіў камандзіра і пацягнуў на бераг, у зараснік.

Дзесьці за спінай, вельмі блізка, каля самага берага, зноў бомкнуў, уздымаючы пырскі і гразь, снарад. Цяпер рака для Паўла перастала быць небяспечнай перашкодай. Але што чакае яго тут, на правым беразе? Што яму рабіць з параненым палкоўнікам? Абдумаць план дзеянняў ён не паспеў: штосьці рэзка штурхнула яго ў грудзі, адкінула ўбок…

…У шпіталі, куды Павел трапіў пасля той начной калатнечы на Дняпры з кантузіяй і цяжкім раненнем, ён праляжаў амаль паўгода.

Апрытомнеўшы пасля аперацыі на чацвёртыя суткі, ён ніяк не мог зразумець, што з ім адбылося, і доўга баяўся расплюшчыць вочы. Побач, вакол сябе, чуў галасы, нечыя стогны. Нехта нават звяртаўся асабіста да яго, называў прозвішча: «Галушка». Ён спрабаваў адгукнуцца, вымавіць штосьці ў адказ, аднак язык у роце не варочаўся — быццам прысох. Фізічны боль, прыглушаны наркозам, яшчэ дзесьці драмаў у кутках зраненага, пасечанага асколкамі, парэзанага і шытага-перашытага хірургамі цела. А калі наркоз пачаў выходзіць, паднялася і некалькі дзён запар трымалася высокая тэмпература — адчуванне было такое, што яго паклалі ў

толькі што выпаленую печ, у гарачы прысак. Потым жар змяніўся лютым холадам: Паўла пачало трэсці, ды так, што ні сам, ні дактары суняць гэтую ліхаманку нічым не маглі — здавалася, нейкая магутная сіла падкідвае цела ледзь не пад столь. Не дапамагалі ні дадатковыя коўдры, спагадліва прынесеныя медсястрой, ні спірт, які прымушалі выпіць шпітальныя медыкі. Такі стан доўжыўся не адзін дзень, пасля чаго на яго абрынулася іншая бяда-неспадзяванка — пачалася гікаўка. Хто калі лічыў яе за хваробу? — смеху варта. Але ліхаманка і гікаўка, адна за другою, так стурзалі яго знясіленае цела, што разышліся аперацыйныя швы, і раны зноў пачалі крывавіць. Яны смылелі, пяклі, але паступова, хай сабе і марудна, падсыхалі, струпянелі, — можна было трываць.

Аднак да сапраўднай радасці, да выздараўлення, яшчэ было сто вёрст пешкі. Высветлілася, што правая рука не падымаецца, хоць пальцамі ён трошкі і варушыў, — перашкаджаў асколак у плячы, які глыбока засеў у костцы і які хірургі падчас першай аперацыі не заўважылі. Праз пяць месяцаў яму зрабілі яшчэ адну аперацыю: каб выцягнуць той «варожы элемент», як жартаваў, падбадзёрваючы Паўла, начмед — маладзенькі маёр Храпцоў. Мабыць, у кепскую гадзіну рабілі тую аперацыю, бо завяршылася яна безвынікова: выдаліць асколак не ўдалося. Ці, можа, рызыкаваць хірургі не сталі, баючыся зрабіць горш, — раструшчыць плечавую костку і, увогуле, пакінуць яго без рукі.

Пасля гэтага ён яшчэ некалькі тыдняў валяўся-гультайнічаў у шпіталі, пакуль не аб'явілі канчатковы дыягназ: камісаваць, на фронт яму дарогі ўжо няма. Непрыемнае, прыкрае слова для мужчыны — камісаваць. Горкі прысуд на ўсё жыццё: ты — непаўнацэнны, нездаровы, калека, да вайсковай справы зусім не прыдатны. Ды што тут можна перайначыць, з кім будзеш спрачацца?..

— Едзь, Галушка, дадому. Твой раён ужо вызвалілі. Там ты цяпер болей патрэбен — настаў час сеяць, бульбу садзіць… І з адной рукою бабамі пакамандуеш. А немцаў даб'юць і без цябе — хутка ім хана будзе, — падсумаваў яго шпітальнае лячэнне начмед Храпцоў. І дадаў: — Пра асколак не думай — дасць Бог, сам выпаўзе, здасца табе ў палон…

Урэшце, выйшла так, што «варожы элемент» знайшоў вечны прытулак у Паўлавым плячы. Сядзіць ён там па сённяшні дзень — гэта яго, Галушкі, асабістая памяць пра вайну…

…Вярнуўся ён у роднае Зарэчча вясною, якраз сады цвілі. Вайна тут ужо адгрукатала, пераможна пакацілася на захад. Вёску ад фашысцкага знішчэння ўратавалі партызаны, і яна нанова пачынала сваё звыклае, мірнае жыццё. Аднаўляўся калгас, і Паўла прызначылі брыгадзірам — мужчын сапраўды не было. Не мела гаспадарка і ніякай тэхнікі, усё абраблялі нешматлікімі конямі ды жаночымі рукамі, упоравень з дарослымі працавалі падлеткі.

Мала-памалу пераставала даймаць плячо і пачала крыху згінацца ў локці і падымацца рука. А праз два леты на трэцяе пайшоў ужо на луг з касою. Аднак яшчэ не адзін год па начах плячо з асколкам пякло, тузала — як быццам хтосьці выкручваў і спрабаваў адарваць руку.

Да трыццаці трох гадоў Павел не жаніўся. А потым прыняў нечаканае рашэнне: прывёў у сваю хату суседку Анюту, малодшую за яго на сем гадоў, — без вяселля, але распісаўшыся перад тым у сельсавеце. Двух сыноў і дачку яны выгадавалі, на ногі паставілі. Праўда, раз'ехаліся дзеці па свеце, рэдка ў вёску наведваюцца. Ды не ў крыўдзе на іх бацька, бо ў кожнага ўжо сям'я, свае дзеці — яго, Паўла, унукі. Не агледзеўся, як за ўнукамі праўнукі пайшлі: хлопчык — дзяўчынка, хлопчык — дзяўчынка, быццам па графіку…

…На трэці год пасля заканчэння вайны яму, неспадзеўкі, уручылі ордэн Чырвонай Зоркі. Сам ваенны камісар раёна прыязджаў. Збіралі з гэтай нагоды ў мясцовым клубе аднавяскоўцаў. Карэспандэнт раённай газеты, дзяўчына гадоў дваццаці, распытвала тады, які ж геройскі ўчынак здзейсніў ён, Павел Галушка, на Дняпры. А пра што ён мог распавесці? Пра якое геройства?

— Вада была — як з лядоўні, дагэтуль ад успамінаў мяне трасе. А немцаў бачыў толькі здалёк, цераз рэчку, і страляць на вайне не давялося. Я не забіў аніводнага фрыца, — прызнаўся Павел.

— Не можа быць, — не верыла яму журналістка. Потым так і напісала: «Хто ж яму паверыць? — на вайне быў, а не страляў. Выпадкова, ні за што баявы ордэн далі? Проста на дзіва сціплы ён чалавек, франтавік Галушка…»

…А камандзір палка Драздоў дайшоў да Берліна. Знайшоў яго, Галушку, гадоў дзесяць таму. Прыязджаў з Масквы з сынам да Паўла ў госці. У генеральскім мундзіры, з Зоркай Героя. Такі гаваркі, жвавы. Гасцінцаў яму і Паўлавай жонцы навёз — хай Бог крые. Асабліва радавалася яго Анюта чайніку. Пстрык на кнопачку — і праз хвіліну-другую вада закіпае. Для вясковай гаспадыні, дзе гарачай вады пад рукою няма, выгода з выгод. А генерал, помніцца, жартаваў:

— Гэта табе, Павел, падарунак ад немцаў. Трафей, говорачы ваеннай моваю. За тое, што мы навучылі іх жыць па-чалавечы, не перашкаджаючы іншым, яны нам цяпер выдатныя чайнікі і «мерседэсы» пастаўляюць…

А як старалася-завіхалася, гатуючы пачастунак, Анюта! Казала:

— За адным сталом з генералам я яшчэ не сядзела.

Надта ж упадабаў госць яго самагонку-жытнёвачку, усё распытваў, як яе, такую чысцюткую, Павел робіць, дзівіўся, што вясковую гарэлку двойчы пераганяюць-ачышчаюць. Потым жонка дапякала: знайшоў чым частаваць і хваліцца — самагонкай.

Пяць гадоў мінула, як пакінула Анюта гэты свет. А нібыта мацнейшая за яго, Паўла, была. Ці, можа, толькі знешне харобрылася, замоўчваючы свае балячкі, бачачы, што яму, пакалечанаму на вайне, жыццё даецца цяжэй. Добрую ён палавінку меў, жылі душа ў душу. Вечнае царства ёй там, на нябёсах!..

Павел узняў галаву, паглядзеў у сінюю недасяжную вышыню неба, дзе цяпер, як яму думалася, спачывае ягоная жонка-нябожчыца. І тут жа схамянуўся:

— Э-э, што ж ты, дзед, вырабляеш? — сонца пачало ўжо хіліцца ўніз, а ты ўсё лынды б’еш. Хто Верчын збанок мыць будзе? Кот не памые. Прынясе маладзіца сырадою, а чыстага збанка ўзаменку няма…

Галушка ўстаў і, шоргаючы нагамі па запыленай сцежцы, паволі патупаў у камору. Там пераліў рэштку малака ў шкляны літровы слоік і з пустым збанком выйшаў на падворак, накіраваўся да студні, дзе стаяў цэбрык з вадою, налітай з самай раніцы, — каб грэлася на сонцы дзеля такіх-сякіх патрэб.

Толькі нахіліўся, каб зачарпнуць вады, як пачуў: нехта бяжыць па вуліцы, засопшыся, быццам за ім сабакі гоняцца. Павярнуў галаву — дык гэта ж Ванька Бэська, а каб на цябе качкі!.. А той, угледзеўшы старога, глытаючы словы, загаласіў:

— Дзед Паўлюк!.. Косцік Пеньчык у Збане ўтапіўся… Хлопцы выцягнулі на бераг яшчэ жывога… Але не ўратавалі… «Хуткай дапамогі» доўга не было…

У старэчых грудзях зрабілася горача-горача, быццам нутро апякло нейкай нябачнай галавешкаю. Потым нешта булькнула і абарвалася. Ён пахіснуўся, збан выпаў з яго дрыжачых рук і, стукнуўшыся аб бетонны столік — падстаўку пад вёдры, спецыяльна зробленую калісьці гаспадаром, разбіўся, рассыпаўся на дробныя чарапкі.

Дзед Паўлюк, нібы збіраючыся памаліцца за кароткае, заўчасна скончанае жыццё хлапчука, моўчкі асунуўся на калені і ўпаў ніцма на гарачую ад спёкі зямлю.

Мар'ян ДУКСА

# РАНІШНІ СВЕТ



***Мар’ян ДУКСА нарадзіўся ў 1943 годзе на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Аўтар паэтычных зборнікаў «Спатканне», «Крокі», «Станцыя», «Забытыя словы» і інш. Рыхтуецца да друку кніга вершаў «Птушка вечнасці — душа». Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова.***

* * *

Выйшла з-за небасхілу сонца.
І ўсё ўстрапянулася жаданнем
жыць і радавацца.
Шпак засвістаў-зайграў,
як на скрыпцы,
каб світальны сон дзіцяці
быў салодкім і музыкальным.
Раскрыліся бутоны кветак,
запрашаючы пчол на сняданак.
Дружна з’явілася раса,
абяцаючы касе палёгку.
Усміхнуўся сусед суседу…
Ранішні свет
мае моцную схільнасць
да добрых учынкаў.

* * *

Душа, ажыўленая ў слове,
куды перацякла з грудзей.
Жыві з прызнаннем у любові
да Бога, свету і людзей.
Не доўжы недавер употай,
ён будзе ныць сярод начы.
Не перанось любоў на потым,
яе не трэба берагчы.
Цябе зачэпіць сум найменей,
і не спытаеш: «Шчасце дзе ж?»,
калі яе ты поўнай жменяй
усім штодзённа раздаеш.

**ПАСЛЯ СПОВЕДЗІ**

Людзі пакідаюць храм,
усцешаныя ўчынкам пакаяння,
тым, што камень зваліўся з душы,

тым, што дараванне стала рэальнасцю,
прынамсі — зямной…
Прыўзнялася крыху галава.
Пасвятлелі вочы.
Паходка стала адносна лёгкай.
Да якой пары?

Трэба ж ісці праз натоўп,
праз джунглі зямнога хаосу,
прадзірацца праз іх,
як праз дзядоўнік.
І не заўважым,
як зноўку наліпнуць
калючкі шустрых грахоў.

## КАСЦЕЛЬНЫЯ ВЕЖЫ

На ўзроўні палёту птушак
і першых праменняў сонца.
Яны б паплылі і вышэй,
каб не помнілі пра нас,
пра нашы ніцыя думкі і мары.
Разбураныя не раз
недавяркамі і снарадамі,
зноў вырастаюць, харашэюць, свецяцца
прыемнымі колерамі.
Абавязковы элемент ландшафту,
яго ажыўленне, падпітка і завяршэнне.
Яго канчатковы сэнс і разгадка.
На іх, спагадлівых,
адпачывае маркотнае вока
і стамлёнае сэрца.

* * *

Паэзія, мяне ты зноў
упарта валачэш угору…
Паэзія — кіданне слоў
у неабсяжную прастору.
Ах, колькі іх сярод нябёс,
адвольным ветрам прадзіманых.
У іх такі няпросты лёс
у гушчы галасоў падманных.
Яны настойліва гучаць,
а іх не чуе свет суровы.
Ці могуць гвалт перакрычаць
народжаныя сэрцам словы?

* * *

Свет джаліць, каб твая любоў
пры грубым дотыку змялела.
Не чараду прыемных слоў
насустрач пасылае — стрэлы.

А ты ідзі далей, юнак,
сваю высока ўзняўшы мэту.
Не пракляні яго, аднак,
хоць можаш пацярпець ад свету.

Мы ўзбеглі, так таму і быць,
на дрогкую яго платформу…
Ён нас не хоча загубіць —
ён нашу правярае форму.

* * *

О, падзялі мой боль на ўсіх,
зычлівы, справядлівы Божа —
на стойкіх, моцных, маладых,
хто з ім паладзіць можа.

На ўсіх пароўну падзялі —
ён будзе мала важыць…
Людзей так многа на зямлі —
ну хто той боль заўважыць?

Раздай… Як дробны мак, пасей —
па зерняў пяць на долю.
Якая дробязь для людзей —
адзіны дотык болю.

* * *

Тое, што гліна сырая мы ўсе — не пярэч.
Тое, што робім штодзённа, — занадта нягегла.
Наша жыццё — як гарачая доўгая печ,
дзе нас абпальваюць моцна, як рыхлую цэглу.

Бойся-не бойся, рахманы і ціхі хлапец,
а пакаштуеш ты вогненнай гэтай віхуры.
Цяжка сказаць, што адчуе юнацтва сырэц.
Як павядзе сябе ў моташнай тэмпературы.

Нанава мусіць сябе ён нарэшце стварыць,
бегчы ўтрапёна да сутнасці, вельмі выразнай.
Можа, рассыплецца, можа, адчайна згарыць,
цвёрдасці, як і красы, не набыўшы алмазнай.

* * *

Сізіфаў камень высілкаў людскіх…
Няўжо ён марны — клопат той сізіфаў.
Ну гэта ж глупства, што няма ад іх
карысці — ад усіх дрымучых міфаў.
Галоўнае — змагчы гультайства грэх,
нам сорамна адчайвацца без меры.
Цягнуць мы будзем хоць сто раз уверх
непаслухмяны дзікі камень веры.
Мы ведаем, наколькі здольны ён
скаціцца ўніз, на друзачкі разбіцца.
Адно старанне не прыносіць плён?
Зарана песімістамі рабіцца!
Хай вецер прывітае твой капрыз,
як сокалу, табе ўзварушыць пер’е.
Іначай — сам ты паляціш уніз,
калі цябе адолее бязвер’е.



Іван САВЕРЧАНКА

# ЗАЛАТЫ АМУЛЕТ

*Аповесць-нарацыя[1]*



***Іван Саверчанка нарадзіўся ў вёсцы Маліноўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Аўтар звыш 250 навуковых публікацый. Падрыхтаваў чатыры тэксталагічныя выданні помнікаў даўняга беларускага пісьменства. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Працуе ў Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі.***

## 1

Полацкі дзядзінец вусцішна маўчаў. Горад трывожна чакаў нараджэння княжыча-спадчынніка. На поўначы ў нябёсах гарэў-бушаваў страшэнны вогненны Змей. Ён шугаў жарам, пакрываючы ўсё неба чырванню. Наваколле ўсцяж ззяла, дрыжэла ад сполаху і жудасці.

Набліжалася апоўнач. Вочы сямі ведзьмаў-вешчуноў, якія прыбылі на дзядзінец, свяціліся: іх векавая надзея неўзабаве спраўдзіцца. «Ад нябеснага Змея на свет народзіцца чалавек-волат. Душа народжанага будзе знітавана з усім жывым і мёртвым светам. І зможа ён чуць галасы зямлі і вады, валадарыць над людзьмі і драпежнымі звярамі», — упэўнена меркавалі-прагаворвалі ведзьмакі.

Магутная плынь Дзвіны велічна ўздыхала, зрэдзьчас выварочвала нутро, выяўляла стрыманую моц. Імклівая Палата ўразалася ў магутнае цела Дзвіны, імгненна паглыналася ёю і незваротна знікала ў доўгім чэраве ракі.

Ведзьмакі не памыляюцца. Як яны і чакалі, на зямлю прыйшоў князь-волат. Хлопчык з’явіўся на свет з радзімай меткай на галаве — адзнакай магутнага рыцара. Ведзьмакі параілі маці навязаць на метку немаўляці ваярскую стужку. «Няхай княжыч не здымае гэтую стужку праз усё жыццё, — раілі ведзьмакі. — З ёю ён заўжды будзе стрыманым і міралюбным».

Хлопчыку далі імя Усяслаў, каб учынкі і слава яго разышліся-разляцеліся па ўсім свеце.

У сямігадовым узросце Усяслава пачалі навучаць грамаце. Настаўнікам прызначылі хрысціянскага святара Іллю, які валодаў грэчаскай і лацінскай мовамі, мог лёгка паразумецца з іншапляменнікамі. Майстэрствам гукапісання Ілля-палачанін авалодаў падчас знаходжання ў Канстанцінопалі ў манастыры і цяпер мог з лёгкасцю перадаць набыты досвед нашчадку княжыцкага роду.

Акурат Ілля раскрыў падлетку Усяславу найвялікшую таямніцу кніжнай мудрасці. Настаўнік даходліва растлумачыў, што словы — назвы ўсіх рэчаў і з’яў — складаюц-

[1] Нарацыя — аповед пра гістарычных асоб і даўнія падзеі з элементамі мастацкага вымыслу.

ца з гукаў. Настаўнік паказаў, як кожны гук можна запісаць літарай-знакам. Затым Ілля давёў, што са збегу гукаў утвараюцца склады, з якіх ужо зусім проста складаюцца знаёмыя, чутыя ім раней словы.

Цягам аднаго месяца Усяслаў з лёгкасцю засвоіў назвы літар, а таксама навучыўся адрозніваць галосныя і зычныя гукі. Неўзабаве юнак мог ужо бегла чытаць напісанае. З вуснаў настаўніка ён пачуў дзіўныя аповеды пра далёкія ўсходнія краіны, пра Ісуса Хрыста, рымскіх імператараў і грэчаскіх цэзараў.

Усё аказалася значна прасцей, чым спачатку ўяўлялася Усяславу. Словы, якія ён чуў змалку і якія ўжывалі старэйшыя падчас гутаркі, можна вельмі лёгка, з дапамогай літар і складоў, запісваць на пергамене ў выглядзе асобных сказаў і апавядаць пра ўсе рэчы на свеце.

Пачатак быў пакладзены, княжыч далучыўся да вялікай ракі — кніжнай мудрасці, якую ён не пакідаў на працягу ўсяго жыцця.

Пазней на сродкі полацкага князя набываліся кнігі ў Візантыі і Рыме. Яны старанна перакладаліся, уважліва перапісваліся і зберагаліся. Прыхільнае стаўленне Усяслава да кнігі і асветы саслужыла добрую службу Полацкаму княству і ўсяму народу.

## 2

Усяслаў рос-гадаваўся, набіраўся жыццёвай моцы на ўлонні чароўнай прыдзвінскай прыроды. Седзячы на гладкіх спінах пародзістых скакуноў, юнак, нібы імклівы птах, насіўся па сакавітых лугах і ўзгорках, начаваў пад разгалістымі дубамі.

Княжыч аглядаў землі Полацкага княства, дзе яму наканавана валадарыць. З замілаваннем ён сузіраў фантастычна прыгожыя краявіды роднай зямлі — ранішнія лугі, пакрытыя іскрыстай расой і густымі туманамі, шчыльную расліннасць высокіх берагоў, яркую лістоту восеньскіх клёнаў. З любасцю ў сэрцы юнак слухаў цішыню зімовага лесу, захапляўся дзівоснай прыгажосцю векавых дуброў.

Разам з полацкімі дзецьмі, не зважаючы на княжацкае паходжанне, ён гуляў у «палачку-шукалачку» і ў «пераскочкі», паўтараў заклічкі і прыгаворкі, выслухоўваў крыху крыўдныя дражнілкі. Магутная Дзвіна абмывала і загартоўвала цела Усяслава. Юнак поўнасцю давяраўся воднай стыхіі, занырваў у яе вірлівае нутро, ажно да дна, перакульваўся, усплываў на паверхню, пераплываў на другі бераг і без спачыну вяртаўся назад.

Неверагоднае задавальненне Усяслаў атрымліваў на рыбалцы. Ён авалодаў трохзубай астрогай, з дапамогай якой біў даўгавусых самоў, магутных лінёў і асятроў, якія заплывалі ў Дзвіну з Варажскага мора. Загарпуненую рыбу ён падцягваў на вяроўцы, прымацаванай да астрогі, і выкідваў на бераг. На медную блясну, вырабленую з авальнай пласціны і начышчаную да бляску, юнак лавіў вялізных шчупакоў і акунёў.

Княжычу падабалася ўзбірацца на дрэвы і ласавацца мёдам дзікіх пчол, з насалодай ён спажываў суніцы і чарніцы, любіў пах смажаных грыбоў. У вачах Усяслава з’яўляўся асаблівы бляск, калі ён адпраўляўся на паляванне. Азартныя ловы магутных ласёў і хуткіх казуль мацавалі характар маладога княжыча. Вострымі стрэламі з паляўнічых лукаў Усяслаў метка трапляў у шыю звера, і той кумельгам падаў з капытоў. На рацэ лавілі баброў, футра якіх выкарыстоўвалі для пашыву шапак або вывозілі на продаж. Асаблівага спрыту і меткасці патрабавала паляванне на качак і гусей, якіх збівалі стрэламі на ўзлёце.

Звер, які трапляў у поле зроку Усяслава-паляўнічага, не меў аніводнага шанцу выратавацца ад стралы, выпушчанай з тугога, аздобленага магічнымі знакамі, паляўнічага лука княжыча. Небяспеку аднак уяўлялі паляванні на дзікоў, якія часта кідаліся на паляўнічых. Аднойчы магутны, з доўгімі ікламі і чорнай поўсцю-шчацінай кабан рынуўся наўпрост на Усяслава, каб сваім целам збіць вершніка. Але за крок да яго дзік спыніўся, беспамылкова адчуўшы, што будзе знішчаны няўмольнай дзідай гаспадара. Ваўкоў здабывалі з дапамогай лоўчых ям, рысяў і куніц лавілі капканамі. Позняй восенню выкопвалі з нор тлустых барсукоў.

Надта цешыўся Усяслаў падчас паляванняў на зайцоў і ліс з дапамогай лоўчых птушак — сокалаў і ястрабаў, якія каменем кідаліся на звяркоў і намёртва прыціскалі іх да зямлі. На мядзведзяў звычайна палявалі на конях, выкарыстоўваючы дзіды і трывалыя рагаціны.

На ўсё жыццё запомніў Усяслаў, як падчас спачыну пад разгалістым дубам таўшчэзная гадзюка, чорная, аж да сіні, з шыпеннем кінулася да яго, гатовая смяротна ўджаліць. Аднак не паспела. Вострым кароткім мячом княжыч рассек тлустае цела змяі на кавалкі, якія агідна выгіналіся, але ўжо не ўяўлялі небяспекі.

У вольны час Усяслаў разам з полацкімі хлопцамі і дзяўчатамі гуляў на беразе Палаты ў «Яшчура», — старадаўнюю гульню, якая служыла напамінам пра далёкія часы, калі цнатлівыя дзяўчаты прыносіліся ў ахвяру Дракону-Яшчуру — гаспадару падземнага царства. Пасля ігрышча і спеваў, напоўненых хараством і гармоніяй быцця, пачыналася чаканая гульня, — хлопцы ганяліся за дзяўчатамі, каб узяць тое, што калісьці забіраў у іх Яшчур.

Незабыўнае ўражанне на Усяслава зрабіла свята ў гонар Ярылы — бога ўрадлівасці. На белым кані ўздоўж палеткаў едзе малады юнак у белым адзенні, ногі ў яго босыя, на галаве — вянок, у руках трымае каласы. Дзяўчаты спяваюць песні Ярылу, а затым водзяць святочныя карагоды. Магічны рытуал, мілагучныя вясновыя песні дзяўчат, верагодна, сапраўды спрыялі добраму ўраджаю.

Поўнае зліццё з прыродай, небывалае адчуванне радасці жыцця адбывалася ў летнюю Купальскую ноч, напоеную водарам і пахамі кветак. Незвычайную асалоду і ўцеху Усяславу прыносілі вячэрнія скокі праз вогнішча. Пяшчотныя рукі і гарачыя вусны дзяўчат напаўнялі незвычайнай сілай, а нястрыманыя любошчы ў начным змроку п’янілі.

## 3

Усяслава рыхтавалі не для забаў і ўцех, а для княжання — абароны Бацькаўшчыны. Цела і дух юнака загартоўвалі ў жорсткіх умовах. Князь мусіў быць першым у баявых мастацтвах. Таму шмат часу адводзілася трэніроўкам — змаганнях на мячах, уменні валодаць шчытом, стральбе з баявога лука, спаборніцтвах у кіданні дзіды.

Калі Усяслаў дасягнуў паўналецця, адбылося яго пасвячэнне ў рыцары. Вядзьмак Амеля падчас цырымоніі надзеў на шыю княжыча залаты ланцужок з амулетам-абярэгам. На падвесцы выразна праглядалася выява Перуна — магутнага бога грому і маланкі, які сядзеў на кані, узброены цяжкім молатам, лукам і стрэламі.

— Гэты пракаветны амулет, — запэўніў Амеля, — мае неверагодную моц. Ён дасць табе, княжыч, уладу над людзьмі, заўжды будзе надзейна ахоўваць ад варожай стралы і мяча, адвядзе бяду і хваробы.

Усяслава, народжанага ад нябеснага Змея, даглядалі-выхоўвалі ведзьмакі. Яны паступова навучылі яго таемным ведам, патлумачылі юнаку, як упэўнена валадарыць над людзьмі, гаспадарыць над светам.

Ведзьмакі навучылі таемным словам-закляццям, атрыманым у спадчыну ад далёкіх прашчураў. Услед за настаўнікамі княжыч паўтараў і запамінаў замовы ад розных хвароб, — ад укуса гадзюкі, ад крывацёку, ад дзікіх звяроў. Ён старанна завучваў на памяць закляцці ад злых духаў, ад Дамавіка, Русалкі ды Лесуна. Засвойваў, як неабходна выклікаць на дапамогу, у выпадку патрэбы, розныя стыхіі і планеты, напрыклад, месяц-маладзік. Вельмі карыснай і патрэбнай з'яўлялася замова ад урокаў і нядобрых вачэй:

Урок-урачышча,
Ідзі на цяплішча.
Ад каго стала —
Штоб на ім цела патрашчала.
Соль яму ў вочы,
Галаўня ў плечы.

Ведзьмакі навучылі Усяслава лекаваць цела рознымі травамі і настоямі. Але аніякія лекі, паводле іх меркавання, не дапамогуць без замовы, асабліва, калі трэба пільна спыніць крывацёк. Княжыч-рыцар запамінаў таемныя словы: «Цяклі тры ракі: адна вадзяная, другая медавая, трэцяя крывавая. Вадзяную выліваць буду, медавую выпіваць буду, крывавую замаўляць буду».

У чатырнаццаць гадоў Усяслаў атрымаў поўную ўладу над уласным духам і целам. Людзі шмат разоў бачылі дзіўныя пераўтварэнні, пра што нястомна шапталіся: «Княжыч лёгка перакідваецца ў хуткага сокала і лётае высока пад аблокамі. Пры патрэбе ператвараецца ў магутнага тура, пераадольвае пушчы і лясныя нетры». Усе сведкі ў адзін голас распавядалі: «Калі Усяслаў жадаў, ён куляўся праз галаву і імгненна станавіўся драпежным ваўком. Тады ўсё навокал трымцела ў страху перад ім».

Княжыч сапраўды ператвараўся ў Гаспадара. Лес першым прызнаў уладу Усяслава. Дрэвы бясшумна схілялася ў ціхім паклоне, калі ён бязветраным надвячоркам праязджаў уздоўж дубравы.

Людзі ведалі пра ўладу Усяслава над стыхіямі і праз вякі захавалі памяць пра полацкага князя-чарадзея.

**4**

У 1044 годзе памёр князь Брачыслаў — бацька Усяслава. Пахаванне адбывалася ў адпаведнасці з пажаданнем Брачыслава — паводле старадаўняга звычаю. Нябожчыка апранулі ў княжацкае адзенне і акуратна ўзнеслі на бярозавую скірду. Побач з целам Брачыслава паклалі зброю — меч, шчыт і дзіду, каб князь і на тым свеце заставаўся валадаром.

Усяславу падалі распалены факел, які ён паднёс да скірды. Агонь імкліва паглынаў сухое дрэва. Княжыч назіраў, як бацькава душа разам з клубамі дыму вырывалася з полымя, уздымалася ў неба, а затым павольна растваралася ў жывой прыродзе, — пранікала ў краскі, паглыналася навакольнымі дрэвамі, запаўняла прастору. Калі касцёр дагарэў, попел сабралі ў гліняны сасуд, а затым прынеслі ахвяру — зарэзалі маладога аленя. На месцы спалення і пахавання князя насыпалі высокі курган.

Узімку 1044 года Полацкая зямля прысягала маладому князю Усяславу — сапраўднаму нашчадку Рагвалода, унуку Ізяслава.

Усяслаў сядзеў на дубовым троне. Побач стаялі прысадзістыя дружыннікі, з кароткімі кінжаламі ля пояса. Галаву князя ўпрыгожвала шыкоўная шапка, выраблена-

ная з меха лісы і куніцы. Плечы саграваела мяккая скураная куртка чырвонага колеру, старанна сшытая ўмелымі рукамі майстроў. На нагах — цёплыя саф'янавыя боты.

Сімвалы княскай улады Усяславу паднёс вядзьмак Амеля. Востры меч — знак княскай моцы. Чатырохграневая булава — сімвал чатырох бакоў свету — адзнака ўлады князя над усёй вотчынай. Сіметрычныя лініі ромбікаў, крыжыкаў, кропак-кружочкаў і хваль на бранзалеце сімвалізавалі магутныя сілы прыроды — Ваду, Зоркі, Сонца і Вецер, якія будуць дапамагаць князю.

Затым знатныя асобы Полацкага княства па чарзе падыходзілі да дубовага трона, апускаліся на калені, схілялі галовы і гучна прамаўлялі словы прысягі. Спачатку прысягнуў ваявода Жынь з дружынай. Голас ваяводы гучаў роўна і ўпэўнена:

— Клянуся, княжа, служыць табе верай і праўдай! Клянуся бараніць тваю вотчыну і ўсю Полацкую зямлю ад ворагаў нашых! Абяцаю ніколі не здрадзіць, а калі трэба — пакласці жыццё за цябе.

Затым да Усяслава наблізіліся старэйшыны гарадоў — Друцка, Віцебска, Менска, Оршы, Браслава, Усвят, Заслаўя, Лагойска, Копыся, Лукомля. Пасля іх падышлі купцы, апошнімі кляліся рамеснікі і майстры. Цырымонія доўжылася ад самага ранку да абедзеннага часу.

Па завяршэнні ўрачыстасці Усяслаў запрасіў гасцей за стол. Частавалі смажаным мясам, рыбай, грыбамі. Пілі за здароўе князя, яго моц і славу.

Князь Усяслаў, якому споўнілася 16 гадоў, стаў паўнаўладным валадаром Полацкага княства.

Наперадзе было шмат спраў. Галоўная — узняць, узвысіць горад, умацаваць абарончыя збудаванні, каб аніякі вораг не змог зганьбіць княжацкі род, каб слава пра Полацк разнеслася па ўсім свеце! Затым узвесці новы княжацкі палац — велічны і прыгожы.

Усяслаў склікаў майстроў-гароднікаў, дойлідаў і цесляў з усяе Полаччыны. Ніхто не пярэчыў князю, — задума слушная і своечасовая.

Увесну распачалася праца. На вазах прывозілі пясок, гліну і камяні, мацавалі грунт, уздымалі горад над Дзвіной.

Затым пачалі ўзводзіць вежы і сцены дзядзінца — Верхняга замка. З навакольных лясоў звозілі магутныя дубы, з вярхоўя сплаўлялі ракой. Дрэва старанна апрацоўвалі, падганялі пад належныя памеры. Спрактыкаваныя рукі майстроў-фартыфікатараў будавалі вежу за вежай, клалі вянец за вянцом. Асабліва трывалай рабілі замкавую браму.

Неўзабаве ўзяліся за ўзвядзенне княжацкага палаца. Атрымаўся сапраўдны цуд. Вокны і дзверы аздобілі фігурамі звяроў і птушак. Печкуры вырабілі печы з цэглы, рамалявалі іх незвычайнай прыгажосці ўзорамі. Дах накрылі меддзю. Гутнікі падрыхтавалі адмысловае шкло для вокнаў. Палац князя зіхацеў, пераліваўся пад сонечнымі промнямі, цешыў вока.

— Прыйшоў час, княжа, прывесці ў дом маладую князёўну! — лагодна раілі-падказвалі дарадцы. У новы палац яна прынясе ўтульнасць, ахутае цябе каханнем.

Усяслаў, аднак, не спяшаўся. Трэба агледзець гарады, шматлікія весі, што раскінуліся па берагах рэк і азёр, уласнымі вачыма ўбачыць усю вотчыну, адчуць дыханне зямлі.

Князь загадаў рыхтаваць ладдзі, каб у пачатку лета плысці ўніз па Дзвіне. Ежу і напоі сабралі хутка. Дзякаваць Богу, усяго хапала — сушанай рыбы, закопчаных кумпякоў і каўбас.

Чэрвеньскай раніцай чатыры ладдзі адштурхнуліся ад берагоў Палаты. Спрактыкаваныя кормчыя кіравалі суднамі. Князь з бліжэйшым атачэннем плыў у

другой ладдзі, у першай знаходзіліся дружыннікі, у трэцяй размясціліся кухары з прыпасамі, а таксама гаспадарнікі з розным начыннем. У апошняй, чацвёртай ладдзі, плылі купцы з іх таварамі і вырабамі на продаж.

Каля буйных паселішчаў, што трывала гняздзіліся ўздоўж шчодрай Дзвіны, ладдзі прычальвалі. Князя ўрачыста сустракалі з нізкімі паклонамі папярэджаныя ганцамі жыхары. Мясцовыя старэйшыны распавядалі пра клопаты, хваліліся здабыткамі, паказвалі ўмацаванні. Гандляры тым часам рабілі ўласную справу.

Вярталіся назад стомленыя, але з добрым набыткам. Усяслаў здабываў патрэбны яму досвед, веданне зямлі і людзей.

Кожны наступны год, калі лета ўбіралася ў сілу, а дні станавіліся доўгімі, князь на конях дабіраўся да вярхоўяў рэк, адкуль уніз спускаўся на ладдзях. Гэтак Усяслаў агледзеў Бярэзіну і Дзісну, Друць і Вілію, Обаль і Дняпро.

Падчас адной з чарговых паездак-вандровак Усяслаў у Магілёве «ўпаляваў куніцу» — спаткаў чорнавалосую крывічанку Дабраславу — дачку гарадскога пасадніка Куна. Падчас абеду ў доме пасадніка яна падносіла пачастунак. Акуратны бронзавы вянок з яркімі колцамі-падвескамі гожа ляжаў на галаве дзяўчыны. Мілавідны, адкрыты, крыху прадаўгаваты твар падкрэсліваў арыстакратычнаць яе паходжання. У куточках вуснаў хавалася прыемная ўсмешка. Вочы Дабраславы свяціліся чароўным святлом. На правай руцэ прывабна сядзеў арнаментаваны бранзалет, на якім цягнуліся роўныя лініі знакаў — сімвалаў прыродных стыхій. Сукенка, вышытая каляровымі ніткамі, падкрэслівала гнуткі стан прыгажуні.

Дабраслава назаўжды паланіла сэрца Усяслава.

Вяселле гулялі ў Полацку на княскім двары. Госці прыехалі з усяго княства, а таксама ад суседніх плямёнаў і гарадоў. Усе прыбылі з каштоўнымі падарункамі.

Усяслаў сядзеў на куце ва ўрачыстым убранні. Побач Дабраслава — сапраўдная жамчужына, — у белай вясельнай сукенцы з чырвонай вышыўкай. На галаве прыгожы вянок з залатымі скроневымі колцамі. Тонкай работы каралі і залатыя завушніцы ззялі каштоўнымі камянямі. На правай руцэ нявесты — віты залаты бранзалет з выявамі звяроў на канцах, на нагах — скураныя чаравічкі, упрыгожаныя каляровым арнаментам.

Сталы ўгіналіся пад цяжарам мясных і рыбных вырабаў, смажанага і варанага. Усё віравала і гуляла. Госці пілі і елі, гучна віншавалі маладых.

Дудар зазыўна граў. Яго змянялі дзесяціструнныя гуслі і цымбалы, пад звон якіх дзяўчаты і хлопцы вадзілі карагоды. Калі ўдарылі барабаны, трашчоткі і лыжкі, то пачаліся скокі з прыпеўкамі.

Музыка, скокі і спевы перапыняліся забавамі і ўцехамі. Паўсюль панавалі гарэзлівасць, нястрыманы рогат і жарты.

## 5

Усяслаў мірна княжыў-гаспадарыў на Полацкай зямлі. Ён выношваў вялікія планы — разбудоўваць і умацоўваць гарады, пашыраць рамёствы і гандаль. На радасць князю Дабраслава нарадзіла сыноў Давыда, Барыса, Глеба, Рамана, Святаслава і Расціслава. Дзеці гадаваліся, спазнавалі жыццё, а князь цешыўся: «Нарэшце адродзіцца вялікая дынастыя Рагвалодавічаў. Кроў мужнага славяніна-памора, бясстрашнага рыцара, загартаванага ў бітвах з германцамі, павінна ўзяць сваё, і род яго будзе правіць вечна!»

Усяслаў часта бавіў час з дзецьмі. На замчышча запрашаліся полацкія трукачы, якія дэманстравалі захапляльныя здольнасці ў хаджэнні па канаце, скоках цераз галаву. Яны паказвалі неверагодныя акрабатычныя трукі і скокі. Усім надта падаба-

лася сцэна, калі Каваль-асілак перамагаў Цмока, які прыходзіў забіраць дзяцей для ўласнай спажывы. Пасля ўцехі князь шчодра ўзнагароджваў акрабатаў.

Калі сыны падраслі, Усяслаў загадаў паклікаць да яго Іллю — адукаванага святара, які ўмеў чытаць кнігі, валодаў грэчаскай і лацінскай мовамі, ведаў кніжную мудрасць.

Князь звярнуўся да Іллі з такімі словамі:

— Трэба заснаваць школу ў Полацку, а таксама адкрыць школкі ў гарадах княства, каб пачаць навучанне дзетак. Надышоў час, каб як мага больш нашых людзей маглі чытаць і пісаць па-славянску, спасцігаць кніжныя веды.

Усяслаў выдатна ўсведамляў сутнасць і значэнне найвялікшага з адрыццяў чалавечай цывілізацыі — запісу гукаў і слоў знакамі-літарамі. «Далучэнне шырокага кола людзей да гэтага фенаменальнага, але адначасова даволі простага вынаходніцтва дасць неверагодны штуршок развіццю краіны, — слушна меркаваў князь. — Адукаваныя палачане змогуць хутчэй засвойваць мовы іншых народаў і плямён, пераймаць лепшыя здабыткі, карыстацца дасягненнямі і адкрыццямі, зробленымі ў іншых землях».

Ілля неверагодна ўсцешыўся такому рашэнню валадара. Нарэшце вялікая справа зрушыцца з месца, адукацыя дзяцей стане звычайнай з’явай, а падрыхтаваныя ім настаўнікі змогуць напоўніцу прымяніць свае здольнасці і таленты.

Усяслаў меў і яшчэ адзін важны клопат. Ён даўно думаў пра заснаванне пры княскім двары Скрыпторыя. Князь падзяліўся ўласнымі думкамі з адукаваным дарадцам Міраславам.

— Вялікія справы, што адбываюцца ў Полацкай зямлі, павінны запісвацца для нашчадкаў, трэба працягваць летапіс нашай зямлі.

Міраслаў з радасцю пагадзіўся. Ён распавёў Усяславу пра ўжо распачатую ім працу над «Словам пра славян». Полацкі валадар з цікаўнасцю слухаў аповеды Міраслава пра паходжанне славянскіх народаў, калі і ўздоўж якіх рэк яны рассяліліся, якія абшары займаюць, хто з’яўляецца іх даўнімі прашчурамі, якія маюць звычаі і як здзяйсняюць розныя рытуалы.

Усяслаў даручыў Міраславу ствараць пры княскім палацы Скрыпторый. Паводле задумы князя, адукаваныя скрыптары мусілі выканаць важную місію — пісаць гісторыю Полацкага княства, узмацніць, а дзе трэба, і наноў наладзіць культурныя сувязі і кніжны абмен са славянскім светам, перадусім, з Балканамі і варажскімі славянамі, з краінамі Заходняй і Паўночнай Еўропы, Візантыяй, Блізкім і Сярэднім Усходам. Валадар даручыў наладзіць навучанне мовам іншых народаў. Усяслаў глядзеў далёка ў будычыню: «Паперадзе пойдзе культура, а за ёю неўзабаве купцы з таварамі, а потым усталюем у далёкіх краінах нашы двары».

Усяслаў шчодра ўзнагародзіў Міраслава і загадаў, каб той асабіста суправаджаў яго ва ўсіх паходах, дакладна і падрабязна занатоўваў на пергамене ўсе падзеі і здарэнні, якія адбываліся на Полацкай зямлі.

Полацкі валадар адразу выявіў мудрасць і пачаў пазіраць у люстэрка гісторыі, ацэньваць уласнае месца і ролю ў жыцці княства.

## 6

Усяслаў цудоўна разумеў, што без развіцця рамёстваў, найперш, без уласнага вырабу зброі Полацкаму княству ніколі не ўзняцца і не ўстаяць перад націскам агрэсіўных суседзяў.

У хуткім часе па загадзе князя ў Полацк пачалі запрашаць лепшых майстроў з усяго княства. Князь дапамагаў ім узвесці новыя майстэрні, набыць патрэбныя

інструменты і прылады. Рамеснікаў і майстроў атулілі ўвагай. Усяслаў дбаў і ўсяляк спрыяў развіццю разнастайных рамёстваў, стварыў рамесніцкую слабаду, вызваліў майстроў ад выплаты падаткаў.

Усяслава надта цікавілі таямніцы чорнай металургіі, тысячагадовыя сакрэты вырабу жалеза з балотных і лугавых руд. Разам з ваяводам Жынем і трыма ахоўнікамі, якія суправаджалі князя верхам на конях, ён накіраваўся ў адну з бліжэйшых рудняў. Там вясковыя металургі паказалі князю радовішчы жалезнай руды, спосабы яе здабычы. Затым, крок за крокам, раскрылі ўвесь доўгі працэс варкі жалеза ў доменных печах, — адкідванне шлакаў, атрыманне крыцы і, урэшце, выраб сырадутным чынам высакаякаснай сталі.

Князя неверагодана ўразіў працэс здабычы жалеза і тэхналогія атрымання трывалай сталі, хаця знешне ўсё выглядала даволі проста. Металургі патлумачылі валадару, што складанасці з'яўляюцца якраз тады, калі кавалі пачынаюць апрацоўку метала і выраб з яго неабходных канструкцый, надзейнай зброі, інструментаў і прылад.

Як пераканаўся Усяслаў, кавалі сапраўды тварылі цуды з жалеза і сталі, карыстаючыся кузнечнымі горнамі з мяхамі для паддування паветра, накавальнямі, молатамі і малаткамі, кляшчамі і зубіламі, бародкамі і напільнікамі. У кузнях яны рабілі сотні металічных інструментаў і прылад — сякеры, пілы, скоблы, разцы, стамескі, свярдзёлкі, стругі. Вельмі тонкай працы патрабаваў выраб інструментаў для апрацоўкі каляровых металаў — пінцэтаў, секачоў, накавальняў.

Галоўны клопат Усяслава — выраб зброі для дружыны. Усяслаў часта наведваў майстэрні збройнікаў, дзе апранаў тоўсты скураны фартух і побач з дасведчанымі майстрамі, якія валодалі старадаўнімі сакрэтамі, працаваў над вырабам халоднай зброі для рукапашнага бою — мячоў і булаў, кінжалаў і баявых сякер, шастапёраў, сабель і кісцянёў, вострых металічных наканечнікаў для коп'яў, суліц і стрэл, а таксама дэталяў арбалетаў і самастрэлаў. Князь уласнымі рукамі вырабляў трывалыя шлемы, пласцінчатыя і чашуйчатыя кальчугі, наручы і накаленнікі.

Шчыты выраблялiся ў асобных майстэрнях. Над імі сумесна працавалі сталяры, гарбары, кавалі і мастакі. Сталяры рыхтавалі драўляную аснову, гарбары падбіралі найбольш трывалыя гатункі скур. Кавалі ажыццяўлялі акоўку шчытоў, умацоўвалі іх металічнымі заклёпкамі. Мастакі размалёўвалі шчыты яркімі сімваламі.

Усяслаў высока цаніў стараннасць седляроў, якія выраблялі надзейныя сёдлы і збрую для баявых коней дружыны князя.

Вырабленая ў кузнях зброя, сродкі абароны і ўся амуніцыя паступалі ў княжацкае войска, апрабоўваліся дружыннікамі.

Першы і галоўны абавязак Усяслава — абарона княства ад варожых уварванняў, узвядзенне абарончых збудаванняў. Дзеля гэтай мэты князь стварыў арцель гараднікаў на чале з майстрам Ваўком. Яны заняліся пабудовай надзейных фартэцый, якія б не дазволілі ворагам з наскоку авалодаць гарадам. Абарончыя збудаванні ўзводзіліся з улікам рэльефу мясцовасці — на мысах, узгорках, на выспах сярод балоцістых нізін. Фартэцыі складаліся з землянога вала-грады, драўляных сцен і вежаў, а таксама равоў, якія запаўняліся вадой. У выніку на абшарах Полацкай зямлі абнаўляліся колішнія і паўсталі новыя гарады-замкі.

Асабліва старанна Усяслаў умацоўваў паўднёвую абарончую лінію, якую ўтваралі Менскі, Заслаўскі, Барысаўскі, Клецкі, Слуцкі, Лукомльскі і Друцкі замкі, а таксама абарончыя збудаванні Оршы і Копыся, Магілёва і Рагачова, Быхава і Мсціслава. На ўсходзе былі наноў адбудаваны Віцебск і Усвяты, на захадзе — Браслаў, Герсіке і Кукейнас. Князь не толькі пільна сачыў за ўзвядзеннем шматлікіх збудаванняў, але

з сякерай у руках, побач з цеслярамі, асабіста ўзводзіў сцены і абарончыя вежы з бярвенняў, выбіраў найбольш прыдатныя тыпы зрубаў, канструяваў забаралы, мацаваў асновы валоў камянямі.

Дзеля аховы ва ўсіх гарадах Усяслаў сфарміраваў сталыя гарнізоны, кіраўнікамі якіх прызначыў правераных у бітвах дружыннікаў. Гарады старанна ўпарадкоўваліся, праводзіліся інжынерныя работы, — клаліся маставыя і рабіліся водаадводы.

У Полацкай зямлі імкліва павялічвалася колькасць невялікіх паселішчаў. Абарончыя збудаванні паўсталі ў Сёмкавым Гарадку, Свіслачы, Гарадзішчы на рацэ Пціч, Цяцерыне, Навасёлках на рацэ Бярэзіна і Панізоўі на рацэ Гайне. Кожнае мястэчка і паселішча шмат у чым пераймалі досвед Полацка. Тут узнікалі рамесніцкія арцелі. Мясцовыя майстры гэтаксама сяліліся ў слабодах, вызваляліся ад платы падаткаў у княскую казну. Паступова Усяслаў ператварыў Полацкае княства ў магутны фарпост, дзе было ўзведзена звыш трох дзясяткаў фартыфікацыйных сістэм.

Амаль увесь час Усяслаў праводзіў з дружыннікамі. Разам з імі ён няспынна практыкаваўся ў баявых майстэрствах. Вучыліся трапляць дзідай у мішэні, біліся на мячах, стралялі з лука, адшліфоўвалі тэхніку абароны ад удараў праціўніка з дапамогай шчыта, асвойвалі прыёмы вольнай барацьбы і рукапашнага бою.

Усяслаў правёў рэформу войска. Усю дружыну ён раздзяліў на тры асноўныя аддзелы: атрады стралкоў-лучнікаў, пяхоту і конніцу, што дазваляла найбольш функцыянальна выкарыстоўваць войска ў бітвах. Стралкі-лучнікі ахоўвалі і стрымлівалі першыя атакі ворага. Пяхота мела на ўзбраенні коп'і і кінжалы, а таксама шчыты для абароны. Найбольш узброенай і мабільнай з'яўлялася кавалерыя. Коннікі мелі на ўзбраенні коп'і і суліцы, мячы і шаблі, кінжалы і кісцяні. У кожны род войска адбіраліся найбольш прыдатныя дружыннікі, з улікам іх асабістых баявых здольнасцей, што істотна ўзмацняла прафесіяналізацыю войска.

Рэгулярныя турніры, набліжаныя да рэальных баявых умоў, загартоўвалі вайсковы дух коннікаў, лучнікаў і пешых ваяроў.

Полацкая зямля ажывала, імкліва набіралася моцы.

Усяслава цешыла, што ўвесь час расла колькасць майстэрняў. Князь цікавіўся станам гаспадарчых рамёстваў, спрыяў бондарам і шорнікам, завітваў у майстэрні ганчароў, наведваў гарбароў і краўцоў, якія апрацоўвалі скуры, шылі з іх цудоўны абутак і вопратку.

Кавалі-ювеліры працавалі ў асобных княскіх майстэрнях. З каляровых металаў — золата, срэбра, медзі ды бронзы — яны стваралі надзвычай каштоўныя рэчы: жаночыя ўпрыгожанні і элементы касцюма, культавыя прадметы, дэкаратыўны і сталовы посуд, дарагую конскую збрую, аздабленне для зброі. Майстры рабілі ўнікальныя рэчы шляхам ліцця або механічнай апрацоўкі — коўкі, чаканкі, гравіроўкі, пракаткі, цяснення, штампоўкі, чарнення, эмалі і інкрустацыі металу.

Усяслаў набываў ювелірныя вырабы ў якасці падарункаў для жонкі, часта завітваючы разам з ёй у майстэрні.

Жаночыя ўпрыгожанні з дэкаратыўнымі малюнкамі і дзівоснымі выявамі зачароўвалі княжну. Каштоўныя завушніцы і каралі, кольцы і пярсцёнкі, manісты і пацеркі, залатыя бранзалеты і падвескі вылучалі Дабраславу сярод іншых жанчын.

За набытыя рэчы князь разлічваўся залатымі ды срэбранымі манетамі, — візантыйскай, еўрапейскай ці арабскай штампоўкі. Арабскія сярэбраныя дырхемы і дынарыі з Еўропы папаўнялі хатнія скарбонкі ўмелых майстроў. Асабліва шанцавала ювелірам, калі Усяслаў разлічваўся залатымі манетамі князя Уладзіміра, якія лічыліся сапраўдным скарбам.

## 7

Князь з радасцю назіраў, як земляробы з навакольных вёсак кожны тыдзень везлі для гараджан харчы — мясныя вырабы з хатніх жывёл і птушак, смажаных кур, гусей і качак, муку, збожжа і пшаніцу, гарох і капусту, моркву і агуркі, мак і часнок. Узамен сяляне набывалі неабходныя для хатняга ўжытку вырабы з гліны і металу, вопратку і абутак, прылады для земляробчых заняткаў — лемяхі, рыдлёўкі, ланцугі. На кірмашах ішоў гандаль, па заканчэнні якога ўсе з прыўзнятым настроем і карыснымі набыткамі вярталіся дамоў.

Гандаль шырыўся не толькі ў Полацку. Ва ўсіх гарадах і буйных паселішчах княства пачалі рэгулярна, адзін раз на тыдзень, наладжвацца кірмашы.

Усяслаў усё больш пераконваўся ў неабходнасці для Полацкага княства не толькі звычайных лодак, але і ўласных вялікіх караблёў, сапраўднага гандлёвага флоту — рачнога і марскога, — каб наведваць далёкія краіны. Князь сабраў майстроў для размовы, пасля якой вырашыў ехаць за досведам будавання караблёў да вільцаўлюцічаў — славянскага племя, што жыло на беразе Варажскага мора. Вільцы-лютічы пакланяліся свайму богу Сварогу і валодалі выключным майстэрствам пабудовы суднаў, няйнакш, перанятым імі ад вікінгаў.

Пасля сыходу лёду Усяслаў з майстрамі выправіўся за ведамі. Прыбылі ў Радагост — галоўны горад вільцаў-лютічаў, які стаяў на ўзбярэжжы. Горад меў форму трохкутніка, адна сцяна якога знаходзілася каля самага берага.

Усяслаў жыў без асаблівых выгод і штодня поплеч з майстрамі працаваў на верфі. Спрактыкаваны майстар Руба вельмі хутка засвоіў тэхніку пабудовы караблёў. Праз некалькі месяцаў тры судны памерам звыш дзесяці метраў былі гатовы. Караблі мелі па дваццаць вёслаў, шырокі парус і масіўны руль-весла. Яны маглі змясціць каля пяцідзесяці чалавек і некалькі тон паклажы.

Усяслаў, развітаўшыся з гасціннымі гаспадарамі, на пабудаваных караблях разам з майстрамі вярнуўся ў Полацк.

Пасля вяртання князь заклаў уласную верф для пабудовы лодак і караблёў. Будаўнічыя матэрыялы — дубы для кіля, сосны для абшыўкі і вёслаў — дастаўлялі з навакольля. Трывалыя вяроўкі са шчаціны і поўсці рыхтавалі полацкія майстры. Усяго хапала. Неўзабаве Полацкае княства мела ўласны флот, прыдатны для гандлёвых і вайсковых мэт.

Усяслаў усяляк спрыяў гандлярам, асабліва тым, якія адважваліся наведваць далёкія краіны. Ён выдзяляў ім дружыннікаў для аховы, выдаваў падарожныя граматы, замацаваныя княскай пячаткай. Гандляры шчодра плацілі князю за клопат.

Полацкага валадара з дзяцінства вабіў далёкі свет, зачароўвалі аповеды пра іншыя дзівосныя краіны. Прагны да пазнання і падарожжаў, ён неаднойчы пераапранаўся ў звычайнага гандляра і здзяйсняў рэйды ў далёкія краіны — на ўсход, у арабскія землі, дастаўляў тавары на кірмашы Бухары і Самарканда, Антыёхіі і Багдада. Разам з купцамі на лодках, нагружаных таварамі, князь спускаўся ўніз па Дняпры, праз Рускае мора наносіў гандлёвыя візіты ў Канстанцінопаль і Афіны. Пад аховай надзейных ваяроў Усяслаў наведваў здаўна асвоеныя Рыжскія базары і востраў Готланд.

Вярталіся дамоў, як правіла, з багатымі набыткамі: з Заходняй Еўропы прывозілі франкскія мячы, баявыя сякеры, доўгія кінжалы, круглыя шчыты. Асабліва прыбытковымі былі візіты ў Паўночную Германію, адкуль прывозілі свінец, волава, медзь і срэбраныя зліткі — маркі. Найбольш заможныя гандляры дабіраліся да халоднай Скандынавіі, адкуль дастаўлялі каштоўныя ўпрыгожанні — шыкоўныя грыўны, каралі, падвескі. З Крыма прывозілі віно і алей.

Усяслаў і яго гандляры заўжды прывозілі на радзіму не толькі каштоўнасці і ўсялякае дабро, але і новыя ўражанні. Вярталіся яны з унікальнымі ведамі і неацэнным досведам, набытым у іншых народаў, якія неўзабаве ўжывалі на карысць роднай зямлі.

Як валадар і князь, Усяслаў амаль заўжды скупляў у гандляроў многія прывезеныя імі прадметы раскошы, вырабы з золата, срэбра ды бронзы, каштоўныя камяні, узорныя шаўковыя тканіны як для патрэб уласнай сям'і, гэтак і для дзяржаўнай казны. Яго бліжэйшае атачэнне — тысяцкія, сотнікі, пасаднікі гэтаксама імкліва багацелі.

Па прыездзе дамоў заможныя купцы, маючы добрыя набыткі, за ўласныя сродкі ўзводзілі шыкоўныя палацы на берагах рэк і азёр, на прыгожых узвышшах у атачэнні дуброў. Выменяныя на замежных кірмашах залатыя і срэбраныя зліткі часткова прыхоўваліся ў надзейных месцах, а часткова перадаваліся ў казну, на патрэбы дзяржавы — утрыманне князя і дружыны, плату за выраб зброі.

Усяслаў радаваўся таму, як багацелі купцы, вітаў росквіт рамесніцкіх арцеляў. Земляробы таксама атрымалі магчымасць даражэй прадаваць ураджай, набываць неабходны для апрацоўкі зямлі інвентар, і галоўнае — коней і валоў.

Аднак князь не забываўся і на інтарэс дзяржавы. Збор даніны — яго нязменны клопат. Усяслаў асабіста наведваў гарады і буйныя паселішчы, збіраў прыналежныя казне падаткі — пушніну, скуры, мёд, каштоўныя вырабы, адмысловыя замкі, якія затым адпраўляліся на знешнія рынкі, дзе абменьваліся на залатыя і срэбраныя зліткі. Гарадскія пасаднікі і мясцовыя старэйшыны сачылі за парадкам, памерамі падаткаў. Ніхто не асмельваўся ўхіляцца ад подацяў у дзяржаўную казну. Тых, хто спрабаваў пярэчыць волі князя, чакала жорсткае пакаранне — пазбаўленне маёмасці, ганебнае выгнанне з Полацкай зямлі.

Полацкае княства на вачах уздымалася, павялічвалася дружына князя, узрастаў аўтарытэт дзяржавы. Усяслаў прыходзіў да цвёрдай высновы — неабходна чаканка ўласнай манеты. Князь слушна меркаваў, што ўласныя грошы паскораць гандаль унутры краіны і асабліва на знешніх рынках.

«Золата і срэбра ў падвалах дастаткова, майстры, дзякаваць Богу, ёсць. Трэба пачынаць вялікую справу. Полацк павінен пераўзысці Рым і Канстанцінопаль» — разважаў-планаваў валадар.

Усяслаў паклікаў на дзядзінец залатароў і сярэбранікаў, падзяліўся задумай. Майстры ўхвалілі грандыёзныя планы князя. Неўзабаве былі падрыхтаваны формы для адліўкі манет, а ў хуткім часе князь трымаў у руках першыя ўзоры залатовак. На аверсе манеты — выява князя Усяслава і надпіс: «Усяслаў князь Полацкі. А се его злато», на рэверсе — коннік з мячом. Усяслаў застаўся задаволены працай залатароў.

Неўзабаве на Ніжнім замку быў закладзены манетны двор.

## 8

Полацк і гарады княства імкліва раслі. Хоць падаткі на сельскія паселішчы ўвесь час павялічваліся, але ў княстве неўзабаве пачаў адчувацца недахоп хлеба, ячменю, пшаніцы, грэчкі і бабоў. Не ставала аўса і сена для коней. Патрабаваліся большыя пастаўкі каноплі, гароху і проса, мясных прадуктаў. Адчуваўся недахоп палатна, якое выраблялі з лёну. Усяслава не задавальняў гэтакі стан земляробства і жывёлагадоўлі.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

# ПАТРЭБНАЯ КНІГА

Кніга Віктара Шніпа «Проза і паэзія агню» чамусьці шырокага розгаласу не атрымала. Хаця пра творчасць гэтага паэта на старонках друку гавораць увогуле часта. Між тым названы зборнік вершаў, некалькіх эсэ і адной аповесці варты ўвагі, можа, больш, чым якая іншая кніга аўтара. Ён гэтым разам раскрываецца не толькі як паэт, але і як грамадзянін — дзякуючы сваім «Баладам крыві і любові». Апошнія займаюць палову кнігі і ахопліваюць паэтычныя нарысы жыцця дзеячоў беларускага мінулага, пачынаючы ад Усяслава Чарадзея і Еўфрасінні Полацкай і завяршаючы нашымі сучаснікамі, якіх, праўда, няма ўжо з намі — Анатоля Сыса, Яўгена Глебава, Уладзіміра Мулявіна… З улікам таго, што В. Шніп стварае баладныя абразкі пра самае шырокае кола асоб кожнай эпохі, асоб, якія самі рабілі эпоху: палітыкаў і асветнікаў, вайскоўцаў і мастакоў, навукоўцаў і пісьменнікаў — сам баладны цыкл можна лічыць гістарычным.

У нечым балады В. Шніпа нагадваюць помнікі. Вядома, не кожны з помнікаў робіцца па пакліканні душы. Але тым больш пачэснай становіцца справа, калі аўтар *сплочвае доўг*, аддае даніну айчыннай гісторыі і культуры. У дадзеным выпадку рамесніцтва, якім пачаў «грашыць» В. Шніп, вельмі дарэчы. Такім чынам, узводзіцца своеасаблівы пантэон — толькі не багоў, а чалавечых постацей з нашага беларускага мінулага; постацей, шмат у чым ужо легендарызаваных. Гэты цыкл можна параўнаць з навуковым даследаваннем — у ім можна выдзеліць ключавыя словы, што чырвонай ніткай праходзяць праз балады. Сістэма абазначэнняў роднага: Айчына / Радзіма / Беларусь / ВКЛ; сталіц: Вільня / Мінск. Тут жа і шэраг абстрактных катэгорый з класічным значэннем і сімволікай: любоў, свабода, доля, Бог і, вядома, Храм, а таксама: дзень, сонца, ноч, змрок, кроў, слёзы, сэрца, крыж, вецер, агонь. Але ў адрозненне ад навуковага даследавання аўтар не імкнецца да аб'ектыўнасці. Наадварот, шмат у якіх месцах ахвяруе ёю — на карысць актуальнай рамантычнасці міфалагемы «Беларусь», пра якую В. Шніп некалі пісаў:

Мы сабе прыдумалі Краіну  
І, самотныя, туды ўцяклі.

Цяпер паэт насяляе Краіну людзьмі годнымі, суайчыннікцтва з якімі трэба лічыць за гонар — таксама, як лічаць за гонар іншыя нацыі мець у сваёй гісторыі Ягайлу, Радзівілаў, Дамейку, Касцюшку і многіх іншых.

Баладны цыкл — даволі яскравы прыклад, калі выяўляецца аўтарская інтанацыя В. Шніпа. За больш чым 20 гадоў гучання баладны голас аўтара не змяняўся на скразняках сацыяльных трансфармацый. Не будучы знаўцам даследаванняў яго паэзіі, адзначу толькі некаторыя заўважаныя асаблівасці, сума якіх і стварае гэтую інтанацыю.

**Паўторы радкоў**, як правіла, найбольш важных — як загаворы, замовы, медытацыя па-беларуску. Яны акумулююць энергію слова і верша ў цэлым:

Ён паехаў на Прыпяць памерці.  
Там у чоўне, як ліст у канверце,  
Што напісаны Богам для Бога.  
*(Балада Уладзіміра Караткевіча, с. 122)*

**Параўнанні**, якія служаць для стварэння вобразнасці (часцей, чым іншыя тропы). Часам простыя да банальнасці: «рукі, як крылы» (с. 18). А часам — трапныя, уражлівыя: «І восень ідзе, як Арда, залатая» (с. 18). Характэрнай адзнакай параўнанняў з'яўляецца прымяненне злучнікаў «як», «быццам», «нібы(та)» і падобных.

**Паралелі**, якія дапаўняюць ролю параўнанняў важкасцю, значнасцю, узвышанасцю таго ці іншага канцэпта балады. Так, асацыяванне беларускіх сосен і рымскіх калон у «Баладзе Міколы Гусоўскага» (с. 15) падкрэслівае веліч радзімы паэта, веліч, якая не саступае рымскай і ў цэлым еўрапейскай.

**Інтэртэкстуальнасць** у выглядзе простых ці ўскосных цытат, алюзій, рэмінісцэнцый. Кожны іх знойдзе — у залежнасці ад сваёй начытанасці.

**Завяршэнне верша нерыфмаваным радком**, што акцэнтуе рэзюмаванне твора эфектам абарванасці:

Ды сонца, як тваёй любові злітак,
Усходзіць над зямлёй, што ты капаў,
Дзе ў курганах сівых не клад шукаў,
А — Беларусь, якая ёсць і будзе…

*(Балада Яўстафія Тышкевіча, с. 44)*

Яшчэ адным характэрным момантам ці не кожнай балады з'яўляецца **размяшчэнне гістарычных постацей у сістэме каардынат апазіцыі ВКЛ / Беларусь**. Нярэдка аўтар шукае беларускасць у ВКЛ, а гістарычную пераемнасць — у праекце сучаснай дзяржаўнасці, па магчымасці адзначаючы асаблівасці гэтых перапляценняў стасоўна баладных герояў, сярод якіх — нават ваяры Грунвальдскай бітвы:

Звіняць мячы, крывавяцца шаломы,
І коп'яў лес трашчыць, нібы трыснёг.
І ўжо адказ ёсць на пытанне: «Хто мы?»,
Але яго яшчэ не чуе Бог…

У якасці прыкладу варта заўважыць, што пры ўсёй легендарызацыі і нават міфалагізацыі Тадэвуша Касцюшкі беларускімі паэтамі не кожны з іх закранае аспект беларускасці гістарычнага героя, які, па яго словах, «нарадзіўся ліцвінам». Аднак Віктар Шніп, як і гісторык Алег Латышонак[1], убачыў праявы беларускасці ў постаці земляка-генерала — магчыма, на ўзроўні прароцтва:

І заўтра вернешся ты ў родныя пенаты,
Прыгожы, генерал і ўсё шчэ малады.
І будуць поспехі ў цябе, і будуць страты,
І ўсё забудзецца на змрочныя гады

У родным краі, каб пасля ізноў успомніць
Цябе нам не чужога па крыві, душы,
І вольнай Беларусі маладыя промні
Заззяюцца цвікамі і ў тваім крыжы...

*(с. 28)*

Прычым В. Шніп кажа не толькі пра зараджэнне беларускасці ў вобразе Т. Касцюшкі, але і пра ягонае вяртанне на радзіму (у чым назіраецца пераклічка з прысвечанымі гэтаму герою вершам Раісы Баравіковай[2] і кнігай Леаніда Несцерчука[3]), пра вяртанне, якое адбываецца дзякуючы кожнаму напісанаму радку пра нашага славутага земляка.

Улічваючы вышэй сказанае, трэба прызнаць, што кожная з «Баладаў крыві і любові», да якіх арганічна далучаецца цыкл «Адвечных баладаў», вартая асобнай увагі і падрабязнага аналізу. У параўнанні з імі іншыя структурныя часткі — эсэ «Роднае і вечнае», аповесць «Паэт, у якога ўсе дома», вершы «Вечнае і роднае» — выступаюць больш асабістымі, суб'ектыўнымі і — адпаведна — будуць шукаць чытача з вялікай душэўнай сугучнасцю.

Успаміны з дзяцінства пра агонь, малако, студню, печ, птушак, плот, дарогу дамоў, відавочна, вабяць самога аўтара — з-за настальгіі да рэчаў, якія былі для дзяцінства падставовымі. Вабяць і чытача, бо тоесныя рэчы былі ў кожнага, і хочацца параўнаць іх успрыманне, тым больш што ў такіх выпадках пісьменнікі гранічна шчырыя і непадобныя. Такое яно — роднае і вечнае. Для ўсіх.

Чарговай аповесцю В. Шніп працягвае гуляць у літаратуру. Тыповасць абставін ад пачатку падказвае развязку, да якой усё ж хочацца дайсці дзякуючы многім нешараговым момантам. А з улікам таго, што тэма раздваення цікавая сама па сабе, то пра «паэта, у якога ўсе дома», чытач даведаецца з задавальненнем. Каб яшчэ не перабор з аднастайнасцю ў вершах, якімі перасыпана аповесць, то прачытанне прозы-ніткі (аўтарскае абазначэнне) было б яшчэ больш прыемным.

Цяжка сказаць, які прынцып аб'яднаў у адзін цыкл вершы заключнай часткі кнігі. Але пасля разнастайна-рэфлексійнай важкасці, якая з'яўляецца пасля прачытання ўсіх твораў, пошук гэтага прынцыпу робіцца *непрынцыповым*.

---

[1] Гл.: Латышонак, А. Наш Касьцюшка слаўны быў // А. Латышонак. Нацыянальнасьць — Беларус. — Беласток, 2009. — С. 393.

[2] Баравікова, Р. Лірыка чыкагскіх вечароў / Р. Баравікова // Літаратура і мастацтва. 1994. — 24 чэрвеня. — С. 8.

[3] Несцярчук, Л. М. Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка: Вяртанне героя на радзіму / Л. М. Несцярчук. — Брэст : ААТ «Брэсцкая друкарня», 2006. — 296 с.

# З НЕАПУБЛІКАВАНАЙ СПАДЧЫНЫ

***Міколу Сымонавічу Купрэеву 25 мая споўнілася б 75 гадоў. У пошуках матэрыялаў для таго, каб годна адзначыць юбілей палескага вандроўніка, паэта і празаіка, нечакана пашчасціла. У Ганцавіцкі краязнаўчы музей патрапіла частка асабістага архіва пісьменніка. Тая частка, якая лічылася беззваротна згубленай нават самім Купрэевым.***

***У новазнойдзеных паперах адшукаліся недрукаваныя творы літаратара, лісты да яго і ад яго, фотаздымкі, машынапіс першай кнігі «Непазбежнасць» (1967). Можна сцвярджаць, што знайшлася ранняя спадчына, першыя творы, першыя спробы. Усе гэтыя тэксты — рускамоўныя і беларускамоўныя — былі напісаны ў 1950—1960-я гады.***

***Наша выданне выказвае ўдзячнасць сыну Міколы Купрэева Андрэю за зберажэнне рукапісаў бацькі і прадастаўленне іх для друку, а таксама Ганцавіцкаму краязнаўчаму музею і асабіста яго старшаму навуковаму супрацоўніку Віталю Герасіменю за садзейнічанне публікацыі. Прапануем увазе чытачоў фрагменты з дзённіка Міколы Купрэева, дзе апавядаецца пра прыезд пісьменніка ў вёску Чудзін, дзе ён пэўны час настаўнічаў; рускамоўны абразок і беларускамоўны верш студэнцкіх часоў (1950-я гг.). Назвы твораў — аўтарскія. Моўныя асаблівасці арыгіналаў захаваны.***

Мікола КУПРЭЕЎ

## ПАЛЕСКІ ДЗЁННІК

* * *

[Раніца 15 жніўня.]

Вось і ўсё. Пачынаецца новае. Дык дзе ж гэты Чудзін? Знаю, што недзе ў гэтым жа раёне, недзе «на Камчатцы». Чуў: дрымучай палескай ноччу на вуліцы з канца ў канец, гэта значыць з лесу ў лес, бывае працягнуцца галопам дзікікя козы, а за імі — дзік. Ведаю: цячэ там паўз вёску рэчка Лань і яе чыстую ваду п'юць на світанні лані.

Дастаў карту раёна: ад майго стала да Чудзіна 105 кіламетраў. Цудоўна. «Чудны» Чудзін. Яшчэ не ўбачыўшы яго, я ўжо, здэцца, жыву там, іду па беразе Лані, прыемна моршчуся ад журавін, рукамі выцягваю ногі свае з балота, потым на змярканні іду вуліцай і ўсім цёткам, што сядзяць і гамоняць ля хат, кажу «Добры вечар».

* * *

[Вечар 15 жніўня.]

Аўтобус Ляхавічы — Ганцавічы. Сустрэча ў Ганцавічах з даўнім знаёмым — карэспандэнтам «Чырвонай змены» Кірэйчыкам. Заядлы непаседа, з буйной сілай былога марака, Ваня добра трасе мяне за плячо:

— Дык, папаня, у Чудзін? Няўжо ў Чудзін? Дык ты ведаеш, што такое Чудзін! Рыбы — па горла! Грыбоў — па вушы! А баптыстаў — божа мой!

— Парадаваў, называецца.

— А ты хочаш, каб усё ўсюды было ідэальным?

Не, я гэтага не хачу. Ідэальнага ў прыродзе пакуль што няма. Мы толькі імкнёмся да ідэальнасці. Паказная ідэальнасць — нудота, прычына для незадаволенасці сабой і другімі.

— Усё будзе добра! — кажа ён.

— Канешне, усё будзе добра!

Развіталіся. Грузатаксі на Чудзін. 40 кіламетраў. Праз лес. 2 гадзіны язды. Здорава трасе. Ды лепш дрэнна ехаць, чым добраісці. Некалі ж палешукі тэпалі па 10 гадзін да Ганцавіч. А зараз, д'ябалы, сядзяць у кузаве, трасуцца і лаяць шафёра і дарогу, а адзін рыжы дзядзька сказаў са злосцю:

— Пакуль даедзеш да Чудзіна — штаны пратрэш.

Нам усім шкада і яго, і сваіх штаноў, але ўсе смяемся.

Вёска быццам выплыла з лясоў нам настрэч гіганцкім, *гуліверaўскіх* размераў караблём. Усё ў электрычным агні. Лятучыя ў зорнае неба сосны — як тыя мачты. А ў небе — спелыя жнівеньскія зоры.

## КОГДА МЫ СКЛОННЫ ФИЛОСОФСТВОВАТЬ

Стою на морском берегу. Три стихии, три гигантские пустыни окружают меня: впереди — море, сзади — степь, вверху — небо. Здесь кажется тебе, что ты — не человек, а просто м-маленькая точка. Вот пусть налетит сильный ветер! — и небо тучами прибьет тебя к земле, степь песком, пылью погонит тебя в море, а море волнами выбросит обратно, измученного, перетёртого.

Говорят, что проходят где-то там эпохи. О, эпоха — это тоже что-то очень большое, это тоже гигант и стихия, — эпоха. Но дайте мне пощупать ее, эту эпоху! Дайте потаскать ее за волосы!

Вы возражаете мне. Вы говорите, что эпоха — это…это… Вы правы! Но наши точки зрения на эпоху постепенно сходятся, мы заключаем, что эпоха — это пустая бутылка из-под жирного кефира.

Да, кому-то там в какие-то эпохи отрубали головы, кто-то там бросался вниз с седьмого этажа, — но я не слышу ни того, как падает окровавленная голова на эшафот, ни глухого союза тела человека с тротуаром.

Я не слышу медленных шагов эпохи.

А вот вдруг, предо мною, в море, всплеснула маленькая рыбка, и я услышал, я услышал, как рыбка маленьким своим хвостом ударила по большому морю.

Мне давно уже хотелось кушать. Я вошел в море, наловил бычков, приготовил их, достал из чемоданчика белый украинский хлеб, банку с печенью в соусе, сел на тёплый песок, протянул навстречу морю ноги — и забыл о всех эпохах.

Потом я взял листок бумаги, карандаш и написал:

«Бабушка, пришлите мне каких-либо продуктов. В противном случае все эпохи полетят к черту».

***Прадмова, падрыхтоўка да друку і публікацыя Ціхана ЧАРНЯКЕВІЧА***

**VIVA UT VITAS**
**(Жыві каб жыць — лацін.)**

Скала была стромай, а мора — далёкім.
Я падаў з вачамі адкрытымі.
Жудасна, жудасна бачыць,
як пераварочваюцца і нясуцца у бездань неба
гранітныя вострыя выступы,
міма якіх анархічна нясуся —
галавою то ў мора, то ў неба, то ў скалы.
Жудасна, жудасна бачыць свае
бязладна растапыраныя пальцы,
і толькі тут адчуваеш,
якая гэта нікчэмнасць — паветра,
і хочацца ў моры з сабой утапіць
формулы ўсіх тых пад’ёмных сіл,
што здрадзілі мне на вяршыні.
Што зараз мяне уратуе?!
Хто крыло мне сваё падставіць?!
Толькі мора, напэўна, здоўжыць
час сустрэчы маёй з невядомым дном,
і то — калі дно глыбока
і не спаткаюць мяне на ляту
каменныя грудзі рыфаў.
Колькі мне яшчэ падаць?
Скала, колькі мне яшчэ падаць?
Ты, здаецца, завешся скалою Надзеі.
І вышыня твая, помніцца, — 20 мінут.
Што яшчэ пра цябе я знаю? —
Стаіш ты ля вусця каньёна Страт,
які патанае у моры Вяртання.
Жудасна, жудасна бачыць свае
бязладна растапыраныя пальцы!
І рады даць не магу, не магу
за паветрынку, як за галінку, узяцца.
І я вочы расплюшчваю і лячу,
пераварочваючыся ў цішыні,
ахінае маю галаву цішыня падучае вышыні.
І чорная чайка у чорным чаўне
на хвалях чароўных чакае…
І нехта там, у занадзейнай старане,
белую песню спявае.
Лёгка так, распрасцёршы рукі,
падлятаючы к вусцю каньёна Страт,
што раствараецца ў моры Вяртання,
помніць, думаць і абдымаць.
Лёгка так падаць, заплюшчыўшы вочы!
Быццам плывеш у дзіцячы свой свет.
На сэрцы свабодна, лагодна і ціха, —
Быццам ты птушка, а не паэт.
…Хопіць мроіва! Зноў вочы расплюшчваю,
пераварочваюся —
галавою то ў неба, то ў скалы, то ў дно.
Тэарэтыкі на скале!
Не змаглі вы дакладна вывесці формулы
пад’ёмнае сілы,
дык скажыце ж хутчэй:
ці хутка ўпаду я на светлае дно?

# ПАЭТ-ВАНДРОЎНІК

***Мікола Купрэеў (1937—2004) — адзін з самых неардынарных беларускіх літаратараў другой паловы XX стагоддзя. Чалавек з трагічным лёсам, і ў той жа час — сам творца свайго лёсу. Шумны поспех яго вершаў у 1960-я гады змяніўся поўным забыццём на цэлыя дзесяцігоддзі. Толькі напрыканцы 1980-х творы Купрэева з раённых газет Берасцейшчыны сталі зноў трапляць на старонкі мінскага літаратурнага друку. У 1990-я талент яго разгарнуўся і ў прозе. Гэтаму «разгортванню» шчыра спрыяў часопіс «Крыніца» і найперш Леанід Галубовіч. Стараннямі апошняга ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» пабачыла свет пасмяротная кніга прозы Купрэева — «Палеская элегія», своеасаблівая творчая аўтабіяграфія пісьменніка, з усімі фантасмагарычнымі матывамі, на якія ён быў асабліва чуйны.***

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ



*Нарадзіўся Мікола Купрэеў у вёсцы Ямнае, што на Рагачоўшчыне. Год нараджэння — 1937-ы. Сумны час у гісторыі СССР. Праз чатыры гады пачалася вайна. На вачах у малога Міколы забілі ягоную маці. Пякучы ўспамін працінаў яго праз усё жыццё, выліваўся ў творы, фарміраваў самасвядомасць і адносіны да жыцця. Дзеці тады рана сталелі і рана станавіліся самотнымі.*



*Хлопчык, падлетак, юнак — Купрэеў быў такі і не такі самы, як яго аднагодкі. Растрывожаная эмацыянальнасць, боль ад страты маці рабілі яго крыху не такім, як усе. Ён рана пачаў маляваць. Можна з упэўненасцю казаць, што мастацтва захапіла яго яшчэ ў дзяцінстве. Але ў астатнім ён быў звычайным вясковым падлеткам. Моцнае сяброўства і вясковая палеская цішыня не абмінулі яго.*



*Бацька-настаўнік у нейкім сэнсе прадвызначыў лёс сына. Мікола Купрэеў паступіў у Брэсцкі педагагічны інстытут, на факультэт беларускай і рускай мовы і літаратуры. Дням і месяцам вучобы прысвечана ранняя рускамоўная аповесць Купрэева «Бродят на рассвете юные» (не апублікавана). Рамантыка маладосці, героі-эксперыментатары, закаханыя ў жыццё — пэўны аналаг можна знайсці ў фільме Марлена Хуцыева «Мне дваццаць гадоў». Але ў Купрэева гэтая рамантыка рана пачала ператварацца ў дэпрэсію. Рэчаіснасць, якая яго атачала, не была тоеснай ідэалу.*



*Выйсце Купрэеў адшукаў у літаратуры — у самым пачатку былі паэзія і проза на рускай мове. Сёетое было надрукавана яшчэ ў часы студэнцтва. Пасля — беларуская паэзія. Падборкі вершаў сталі з'яўляцца ў самых уплывовых тагачасных літаратурных выданнях: часопісе «Полымя», газеце «ЛіМ». У 1967 годзе выйшла першая кніга лірыкі «Непазбежнасць». Літаратурная «кар'ера» Купрэева абарвалася на ўзлёце. Мінск адштурхнуў яго. Купрэеў вярнуўся на Палессе. На фота ён (стаіць) зафіксаваны з Валянцінам Лукшам, Юрасём Свіркам і Алесем Ставерам (злева направа).*



*Былі ў яго і добрыя сябры, берасцейкія літаратары. На здымку Купрэеў (злева) сфатаграфаваны з Міхасём Рудкоўскім, тонкім лірыкам, якога мала хто сёння ведае. Раслі і ўмацоўваліся на Палессі паэты новага пакалення — Алесь Каско, Раіса Баравікова, Яўгенія Янішчыц, Анатоль Шушко, Мікола Папека, Мікола Пракаповіч, Мікола Антаноўскі.*



*Толькі ў 1990-я гады да Купрэева вярнулася прызнанне. Праз трыццаць гадоў пасля першай выйшла другая кніга вершаў — «Правінцыйныя фантазіі».*



*Наперадзе яго чакалі дзесяцігоддзі вандроўнага палескага жыцця. Ён працаваў настаўнікам ці не ў дзесяці розных месцах — на Ляхаўшчыне, Пружаншчыне, Піншчыне, Ганцаўшчыне, Івацэвіччыне. Дакладную колькасць яго працаўладкаванняў падлічыць немагчыма. Але адусюль ён неўзабаве ўцякаў, хадзіў па лясах і балотах, збіраў грыбы і здаваў іх у нарыхтоўчыя канторы. Так жыў. Чытаў у вясковых бібліятэках, выйшаўшы з якіх — не было куды ісці. Начаваў пад адкрытым небам. Пісаў. Зноў уладкоўваўся настаўнікам.*



*Гэта адзін з апошніх здымкаў Міколы Купрэева. Памёр ён у доме састарэлых пад Баранавічамі. Апекавалася ім у гэтыя дні Ганна Хадаровіч (злева), шчырая прыяцелька паэта. Першая кніга прозы «Палеская элегія», укладзеная Леанідам Галубовічам, выйшла ў РВУ «Літаратура і Мастацтва» праз тры гады пасля смерці пісьменніка, у 2007 годзе.*

Іван САВЕРЧАНКА

**Да 455-годдзя Льва САПЕГІ**

# КАНЦЛЕР

## *Гістарычнае эсэ[1]*

Узяўшы чынны ўдзел у драме, што распачалася на канвакацыйным, а затым працягвалася на элекцыйным Вальным сойме 1587 года, Леў Сапега таленавіта адыграў складаную ролю ў палітычным спектаклі выбараў манарха і выйшаў да фінальнай сцэны пераможцам.

Як і раней, у Вялікім Княстве працягваў ажыццяўляць свае паўнамоцтвы свабодны і дэмакратычны заканадаўчы орган — Вальны сойм, дзейнічалі незалежны ўрад і свая ўстанова замежных спраў — Дзяржаўная Канцылярыя. Былі ўласныя кодэксы законаў, карныя органы, вайсковыя фарміраванні, а гэтаксама асобныя фінансы ды адметная валюта.

Існаваў яшчэ адзін важны вынік палітычнай барацьбы Льва Сапегі ў 1587—1588 гадах. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, падканцлер на той час узначальваў соймавую камісію, што працавала над новым Статутам, патрэба ў якім узнікла пасля падпісання Люблінскай уніі 1569 года. Леў Сапега асабіста адрэдагаваў артыкулы Статута, стварыўшы новую канцэпцыю незалежнай беларускай дзяржавы. Выкарыстоўваючы становішча Жыгімонта III Вазы (а яно з чарговым уварваннем татараў восенню 1587 года яшчэ больш ускладнілася), Леў Сапега дамогся ад яго падпісання 28 студзеня 1588 года Граматы, якая пацвярджала юрыдычную моц трэцяга Статута Вялікага Княства Літоўскага.

Аднак па падпісанні Статут 1588 года не адразу пачаў выкарыстоўвацца ў судовай практыцы на месцах, бо яго там папросту не мелі. Паўстала праблема арганізацыі неадкладнага друкавання гэтага збору законаў. Трэба было, каб ён як мага хутчэй пачаў дзейнічаць, бо нават сам Жыгімонт III Ваза забыўся на свае абяцанні і, не зважаючы на артыкулы толькі што падпісанага ім Статута, усяляк парушаў правы беларускай шляхты, раздорваючы землі і пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім палякам. Новы манарх імкнуўся самавольна і адзінаўладна распараджацца на тэрыторыі не толькі Польшчы, але і Вялікага Княства Літоўскага, пры гэтым зусім не раячыся з падканцлерам, які знаходзіўся пры яго двары.

Незадаволены паводзінамі Жыгімонта III Вазы, Леў Сапега ў лісце да Крыштофа Мікалая Радзівіла Перуна ад 31 студзеня 1588 года абураўся прэтэнзіямі палякаў на Інфлянцкія землі: «Перамогай над Максімільянам вельмі ўзмацніліся паны-палякі, пачалі пагардліва ставіцца да народа літоўскага, кажучы: калі б гэтая навіна прыйшла перад заканчэннем нашых спраў, то не дазволілі б ані нашых пастулатаў, ані супакою, ані паловы Інфлянцкае зямлі».

17 лютага 1588 года ў наступным лісце да Крыштофа Мікалая Радзівіла Перуна Леў Сапега паведамляў пра непрыкрытую непрыязь караля і вялікага князя да грамадзян Вялікага Княства Літоўскага. «Кароль казаў, — пісаў падканцлер, — што больш палякам павінны, чымся літве, бо яму нібыта палякі больш, чым літва, паказалі зычлівасці. І ён не толькі гэтак кажа, але і робіць. Палякі ўжо ў нас больш дастаюць, чым сама літва. Літвіну адмовяць, а паляку ў той жа час дадуць».

Пры такім становішчы спраў Леў Сапега адчуваў сябе ля караля, паводле яго слоў, «як кот на лёдзе», бо той нават не жадаў прымаць падканцлера, не кажучы ўжо пра сумленнае ды законнае вырашэнне праблем Вялікага Княства Літоўскага. Цярпенню Льва Сапегі надыходзіў канец. 7 чэрвеня 1588 года ён

[1] Заканчэнне. Пачататак у № 4.

піша Крыштофу Мікалаю Радзівілу: «Не толькі я, але і ўвесь народ наш зняважаны каралём. Жыву тут pro forma (дзеля формы; дзеля прыліку — лац.), аўдыенцыі аніяк не магу дамагчыся, таму і не жадаю далей парогаў абіваць...»

У сярэдзіне ліпеня 1588 года падканцлер канчаткова вырашыў пакінуць каралеўскі двор. «Не хачу, — катэгарычна заяўляў ён, — быць пры двары толькі дзеля формы і слухаць знявагі нашага ўрада, бо правіць камора, а ўраднікі — непатрэбныя».

Настаў крытычны момант ва ўзаемадачыненнях паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім. Ад’езд прадстаўнікоў Княства ад каралеўскага двара азначаў бы найперш палітычны, а затым і няўхільны эканамічны ды ваенны разрыў між дзвюма дзяржавамі. Але якраз тады, калі заставалася вырашыць нейкія дробязі, абставіны нечакана змяніліся: паўстала пагроза чарговай вайны з туркамі ды татарамі. Таму Жыгімонт III Ваза запрасіў да сябе Льва Сапегу, павініўся за ўсе «непаразуменні» і зноўку пакляўся наперад заўжды строга выконваць каралеўскія ды вялікакняскія абавязкі, не дапускаючы аніякіх парушэнняў законаў Вялікага Княства Літоўскага.

Аднак абяцанням непаслядоўнага манарха Леў Сапега ўжо не верыў. Ён яшчэ больш пераканаўся, што толькі выданне новага Статута ды абавязковае выкананне яго артыкулаў усімі грамадзянамі Княства, а найперш вялікім князем ды каралём, пакладзе канец беззаконню і здзекам з жыхароў гаспадарства. Падканцлер прыспешыў падрыхтоўку Статута да друку, ахвяраваўшы на яго выданне ўласныя сродкі. 12 ліпеня 1588 года ён пісаў тагачаснаму канцлеру Крыштофу Мікалаю Радзівілу: «Статут новы загадаў ужо друкаваць па-руску[1], хацеў бы яго выдаць і па-польску, аднак, калі б давялося яго перакладаць de verbo ad verbum (слова ў слова; літаральна), паводле рускіх слоў і сентэнцый, то атрымалася б вельмі блага, а інакш — не наважваюся. Ахвотна пачуў бы рады вашай міласці. Прывілеі гэтаксама хацеў бы выдаць пры Статуце, аднак дзеля таго, што не ўсе яны для нас прыдатныя — у



*Герб Льва Сапегі,*
*змешчаны ў статуце 1588 года.*

адных пачатак добры, а сярэдзіна дрэнная, у другіх сярэдзіна добрая, а пачатак і канец дрэнныя — не магу вырашыць, ці належыць выкінуць тое, што кепскае, ці не?»

Нарэшце летам 1588 года ў віленскай друкарні Мамонічаў выйшаў новы Статут — найважнейшы прававы кодэкс сярэднявечнага беларускага гаспадарства, якому па дасканаласці не было роўных ва ўсёй тагачаснай еўрапейскай юрыдычнай думцы. Выданне ўпрыгожваў партрэт Жыгімонта III Вазы, а таксама выява герба Льва Сапегі ды панегірык да яго, напісаны беларускім паэтам Андрэем Рымшам.

Статут 1588 года быў перакладзены на польскую мову і лаціну, дзякуючы чаму стаўся даступным для знаўцаў права заходнееўрапейскіх краін. Ён гэтаксама паўплываў на змест шэрагу артыкулаў маскоўскага зводу законаў — Саборнага Укладання 1649 года.

Статут 1588 года — буйная перамога Льва Сапегі. Гэты кодэкс законаў гарантаваў эканамічную, палітычную і культурную

[1] «Рускай» або «літоўскай» у XVI стагоддзі называлася беларуская мова, якая была дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім.

**Абяцанням непаслядоўнага манарха Леў Сапега ўжо не верыў. Падканцлер прыспешыў падрыхтоўку Статута да друку, ахвяраваўшы на яго выданне ўласныя сродкі**

незалежнасць Княства. Згодна з яго артыкуламі, іншаземцам забаранялася набываць (купляць або атрымліваць як узнагароду ад вялікага князя) зямельныя надзелы, замкі ды маёнткі, а гэтаксама гаспадарскія і духоўныя пасады на ўсёй тэрыторыі Вялікага Княства.

Такім чынам ставіўся заслон ад пранікнення на землі гаспадарства палякаў, чым стрымліваўся працэс апалячвання беларусаў, што распачаўся ўжо ў другой палове XVI стагоддзя.

Усе пытанні ўнутранага жыцця Вялікага Княства Літоўскага, адпаведна з новым заканадаўствам, вырашаліся цяпер самастойна. Найвышэйшым заканадаўчым органам лічыўся Вальны сойм, месцам правядзення якога прызначаўся Слонім.

Статутам 1588 года Леў Сапега замацаваў адно з асноўных патрабаванняў: дзяржаўнасць беларускай мовы на ўсёй тэрыторыі гаспадарства. «А пісар земскі, — падкрэслівалася ў першым артыкуле чацвёртага раздзела Статута, — мае па-руску, літарамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпісы і позвы пісаць, а не якой іншай мовай і словамі».

Галоўныя прынцыпы падрыхтаванага Львом Сапегам кодэкса законаў, такія, як прэзумпцыя невінаватасці, дзяржаўны ды нацыянальна-культурны суверэнітэт, рэлігійная талерантнасць і іншыя, былі надзвычай прагрэсіўныя для таго часу. Яны і да сённяшняга дня выступаюць як прынцыпова важныя палажэнні грамадзянскіх кодэксаў многіх дэмакратычных краін свету.

У якасці прадмовы да друкаванага Статута 1588 года Леў Сапега змясціў два ўласныя творы — «Удзячнасць найяснейшаму пану Жыгімонту Трэцяму» і «Зварот да ўсіх станаў Вялікага Княства Літоўскага».

У іх падканцлер выступіў у абарону канцэпцыі прававой дзяржавы, сутнасць якой у тым, каб у краіне панавала не сваволя манархаў, а закон, парадак і справядлівасць. «Калі чалавеку прыстойнаму, — пісаў ён, — нічога няма даражэй за тое, каб у Айчыне сваёй бяспечна жыць, не баючыся, каб яго добрай славы не зганьбілі, целу ды здароўю не прычынілі шкоды, каб не маглі пакрыўдзіць яго на ўласнай маёмасці, тады толькі праву, а не чаму іншаму, павінен быць аддадзены. Дзякуючы законам, чалавек абаронены, аніякага прымусу, знявагі і крыўды не церпіць. Бо мэта і сэнс усіх законаў на свеце, каб кожны добрую славу сваю, здароўе і маёмасць захоўваў у цэласці, ва ўсім гэтым аніякіх стратаў не меў. Нашая вольнасць, якую мы хвалім сярод іншых народаў хрысціянскіх, у тым, што маем гаспадара, які пануе не паводле волі сваёй, а паводле права нашага. І як славай добрапрыстойнай, гэтак жыццём і маёмасцю вольна карыстаемся. Бо калі б нехта ў тых трох рэчах нас пакрыўдзіць наважыўся і паводле прыхаці сваёй, а не паводле законаў нашых, узвысіўся над намі, той быў бы не панам нашым, а парушальнікам правоў і вольнасцяў нашых. Мы пры гэтым мусілі б быць яго нявольнікамі».

Звяртаючыся да жыхароў ВКЛ, Леў Сапега палымяна пераконваў суайчыннікаў засвойваць права, жыць паводле законаў, бараніць праўду і даваць адпор крыўдзіцелям: «І слушна за праўду маем, за што дзякуй Пану Богу, што пры панаванні каралёў іх міласцяў і вялікіх князёў, гаспадароў нашых, тую ўладу і вольнасць у руках сваіх маем. Творачы права самі сабе, найлепш можам вольнасці свае ва ўсім захаваць, бо не толькі сусед ці просты абывацель у Айчызне, але і сам гаспадар, пан наш, аніякай тыраніі над намі ўжываць не можа, адно толькі стольκі, колькі яму права дазваляе. Таму, маючы гэтакі скарб у руках нашых, каторы нельга купіць ні за якую суму, належыць кожнаму прыстойнаму чалавеку ведаць пра яго. Каб быў добра абазнаны, сам сябе і жарсці свае стрымліваў, дзейнічаў паводле пісанага права і нікога не крыўдзіў. Калі б быў некім пакрыўджаны, каб ведаў, дзе мусіць шукаць абароны і лекаў у крыўдзе сваёй. Як адзін сенатар рымскі другога караў за тое, што права Айчызны сваёй не ведаў, гэтак і кожны наш абывацель заслугоўвае прачуханкі за тое, што вольнасцю сваёй выхваляецца, а

законаў сваіх ведаць і разумець не хоча, тых законаў, якія вольнасць яго дазваляюць захоўваць. Сорамна народу не ведаць сваіх законаў, асабліва нам, бо не на чужой якой мове, а на сваёй уласнай маем пісанае права! І кожнага моманту, пры патрэбе даць адпор усялякай крыўдзе, мусім ведаць права».

Статут 1588 года дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі аж да 1840 года, нават пасля ліквідацыі Княства, і адыграў выключную ролю ў захаванні беларускага народа. Дзякуючы яму беларусы яшчэ ў XVIII стагоддзі не зніклі з гістарычнай арэны і цяпер крочаць наперад па шляху цывілізацыі побач з іншымі народамі свету.

## IV

У 1589 годзе ў вышэйшых структурах улады Вялікага Княства Літоўскага адбыліся істотныя змены. Пасля смерці Астафея Валовіча (канец 1587 года) Віленскае ваяводства перайшло да Крыштофа Мікалая Радзівіла Перуна. А Леў Сапега атрымаў пасаду *канцлера*, узначаліўшы адзін з адказных інстытутаў выканаўчай улады гаспадарства.

Аднак у сваіх дзеяннях Леў Сапега і на пасадзе канцлера не быў цалкам свабодны. Нягледзячы на новае заканадаўства, у гаспадарстве па-ранейшаму прысутнічаў адзін з парадоксаў улады. Ні ўрад, у які акрамя канцлера ды падканцлера ўваходзілі ваяводы, кашталяны, вялікі гетман, падскарбі, вялікі, надворны ды трыбунальскі маршалкі, ні галоўны заканадаўчы орган Княства — Вальны сойм — не валодалі напоўніцу эканамічнымі правамі на тэрыторыі свайго ж гаспадарства. Яны, гаворачы сённяшняю моваю, фактычна не вызначалі кадравай палітыкі Княства. Права прызначэння на кіраўнічыя гаспадарскія пасады трымаў у сваіх руках манарх. У выніку ўся беларуская шляхта матэрыяльна амаль цалкам залежала ад вялікага князя, бо ён падпісваў прывілеі на вольныя землі, а таксама на свецкія і духоўныя вакансіі.

Пры гэтай даволі спецыфічнай форме абмежаванай манархіі ў Вялікім Княстве Літоўскім любая палітычная апазіцыя гаспадару заўсёды параўнальна лёгка ім разбівалася. А метад «пугі і перніка», якім зазвычай карысталіся манархі, дазваляў у любы момант пасварыць беларускіх паноў. У выніку многія магнаты і шляхцічы нярэдка станавіліся ў руках гаспадароў паслухмянымі марыянеткамі.

Леў Сапега як патрыёт ды, урэшце, уладалюбівая асоба не жадаў мірыцца з неабмежаванымі дзеяннямі новага манарха, трагічныя вынікі якіх для Княства былі ўжо відавочныя. Ён пачаў барацьбу з Жыгімонтам III Вазам за поўную самастойнасць Княства.

Канцлер найперш катэгарычна запатрабаваў, каб вялікі князь выконваў прынятыя на сябе абавязкі, нарэшце, успомніў свае нядаўнія абяцанні яму і перастаў без узгаднення з урадам Вялікага Княства Літоўскага раздаваць палякам прывілеі на землі, а таксама прызначаць іх на свецкія і царкоўныя пасады.

Аднак Жыгімонт III Ваза праігнараваў патрабаванні канцлера: у 1590 годзе пад уздзеяннем польскай каталіцкай магнатэрыі ён зрабіў спробу зноўку абысці законы Вялікага Княства Літоўскага і навязаць беларусам сваю волю. На месца памерлага кракаўскага каталіцкага біскупа манарх запрасіў адданага беларускага каталіка Юрыя Радзівіла, які займаў дагэтуль віленскую кафедру, і прапанаваў, нібы наўзамен, на вакантную пасаду ў Вільню паляка Бярнарда Мацяеўскага. Гэта было грубым парушэннем Статута 1588 года, паводле якога палякам, як і ўсім іншаземцам, забаранялася займаць на землях Княства хоць якія пасады, у тым ліку і ў царкоўных структурах.

Абураны бесцырымоннымі учынкам манарха, яго палітычным авантурызмам, Леў Сапега ўльтыматыўна заявіў, што ён ніколі не дасць згоды на прысутнасць Бярнарда Мацяеўскага на віленскай кафедры, і катэгарычна адмовіўся замацоўваць гаспадарскай пячаткай Княства рашэнні біскупа-паляка.

**Зусім не выпадкова польскія паны на працягу ўсёй дзейнасці Льва Сапегі люта ненавідзелі яго. І, наадварот, у вачах беларускай шляхты аўтарытэт канцлера як палітыка і змагара за вялікакняскія інтарэсы павялічваўся з кожным годам**

Пачаўся працяглы канфлікт Льва Сапегі з Жыгімонтам III Вазам. Скончыўся ён толькі праз дзесяць гадоў: у няпростай барацьбе з вялікім князем канцлер перамог. 26 красавіка 1600 года на віленскую каталіцкую кафедру заступіў беларус Бенядыкт Война.

Нязгода з воляй манарха, а тым больш адкрыты пратэст супраць яго — гэта на той час адказны і надзвычай рызыкоўны крок. Кожны, нават вельмі магутны феадал, выступаючы насуперак вялікаму князю, асабліва такому ўладалюбіваму як Жыгімонт III Ваза, ставіў на карту ўсё — палітычную кар'еру, становішча ў грамадстве, матэрыяльны дабрабыт.

Вядома, Леў Сапега не быў аскетам і зусім не жадаў развітвацца са сваімі прывілеямі. І ўсё ж, не зважаючы на небяспеку, ён мужна прыняў выклік манарха. Значыць, можна меркаваць, лёс беларускага народа, захаванне яго самабытнай культуры, традыцый і выкананне гаспадарскіх законаў ён ставіў вышэй за ўласны дабрабыт.

Канфлікт паміж Жыгімонтам III Вазам і Львом Сапегам з-за віленскага біскупства цікавы яшчэ адной акалічнасцю. Якраз яна дазваляе зразумець усю веліч асобы канцлера. Як вядома, Леў Сапега ў 1586 годзе прыняў каталіцкую веру і, здавалася б, згодна з логікай тых часоў, мусіў бы абараняць гонар сваёй канфесіі, спрыяць яе ўмацаванню. Аднак канцлер паставіў на першае месца не канфесійныя, а палітычныя інтарэсы свайго гаспадарства. Сімвалічныя словы Льва Сапегі, выказаныя ім у лісце да Крыштофа Мікалая Радзівіла: «Я каталік і з ласкі Божай каталікам хачу памерці, але спакой Айчыны сваёй да скону дзён сцерагчы буду».

Выбар, зроблены Львом Сапегам, — унікальны выпадак у гісторыі сярэднявечных дзяржаў і чыннасці тагачасных еўрапейскіх палітыкаў. Пазіцыя канцлера — гэта патрыятызм найвышэйшага ўзроўню, сведчанне яго адданасці беларускай ідэі, пацверджанне таго, што Леў Сапега ніколі, ні пры якіх умовах не гандляваў Бацькаўшчынай.

Жыгімонт III Ваза, сутыкнуўшыся з жалезнай воляй вялікага канцлера, мусіў скарыцца. Ніводны дакумент манарха з гэта часу без канцлерскага подпісу і пячаткі Вялікага Княства Літоўскага не меў сілы на землях гаспадарства.

З прычыны напружаных стасункаў з Жыгімонтам III Вазам Леў Сапега паляпшаў матэрыяльны дабрабыт, карыстаючыся паслугамі каралеўскай цёткі — Ганны з Ягайлавічаў. Канцлер дасылаў ёй падарункі, а яна хадайнічала перад пляменнікам, дапамагаючы Льву Сапегу атрымліваць новыя землі і прывелеі. Да цяперашняга часу захаваліся два лісты Ганны да Льва Сапегі (ад 20 кастрычніка і 29 снежня 1589), якія даюць ўяўленне пра характар іх узаемаадносін.

Небяспека страты Княствам незалежнасці з-за безупынных прэтэнзій польскіх паноў на яго землі фактычна ніколі не знікала — ні на працягу канцлерства Льва Сапегі (нават пасля таго, як ён знайшоў «агульную мову» з Жыгімонтам), ні пазней. Гісторыя захавала звесткі пра шматлікія сутычкі канцлера з польскімі панамі. Пра некаторыя з іх варта сказаць колькі слоў.

Увесну 1590 года, калі спатрэбіліся сродкі на ўтрыманне ўзмоцненага войска на паўднёвых рубяжах, палякі настойвалі на пазачарговым паборы менавіта з беларускіх земляў, самі нічога не жадаючы даваць. Леў Сапега папсаваў шмат крыві і нерваў, пакуль адвёў гэтую ліхасць ад Княства. Але, як сведчылі наступныя падзеі, зусім не надоўга.

У траўні таго ж года канцлеру зноўку давялося ваяваць з польскімі сенатарамі. Падчас Варшаўскага Генеральнага вальнага сойма пры падзеле «гаспод» (уладанняў) палякі лезлі са скуры, каб ашукаць Паноў-Раду Вялікага Княства Літоўскага і праз свае махлярствы крывадушна абабраць іх, захапіўшы для сябе з агульнай скарбонкі лепшыя кавалкі. Толькі прыезд у Варшаву Крыштофа Радзівіла Перуна ды яго аўтарытэт дапамаглі Льву Сапегу на той момант спыніць непрыхаванае крудельства ляхаў.

Як бачна, зусім не выпадкова польскія паны на працягу ўсёй дзейнасці Льва Сапегі люта ненавідзелі яго. І, наадварот, у вачах беларускай шляхты аўтарытэт канцлера як палітыка і змагара за вялікакняскія інтарэсы павялічваўся з кожным годам.

Папулярнасці Льва Сапегі сярод насельніцтва Вялікага Княства не мог не заўважыць і Жыгімонт III Ваза, у планы якога на пачатку 90-х гадоў XVI стагоддзя ўваходзіла ўмацаванне сувязей Польшчы і ВКЛ з Аўстрыяй. Польскія магнаты на чале з каронным канцлерам Янам Замойскім, не жадаючы бачыць пры двары іншаземцаў, не падтрымалі намераў караля ды вялікага князя і выступілі насуперак яго планаў ажаніцца з Ганнай Габсбургскай.

Жыгімонту III Вазу нічога не заставалася рабіць як звярнуцца па дапамогу да Льва Сапегі і шукаць падтрымкі ў Паноў-Рады Вялікага Княства Літоўскага. 31 ліпеня 1590 года манарх піша чарговы прымірэчны ліст да канцлера, просячы ўхваліць ягоны выбар і дазволіць пабрацца са старэйшай дачкой эрцгерцага Карла.

Леў Сапега, імкнучыся ўзмацніць уласныя пазіцыі пры двары, пачаў актыўна спрыяць Жыгімонту III Вазу. Ён, здаецца, пазычыў яму нават грошы на вяселле, якое, хоць і значна пазней, чым меркавалася, было спраўлена (30 траўня 1593 года). А калі на Вальным сойме паўстала пытанне пра выдзяленне для жонкі Жыгімонта III Вазы земляў і маёнткаў, супраць чаго зноў пратэставалі палякі, Леў Сапега ды іншыя беларускія сенатары насуперак ім зноў падтрымалі караля і вялікага князя. У выніку Ганна Габсбургская здабыла некалькі маёнткаў на тэрыторыі Польшчы. Пасля гэтых падзей асабістыя адносіны Льва Сапегі з манархам нібыта крыху пацяплелі, хоць і не сталі да канца шчырымі.

## V

*Вясной 1591 года ў дом Льва Сапегі прыйшла бяда. 14 сакавіка памерла яго жонка Дарота Фірліёўна, пакінуўшы двухгадовага сына Янку і зусім асірацелую дачку ад першага мужа — Барбару. У тэстаменце, напісаным за дзевяць дзён да смерці, канцлярына завяшчала сваю маёмасць дачцэ і сыну. Мужу яна адпісала 30 тысяч залатых.*

Тэстамент Дароты Фірліёўны не зусім звычайны. Гэта не толькі юрыдычны дакумент, а ў нейкай ступені і літаратурны помнік, духоўны запавет клапатлівай жонкі і маці, перапоўнены пачуццямі і неймаверным смуткам.

Вось толькі некалькі радкоў з яго: «Божачка мой, зрабі так, каб дачушка мая Бася не асірацела пасля мяне зусім. Каб выхоўвалі яе пачціва да паўналецця ці да таго часу, пакуль не знойдзецца ёй сябар. Прашу ваяводзіну віленскую, маю міласцівую пані і сястру <Кацярыну Танчынскую>, якая заўсёды да мяне была ласкаваю, каб яе міласць тую ж ласку на дзетак маіх звярнула, асабліва на дачушку маю Басю...»

Леў Сапега пахаваў Дароту Фірліёўну ў Вільні ў касцёле св. Міхаіла, які ён пабудаваў за два гады перад тым на ўласныя сродкі.

Смерць жонкі, самага блізкага чалавека, падкасіла канцлера. «Цяжкое гора і нязносная бяда цяпер у мяне, — пісаў ён да Кацярыны Танчынскай. — Жонка мая а шостай гадзіне ночы з чацвера на пятніцу аддала сваю душу ў рукі Госпада Бога, разлучылася з гэтым светам і са мною, пакінуўшы асірацелых дзетак і мяне ў вялікай роспачы...»

Але ішоў час. Цяжкі боль страты каханай жонкі пакрысе адпускаў. Плойма дзяржаўных спраў, што чакала неадкладнага вырашэння, прымушала забывацца на ўласнае гора.

Зміцер Халецкі, вялікакняскі падскарбі, ужо неаднаразова звяртаўся да Льва Сапегі з просьбай пачаць наводзіць парадак у фінансах. Трэба было вяртаць у каралеўскую скарбонку грошы, узятыя некалі мяшчанамі Магілёва, на пільнай выплаце якіх цяпер настойваў сам Жыгімонт III Ваза.

**У няпростай барацьбе з вялікім князем канцлер перамог. 26 красавіка 1600 года на віленскую каталіцкую кафедру заступіў беларус Бенядыкт Война**

## Цяжкі боль страты каханай жонкі пакрысе адпускаў. Плойма дзяржаўных спраў, што чакала неадкладнага вырашэння, прымушала забывацца на ўласнае гора

Апрача праблем з фінансамі, у Вялікім Княстве Літоўскім наспяваў канфлікт на рэлігійнай глебе: пратэстанты патрабавалі ад улад выканання Акта Канфедэрацыі 1573 года, які абараняў іх канфесійныя правы, пагражаючы ў адваротным выпадку грамадскім непадпарадкаваннем і вайною.

Каб суцішыць пратэстантаў, Леў Сапега зрабіў захады для развязвання канкрэтных пытанняў, што іх хвалявалі. 13 снежня 1591 года ён накіроўвае ім на радомскі з’езд ліст, які, апроч яго, падпісалі Крыштоф Зяновіч, берасцейскі ваявода, Альбрэхт Радзівіл, маршалак Княства, ды Гаўрыла Война, падканцлер. Урадоўцы прасілі пратэстантаў супакоіцца, не распальваць узаемнай нянавісці ды не парушаць спакой у Княстве. Канцлер абяцаў пратэстантам абараніць усе іх «правы і вольнасці», што з нейкіх прычын дагэтуль парушаліся. Аднак зусім пазбегнуць беспарадкаў у гаспадарстве не ўдалося. Выступленні пратэстантаў прайшлі па ўсёй краіне.

Небяспека ўнутраных канфліктаў павялічвалася з-за адсутнасці Жыгімонта III Вазы, які пасля смерці ў лістападзе 1592 года бацькі, шведскага караля Іаана, з дазволу Сойма ў траўні 1593 года ад’ехаў у Швецыю. Там ён пачаў дамагацца дзедзічнага трона, бо шведская карона была спадчынная і на той час больш ганаровая.

Жыгімонт III Ваза запрашаў з сабой у паездку і канцлера. Але Леў Сапега, спаслаўшыся на хваробу, адмовіўся. Трывожныя часы і безліч гаспадарскіх спраў аніяк не спрыялі таму, каб выправіцца ў параўнальна бесклапотнае падарожжа сярод знатнай каралеўскай світы.

Пераадольваючы неймаверныя цяжкасці, Леў Сапега шмат сіл аддае ўрэгуляванню канфліктаў паміж шляхтай, бесперапынна вядзе перамовы з пратэстантамі, сустракаецца з лідарам беларускіх евангелікаў — Андрэем Волянам, забяспечвае ахову паўднёвых рубяжоў, распачынае ўпарадкаванне галоўнага архіва Княства — Літоўскай метрыкі. Ён развязвае надзвычай істотнае пытанне пра ўдзел Вялікага Княства Літоўскага ў антытурэцкай кааліцыі хрысціянскіх дзяржаў, якая стваралася ў сярэдзіне 90-х гадоў XVI стагоддзя пад эгідай папы рымскага Клімента VIII.

Праз нейкі час са Швецыі прыйшло паведамленне пра адклад каранацыі на пазнейшы час, на сярэдзіну студзеня 1594 года. Прычынай было адмоўнае стаўленне тамтэйшага дваранства да караля-каталіка. Але не гэта насцярожыла Льва Сапегу. На шведскую карону нечакана прад’явіў прэтэнзіі Карл, дзядзька Жыгімонта III Вазы. Узнікла рэальная пагроза вайны ВКЛ і Польшчы са Швецыяй, што стварала вялікую небяспеку для Княства, бо тут у 1594 годзе пачалася шырокая хваля выступленняў сялянскай беднаты.

Найбольшыя клопаты канцлеру прынеслі казацкія атрады Лабады і Налівайкі, што бязлітасна рабавалі беларускія і ўкраінскія гарады і маёнткі шляхты, дашчэнту выпальвалі вёскі, руйнавалі паселішчы, не шкадуючы, секлі малых і старых, няславілі жанок і дзяўчат. Пра жорсткасць «налівайкаўцаў», якія справілі свой дзікі шабас у Магілёве, аўтар старажытнай «Баркулабаўскай хронікі» пісаў так: «Спалілі слаўнае места Магілёў, места пабожнае, дамы, крамы, астрог. Усяго знішчылі блізу 500 дамоў і 400 крамаў з вялікімі багаццямі... Мяшчанаў, баяр і вельмі пачцівых людзей, так мужоў, як і жанок, і малых дзетак пабілі, пасеклі, апаганілі. Апрача таго, з крамаў і дамоў забралі безліч скарбу».

Леў Сапега і Крыштоф Радзівіл арганізавалі супраціў казацкім атрадам. На чале з Мікалаем Буйвідам ды славутым крычаўскім старастам Багданам Саламярэцкім беларускія жаўнеры паквіталіся з «бунтаўнікамі» на Буйніцкім полі, што пад Магілёвам. Галоўны злачынец — Севярын Налівайка — быў пазней злоўлены і пакараны.

Леў Сапега і надалей заставаўся прыхільнікам моцнай прававой дзяржавы. Пра гэта яскрава сведчыць, тое, што ён, прамаўляючы на Варшаўскім сойме 1597 года, асудзіў шляхецкі рокаш, які ўзначальвалі Януш Радзівіл ды Мікалай Забжыдоўскі.

У сваёй прамове канцлер падкрэсліваў, што ні закон, ні гісторыя не даюць нікому падстаў дамагацца нечага ад улады з дапамогай сілы.

Леў Сапега ўчыніў жорсткую расправу над завадатарамі паўстання гараджан у Магілёве, якое адбывалася ў 1606—1610 гадах. Да парушальнікаў закону, кім бы яны ні былі, канцлер Вялікага Княства Літоўскага ніколі не меў ні літасці, ні спагады.

## VI

*Апынуўшыся на вяршыні ўлады, Леў Сапега шмат у чым вызначаў характар дзяржаўнай палітыкі ў духоўна-рэлігійнай сферы, адносінах паміж дзяржавай і царквой. Ад яго залежала дасягненне згоды паміж канфесіямі, што было надзвычай складана. На той час у Беларусі існавала некалькі рэлігійных плыняў — Каталіцтва, Праваслаўе, Пратэстантызм, Іўдаізм і Мусульманства. Кожная з іх мела ўласныя гістарычныя карані, адметную філасофію і арыентацыю на пэўны тып культуры. Леў Сапега выдатна ўсведамляў, што пры такім раскладзе выключна важна захоўваць талерантнасць, аднолькава роўна ставіцца да ўсіх вернікаў, паважаць іх царкоўна-рэлігійныя правы.*

На рэлігійнае становішча ў ВКЛ надзвычай паўплывала заснаванне ў 1589 годзе Маскоўскай Патрыярхіі. Царкоўныя ўлады Маскоўскага княства адразу ж заявілі пра неабходнасць аб'яднання пад уладай Масквы ўсіх праваслаўных, у тым ліку і жыхароў ВКЛ. Праваслаўнае насельніцтва абвяшчалася маскоўскім. Леў Сапега выдатна ўсведамляў, да чаго на практыцы прывядуць дэкларацыі маскоўскіх патрыярхаў. А яны сведчылі якраз пра тое, што даўнія прэтэнзіі Масквы на землі Беларусі набываюць абрысы палітычнай праграмы.

Імкнучыся засцерагчы інтарэсы Вялікага Княства Літоўскага, захаваць духоўна-культурную незалежнасць краіны, абараніць беларускі народ і вернікаў ад экспансіі з Усходу, Леў Сапега актыўна падтрымаў праект рэгіянальнай уніі — пагаднення Праваслаўнай царквы ВКЛ з Каталіцкім касцёлам.

10 верасня 1595 года Леў Сапега напісаў надзвычай яркі ліст да Канстанціна Астрожскага, у якім даваў князю параду ўстрымацца ад публічных пагроз на адрас царкоўных іерархаў. Канцлер настойліва рэкамендаваў свавольнаму князю выяўляць стрыманасць пры падрыхтоўцы міжцаркоўнага пагаднення, раіў не ўжываць абраз на адрас манарха, прасіў спыніць пераслед уладзімірскага епіскапа Іпація Пацея. Леў Сапега адзначаў: «Стаўленне да царкоўнай лучнасці, — гэта твая ўласная справа. Але як можна лаяць Папу, называць яго антыхрыстам і непрыяцелем Слова Божага, абражаць усіх католікаў і святую саборную веру, пагражаць каралю замахам на яго жыццё і стратаю каралеўства, прыраўноўваць манарха да ерэтыкоў і ачарніцеляў вялікасці Божай! А паколькі кароль — католік, то палохаеш яго тым, што выставіш супраць яго 20 тысяч жаўнераў… Усяго гэтага, мой міласцівы спадару, не трэба чыніць. А я сам, хоць і зычлівы слуга і крэўны вашай княжацкай міласці, але таго ўхваліць не магу і сардэчна перажываю, што гэта ад вас зыходзіць».

Канцлер папярэджваў Канстанціна Астрожскага і тлумачыў яму: «Кароль — вярхоўны гаспадар і абаронца ўсіх духоўных асобаў — як рымскай, гэтак і грэцкай веры — не дапусціць, каб хто-небудзь чыніў зло. Ягомасць кароль хоча і будзе бараніць усіх ад любога гвалту, крыўды і ўціскаў».

Спасылаючыся на ўласны досвед узаемаадносін з Жыгімонтам III Вазам, Леў Сапега настойліва рэкамендаваў князю Астрожскаму ў складаны для краіны перыяд не асабліва канфліктаваць з манархам: «Хоць мяне і самога нярэдка заносіць, але зараз не той час».

Леў Сапега меў рацыю: у любую хвіліну міжцаркоўныя непаразуменні і рэлігійныя спрэчкі ў Вялікім Княстве Літоўскім маглі перарасці ў поўную анархію і хаос. Мусіць, толькі своечасовыя парады канцлера, яго рашучыя дзеянні і тэрміновыя перамовы з украінскай і беларускай шляхтай спынілі князя Канстанціна Астрожскага ад непапраўных учынкаў, выратавалі на той момант Беларусь ад грамадзянскай вайны на рэлігійнай глебе, вынікі якой маглі быць

**Н. Г.** — Так, у памяшканні ляснога тэхнікума будзе размяшчацца епархіяльнае вучылішча. Дарэчы, гэта і быў будынак епархіяльнага вучылішча.

**П. В.** — А дом наш размяшчаўся на тэрыторыі сада… Пэўна, таксама будзе зносіцца. Як і іншыя дамы, якія маюць сталы век. Ну, няхай той ручай, у якім я лавіў калісьці з сябрамі ўюноў і гальцоў, ператворыцца ў цывілізаваны, з мармуровым рэчышчам і сістэмай сажалак. Але ён ужо не будзе тым ручаём. Хай сабе ачалавечыцца рэчка Палата, хай замест вярбы на яе берагах будуць расці дрэвы каштоўных парод, але… Мацярык майго дзяцінства сыходзіць у нябыт.

**Н. Г.** — А памятаеш масток? Вісячы такі масток праз Палату? Ён гайдаўся, і цікава было перабегчы па ім на той бок, дзе была вёска Слабада, і адтуль глядзець праз дрэвы на цэркаўку. Яна ж як свечачка стаяла.

**П. В.** — Я памятаю паштоўку, вельмі старую, выдадзеную яшчэ за часам барацьбы з рэлігіяй. На ёй Спаса-Еўфрасіннеўская царква, знятая якраз з гэтага ракурсу. Але варта прыгадаць іншае: храмы, якія палеглі ў руінах. Адзін свой апошні допіс я назваў «Дзяцінства на руінах». Цёплая царква, Крыжаўзвіжанская… Як казаў адзін бацюшка, тады ўсё знаходзілася ў мярзоце запусцення. Але на гэтых руінах прайшло наша дзяцінства, на іх мы спрычыніліся да свецкага і святога.

**Н. Г.** — А памятаеш дамінанту кадэцкага корпуса, Мікалаеўскі сабор?

**П. В.** — Цэнтр я ведаў менш. Калі толькі там што ўзрывалася, то прыходзілі ўсе, не змаўляючыся. І кожны быццам бы бачыў пажар…

**Н. Г.** — Гэта таксама міф, як і полацкі лабірынт. Міф, у які паверылі.

**П. В.** — На жаль, з пункта гледжання матэрыялізму ён такі ж неажыццяўляльны, як і тое, што ўсе мы, калі нараджаліся, першнаперш бачылі вежы Сафійкі: бо насупраць быў раддом.



*Навум Гальпяровіч.*

**Н. Г.** — Адным позіркам несвядомым ты ўсё ж бачыў іх: калі мама паднесла цябе да акна, каб паказаць бацьку. І ў цябе ж ёсць магчымасць сказаць, што ў адрозненне ад іншых ты бачыў немаўлячым позіркам яшчэ і Спаса-Еўфрасіннеўскую царкву…

Дык вось, многія полацкія таямніцы палягалі пад скляпеннямі кадэцкага корпуса: туды хадзілі шукаць падземныя хады. Ты хадзіў?

**П. В.** — Паколькі я жыў каля Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы, то ўваход у лабірынт мы шукалі з боку Крыжаўзвіжанскай. Паводле падання, яны былі паўсюль, гэтыя лёхі. І збоку цёплай царквы таксама. Яна была зачынена на замок, але прабрацца ў падзямелле здавалася справай цяжкай і страшнай яшчэ і таму, што, паводле нашага міфа, уваход пільнаваў жалезны рыцар, які дзейнічаў па прынцыпе «усіх пускаць, нікога не выпускаць». Я раскажу яшчэ, чаму мы не ўвайшлі ў Крыжаўзвіжанскую царкву. Гэта таму што вартаўнік развёў там цэлае племя трусікаў — штук дзвесце ці мо нават трыста. А яны былі крыважэрныя. Калі б ён толькі павесіў амбарны замок, то мы, канечне, прабраліся б, але гэтыя істоты з чырвонымі вочкамі і зубкамі… Іх мы баяліся. І гэта іх, дарэчы, меў на ўвазе бацюшка, калі казаў пра «мярзоту запусцення». Усё становіцца на свае месцы, усё ўпарадкоўваецца, але я паўтару: мацярык нашага дзяцінства сыходзіць незваротна.

## ЛЮДЗІ І СІМВАЛЫ

**Н. Г.** — Ад каго ты першы раз пачуў гэту легенду?

**П. В.** — Ад суседа, з якім сышоўся ў сваім першым пераможным баі ў шэсць гадоў. Не так даўно я друкаваў чарговыя ўспаміны пра Полацк, адзін раздзел якіх называецца «Шлях да храма». Па сутнасці, гэты шлях пачаўся ўжо тады, калі на нашых вуліцах яшчэ вяліся тыя самыя бойкі паміж раёнамі, якія я таксама прыгадваю. І пра Караедню там гаворыцца, і пра слабадскіх, і запалоцкіх… Але пасля той першай сваёй перамогі я вырашыў не біцца, а займацца сур'ёзнымі справамі. Адна з такіх спраў — пошукі полацкага лабірынта. Мы, натуральна, вырашылі, што ўваход у яго хаваецца на тэрыторыі былога манастыра, побач з якім жылі. І абследавалі гэту тэрыторыю дасканала.

**Н. Г.** — Літаратары заўсёды шукаюць нейкія сімвалы нават там, дзе іх і быць не магло. Хлопчык Пеця Васючэнка, з ранцам, у акулярах, хадзіў пешшу ад Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў дзявятую школу, у якой некалі вучыўся і я.

**П. В.** — Памятаю, калі вучыўся ў сёмым ці восьмым класе, настаўніца беларускай мовы абвясціла: «Сёння да нас прыйдзе сапраўдны пісьменнік».

**Н. Г.** — І хто гэта быў?

**П. В.** — Гэта быў Навум Гальпяровіч. Помню, я нават крыху зараўнаваў, падумаў: калі ён сапраўдны пісьменнік, хто тады я? А Навум Якаўлевіч сказаў з гонарам: «Так, можна мяне нават памацаць».

**Н. Г.** — Я малады быў, ганарысты…

Ну, канечне, можна гаварыць і пра тое, як ты першы раз завітаў у рэдакцыю, а мы з Іванам Стадольнікам цябе сустрэлі. Ты прыйшоў з мамай, прынёс вершыкі. І потым Стадольнік сказаў, маўляў, нейкія надта добрыя вершы. «Можа спісаў аднекуль? Дам я яму заданне напісаць пра зайчыка ці коціка?» Пеця Васючэнка наступным разам прыйшоў адзін, прынёс і пра зайчыка і пра коціка, і мы гэта надрукавалі ў газеце.

**П. В.** — Пра птушачак і ката. Было… Нядаўна ў гэтай газеце, раней яна называлася «Сцяг камунізма», а цяпер «Полацкі веснік», быў надрукаваны ўспамін пра гэта. Мая мама таксама яго прачытала. І сказала, што мы крышку памыліліся: спачатку была сустрэча з паэтамі ў гарадской бібліятэцы, я там таксама свае вершыкі пачытаў. А потым ужо вы са Стадольнікам нас запрасілі. Усё абрастае, як бачым, новымі дэталямі, якія невядома адкуль бяруцца. Яшчэ адзін прыклад — мой першы рэпартаж, пра даярку Краснабаеву і яе карову. Насамрэч яго чытаў толькі Іван Канстанцінавіч. Чытаў і крэмзаў сваім чырвоным алоўкам. Пра тое месца, дзе я пытаюся ў даяркі, ці слухаюцца яе каровы, ён сказаў, што гэта лішняе. І выкрасліў, пакінуўшы толькі матэрыялы пра падрыхтоўку да XXIV з'езда КПСС. Але я прыдумаў і той чырвоны аловак, якім ты выкрэсліваў сухія




### Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ. «На трапяткім агні»

Чаго вы не ведаеце пра Полацк? Што стаяла на беразе Палаты невялічкая хатка і звалася хіжынай дзядзькі Тома, ведаеце? Калі не, то гэта новая кніга — для вас. Увогуле, мы шмат чаго не ведаем. Вось чытаем у пуцяводніках пра Рыгу, што ёсць там дом з коткамі, і пры гэтым не згадваем, што ў Полацку ёсць дом з вушамі. І што раней стаяў у цэнтры гэтага горада «ўвесь пашчэрблены ад бамбёжак магутны гмах з вежамі» — кадэцкі корпус, пад якім змяшчаліся падземныя хады. Многія пісьменнікі згадваюць у творах, напісаных па-мастацку прыгожа, мясціны свайго дзяцінства. Навелы Навума Гальпяровіча хочацца перачытваць шмат разоў. Проста яны шчырыя.

Убачыць Парыж і памерці? Адкрыць для сябе Полацк! На шчасце.



лічбы. Хаця на самай справе ты проста прачытаў і сказаў: «Жвава, жвава напісана, нясі Івану Канстанцінавічу». Аловак нават у рукі не браў.

**Н. Г.** — Дык ты хацеў з мяне зрабіць настаўніка.

**П. В.** — Проста прыгожа выглядае, калі ёсць ажно два цэнзары, адзін — аграрый, другі — лірык, і абодва правяць няшчаснага аўтара.

## БЫЎ ЗАШТАТНЫ, ЦІХІ ГАРАДОК

**Н. Г.** — Час мяняецца. Калісьці я быў старэйшы, а цяпер здаецца, нібыта мы аднаго ўзросту. Калі гаварыць пра Полацк і яго даўніну, то трэба сказаць, што такой увагай, як сёння, яго не песцілі ні прэса, ні кнігі. Гэта быў заштатны, ціхі гарадок.

**П. В.** — Але мы ведалі, што наш горад належыць да сівой гісторыі. І не толькі з урокаў: гэтыя звесткі, як і паданне пра полацкі лабірынт, перадаваліся з вуснаў у вусны. Хаця ў падручніку гісторыі пра Полацк гаварылася сціпла або ўвогуле не гаварылася. Інакш кажучы, гісторыя была з намі.

**Н. Г.** — Так, памятаю першую кніжку пра Полацк, якую я прачытаў, — «Славен город Полоцк». Я быў прыемна ўражаны тым, што пра наш Полацк ёсць цэлая кніжка! Так і ўяўляў сабе, як па вуліцах, якімі мы ходзім, у месцах, дзе бавім час, адбывалася «сівая гісторыя». Калі першы раз у падручніку гісторыі СССР я ўбачыў старажытную гравюру і літаральна два-тры сказы пра Полацк, гэта была вялікая радасць! Ты, Пятро, жыў у горадзе, а я ў Пітомніку, і калі нам гаварылася, што мы будзем жыць пры камунізме, я пытаўся ў сваёй бабулі: «А што гэта значыць — жыць пры камунізме?». І бабуля адказвала, што камунізм будзе тады, калі наш завулак заасфальтуюць.

**П. В.** — Лічы, што мы жывём пры камунізме.

**Н. Г.** — Так, завулак даўно заасфальтавалі. А на месцы Пітомніка стаіць цяпер малочны камбінат. І некалькі хатак засталося ад таго часу. З Алесем Савіцкім мы пад'язджалі да хаткі, дзе я жыў у дзяцінстве. Гэта была саўгасная «кватэра», невялікі, звычайны сельскі дамок. Драўляны. У мяне захоўваецца здымак, дзе я з бацькам, маці, бабуляй, цёткай і сястрой сядзім на лавачцы перад гэтым дамком. І гэты дамок ёсць! Там жывуць іншыя людзі, канечне. Я, калі прайшоўся па вуліцы, сустрэў Чыжэўскую. Яна пытае: «Што вы тут робіце?», а я кажу: «Можа хату хто прадае?» І яна па голасе мяне пазнала! Кажа: «Гэта, напэўна, Навум».



А потым мы сустрэлі цёцю Геню Ардзінец, і яна таксама мяне пазнала, узгадала маю маму. Вось што самае дзіўнае: мне ўжо шмат гадоў, а ёсць яшчэ тыя людзі, якія памятаюць мяне малым, і ёсць тыя хаткі, дзе я малым бываў…

Але, канечне, самае старажытнае месца ў Полацку — гэта набярэжная Дзвіны, дзе ў кірсе размяшчаўся музей. Ты хадзіў у гэты музей? Бачыў чучала сама?

## ЯШЧЭ АДЗІН АГУЛЬНЫ ЎСПАМІН

**П. В.** — Усе гэта чучала прыгадваюць. Так, я шмат разоў хадзіў у той музей. Кожны раз як сваякі ў госці прыязджалі, мы туды хадзілі.

**Н. Г.** — Я памятаю яшчэ і французскіх кірасіраў. Музейчык быў маленькі, і з навуковага пункта гледжання, і асабліва на сучасны позірк зусім не навуковы, але там было вельмі цікава. У мяне ёсць і ўспаміны пра тое, як мы, ужо юнакі і дзяўчаты, выносілі друз з Сафійскага сабора, калі пачалася яго рэстаўрацыя.

**П. В.** — Яшчэ адзін наш агульны ўспамін — пра першы паход у дзіцячую бібліятэку.

**Н. Г.** — Так, дамок Пятра Першага з разнымі дзвярыма. Такі маленькі, што дзіўна нават, як гэта дзіцячая бібліятэка там размяшчалася. Але для мяне гэта быў храм кнігі. Я ўвогуле ў дзяцінстве марыў быць бібліятэкарам. Думаў: «Вось добрая праца: сядзіш і кніжкі чытаеш». Па мінскіх мерках да той бібліятэкі было блізка. А тады здавалася, што з нашага раёна да яе надта ж далёка. Увогуле, цэнтр, як лічылася, якраз там, дзе яна. А мы — Цагельня, Караедня…

**П. В.** — Караедня. Лясны тэхнікум. Я памятаю, у газеце «Знамя юности» быў змешчаны артыкул «о короедах»: пра бойкі, якія вялі з «караедамі» гарадскія падшыванцы. Аўтар артыкула быў на баку навучэнцаў ляснога тэхнікума, пісаў, што сапраўдныя караеды тыя, што точаць ствол здаровага дрэва. Гэта значыць, бандыты. Хаця ў бойках, я скажу, адзін аднаго былі вартыя: і тыя, і другія ўжывалі калы, ланцугі веласіпедныя...

**Н. Г.** — Па першым часе перамагалі гарадскія, мясцовыя, бо «караедамі» былі хлопцы з усёй Беларусі, якія прыязджалі вучыцца на лясных тэхнікаў, ляснічых, механізатараў і гэтак далей. Але потым, на старэйшых курсах, яны аб’ядноўваліся і давалі гарадскім добры адпор.

## НА ВЫСОКІМ БЕРАЗЕ ПАЛАТЫ

**П. В.** — Мы думаем пра наш горад і цяпер, далёка ад яго. Дай Бог, каб прырода Полацка захавалася. Хаця Палата забруджана. Як і той ручай, у якім я лавіў уюноў і гальцоў…

**Н. Г.** — На маёй памяці засталося будаўніцтва дома з «вушамі» на месцы Мікалаеўскага сабора. Але прыемна, што Полацк становіцца прадметам асаблівай цікавасці і нават паломніцтва. Гэта азначае, што аднаўляецца пэўная справядлівасць: людзі ўжо ўсведамляюць, што такое Полацк для краіны, для Радзімы. Прыемна пачуць у размове: «Як, вы не былі ў Полацку?» Бо калі я паступаў у інстытут замежных моў, дзе ты, Пятро Васільевіч,

працуеш, тагачасны рэктар казаў: «Ну где же этот мальчик в Полоцке мог научиться английскому языку? У вас хоць при Доме офицеров какие-нибудь курсы есть?»

**П. В.** — Наша дзявятая школа мела звычайны ўзровень.

**Н. Г.** — Але так атрымалася, што з яе сцен выйшла нямала цікавых людзей. Мікалай Ільніцкі, былы дырэктар Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, вучыўся у паралельным класе. Таццяна Савельева, якая была дырэктарам бібліятэчнай сістэмы, таксама вучылася ў паралельным класе. Вось і Пятро Васючэнка з гэтай школы. А яна ж, здаецца, такая непрыкметная. І невялікая, двухпавярховая…

**П. В.** — На высокім беразе Палаты…

**Н. Г.** — Так. На высокім беразе Палаты…

**П. В.** — На які мы часам уцякалі з заняткаў…

**Н. Г.** — Так. І памятаеш, там быў масточак? Мы нават ныралі з яго ў Палату. Уявіць гэта сёння цяжка.

Мне здаецца, што на ўскраінах Полацка куды больш спела жаданне ўславіць свой горад, чым у сталічным камфорце. Безбацькавіч Коля Голубеў, які жыў у нашым Пітомніку, — ён быў старэйшы за мяне, — вельмі імкнуўся да вучобы. Кажуць, стаў генералам. А я ўспамінаю, што ў яго хаце не было нават падлогі драўлянай, была земляная. Настолькі была бедная сям'я, а генерала вырасціла. На полацкай ускраіне. А Гугніны, што былі тваімі суседзямі? Старэйшы зарабляў сабе працоўны стаж у брыгадзе Блахіна ў Наваполацку, а потым паступіў у МДУ і пасля жыў і працаваў у Маскве. А цяпер ён загадчык кафедры ў Полацкім універсітэце, доктар філалагічных навук. Малодшы Гугнін — кандыдат навук, выкладчык Віцебскага ўніверсітэта, мастак.

**П. В.** — Яшчэ адзін парадаксальны лёс. Мая аднакурсніца Наталля Лысова родам з Бярэсця, а знайшла сваю другую радзіму і месца актыўнай працы менавіта ў Полацку, калі яна і Гугнін, загадчык кафедры сусветнай літаратуры, сустрэліся на адкрыцці гісторыка-філалагічнага факультэта ў сценах былога кадэцкага корпуса, калегіума. Я бачыў тады шчаслівых людзей. І цяпер, калі прыязджаю, бачу шчаслівых студэнтаў, якія вучацца ў гэтых старадаўніх мурах. І хаця там могуць быць праблемы з вентыляцыяй, бо старадаўнія муры не прызначаны да сучасных умоў, але антураж, аўра, прысутнасць увахода ў лабірынт робяць людзей шчаслівымі…

**Н. Г.** — Я нядаўна даведаўся, што наш выдатны акцёр Ігар Сігоў, які намініраваўся на Оскара, таксама з Полацка, з Грамоў, хадзіў у чатырнаццатую школу. І мы, перш чым запісваць з ім перадачу, многа гаварылі пра наш родны горад. Уражвае, што як трапляецца цікавы чалавек, дык абавязкова з Полацка!

## ДРУГОЕ АДКРЫЦЦЁ ЛАБІРЫНТА

*Час, адведзены на гэтыя ўспаміны, падыходзіў да завяршэння. Суразмоўцаў чакалі планёркі — кожнага на сваім працоўным месцы. Мне ж хацелася слухаць і слухаць. Ну*




### Пятро ВАСЮЧЭНКА. «Ад тэксту да хранатопа»

«Блуканні па лабірынтах небяспечныя як у простым, так і ў пераносным сэнсах», — сцвярджае аўтар гэтай кнігі напрыканцы артыкула пра полацкі лабірынт, якім яго трактуе Вацлаў Ластоўскі. Дзе мяжа паміж мастацкай містыфікацыяй і артэфактамі Полацкай даўніны — цывілізацыі, што існавала задоўга да рымскай ці грэчаскай? Шукаць адказ выпадае таму, для каго манускрыпты і інкунабулы, скруткі і пергамены — «сваё асяроддзе». Пятро Васючэнка піша артыкулы, эсэ і пятрогліфы якраз для такіх. А ўсё таму, што «ёсць таямнічы канал, па якім рэчыва літаратуры перацякае ў сферу жыцця».




**Алесь САВІЦКІ: «Сонца на ўсіх адно»**

Роздумы, хваляванні, згадкі: пра Палату і Экімань, Скарыну і Сімяона, Еўфрасіннію і Сафійскі сабор. Урыўкі з рамана і апавяданні, эсэ і артыкулы. Успаміны пра вайну і… баявая характарыстыка Алеся Савіцкага. І яго ж інтэрв'ю, дадзеныя вядомым журналістам для чытачоў вядомых выданняў. Побач — празаічныя і вершаваныя прысвячэнні, простыя, шчырыя, як святло сонца. У прадмове пазначана: «Нам вельмі хораша працавалася разам з героем над складаннем гэтай кнігі і хочацца верыць, што чытачы таксама праявяць да яе вялікую цікавасць. Навум Гальпяровіч, Наталля Ваніна». У серыі «Асоба і час» выдавецтва «Чатыры чвэрці» выйшаў зборнік пад назвай Алесь Савіцкі: «Сонца на ўсіх адно».

*яшчэ б хоць трошкі… Пра полацкі лабірынт або пра тое, у што гулялі полацкія хлапчукі некалі, у часы, калі дрэвы былі вялікімі, а Палата — больш імклівай.*

**П. В.** — Міфы пра яго ў нас былі ўсялякія. І пра тое, што людзі там знікалі. Можа і праўда знікалі. І кадзеты там пакінулы свае надпісы. Мяне неяк пазнаёмілі з братамі Бухавецкімі, якія ў гэтым лабірынце пабывалі. Яны выкарысталі магчымасць туды пранікнуць, калі адбывалася рэстаўрацыя кадэцкага корпуса і падрыхтоўка да здачы гісторыка-філалагічнага факультэта. І вось раскрыліся гэтыя дрэнажныя хады, падмуркі, лёхі. А полацкія Том Сойер і Гекльберы Фін, узяўшы, як вучыў Ластоўскі, ліхтарык і шнур, рушылі ў невядомае. Адзін, праўда, пільнаваў каля ўвахода, а другі аглядаў мясцовасць. Далёка ён прайшоў, да самых завалаў. Яго здзівілі выпарэнні — вельмі непрыемныя, і туманок, які там быў, і косткі ён там знайшоў, і яшчэ нешта, пра што не хацеў казаць. Зрэшты, успаміны старэйшага Бухавецкага надрукаваны, іх можна прычытаць.

Выходзіць, што для адных полацкі лабірынт — гэта легенда, міф, а для іншых — цалкам рэальная рэч, якую можна называць то дрэнажнымі хадамі, то каналізацыйнай сістэмай, што ёсць, па сутнасці, у кожным старым горадзе. Але ж у іншых мясцінах такія лабірынты не сакралізаваны, а ў нас гэта зроблена. Народнай памяццю, міфалогіяй і творамі Вацлава Ластоўскага.

**Н. Г.** — Таямніца яго яшчэ і ў тым, што ніхто там не быў, але былі ўсе, і галоўнае — ніхто не дайшоў да канца. І кожны бачыў яго па-свойму — і чароўным горадам, у якім хаваецца скарб, і месцам, куды можна прайсці толькі з завязанымі вачыма, бо, маўляў, дзядок правёў так аднойчы туды нейкага хлопчыка.

**П. В.** — І што гэтыя хады вядуць ажно да Кіева.

**Н. Г.** — Усяслаў Чарадзей, абярнуўшыся шэрым воўкам, менавіта так трапіў з Кіева ў Полацк. Шмат было легенд…

**П. В.** — Я вось пачуў, што ў нашым з табой горадзе будуць гуляць у «Полацкі лабірынт». Камп'ютарны. Гульня прымеркавана да юбілею Полацка. А мы гулялі ў сапраўдны… А яшчэ ў нас быў «Ненаселены востраў», як у Жуля Верна і ў «Палескіх рабінзонах». Бо сапраўды такі востраў быў. Памятаеш? На яго, аддзелены вузкай пратокай, можна было перайсці ў брод. Там ніхто не жыў. Можна было распаліць вогнішча, пазычыць на суседніх агародах бульбы, спячы яе і гуляць. Я быў у ролі юнага біёлага, паколькі захапляўся тады біялогіяй...

**Н. Г.** — А Палата яшчэ тым характэрная, што ў ёй ёсць віры…

**П. В.** — Я ведаю адзін вір, дзе жыла русалка. Неасцярожных мінакоў яна хапала і зацягвала да сябе...

***Запісала Святлана ДЗЯНІСАВА***

***Фота Полацка прадастаўлены Андрэем Дыбоўскім, www. globus. tut. by***

Уладзя СОДАЛЬ-САДЭЛЬСКІ

# ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ КНІГАРНЯ Ў ПОЛАЦКУ

***...Больш як дзесяць гадоў я ліставаўся з беларускай паэткай Канстанцыяй Буйло. Разы два наведваў яе ў Маскве, з розных сваіх лекавых клопатаў. Мая цікаўнасць да аўтаркі «Курганнай кветкі» зразумелая: яна была сучасніца Купалы, Коласа, Багдановіча, Цёткі, Максіма Гарэцкага, Язэпа Драздовіча, Старога Уласа, Ядвігіна Ш. На яе вачах пачынала адраджацца культура беларускага народа, тварылася наша гісторыя. Таму хацелася як мага больш даведацца ад яе пра наша мінулае ды й сёе-тое ўдакладніць з летапісу самой пясняркі.***

У кожным лісце і пры сустрэчы я пытаўся пра штось канкрэтнае, што мяне цікавіла, хвалявала на тую хвіліну, што магло прыдацца нашай гісторыі, літаратуразнаўству. Паэтка ставілася, праўда, часам з крыўдаю, што яе абцяжарваю пытаннямі: «Які ж вы неўтаймоўны!» А ёй нездаровіцца, няможыцца і нялёгка ўспамінаць тое, што было шмат гадоў таму. І ўсё ж не-не ды сёе-тое згадвала. Спакваля мне ўдалося вырваць з небыцця асобныя старонкі, моманты, эпізоды яе жыцця, той эпохі, таго часу. Вось, прыкладам, даўно мне карцела распытаць у яе пра працу ў полацкай кнігарні. Сам гэты факт нам вядомы. Звычайна ў публікацыях пра гэта гаварылася наступнае: «У 1914 годзе К. Буйло па ўгавору Купалы і Цёткі паехала ў Полацак… Там яна займалася асветніцкай працай, працавала ў беларускай кнігарні». Мяне гэта звестка не зусім задавальняла. Яна была вельмі агульная, а хацелася зусім канкрэтна ведаць, у чым заключалася асветніцкая дзейнасць К. Буйло. І я прашу Канстанцыю Антонаўну распавесці больш падрабязна пра полацкую беларускую кнігарню. Вось што яна мне распавяла.

— *Перш за ўсё вы павінны добра ведаць,* — кажа Канстанцыя Антонаўна, — *што нам, тагачасным пісьменнікам, даводзілася займацца не толькі мастацкай творчасцю. Мы рабілі ўсё, што вымагалі ад нас час, эпоха. Стваралі харавыя, драматычныя калектывы, бібліятэкі, кнігарні. Вось з гэтай нагоды я і патрапіла ў Полацк. Кнігарня ў Полацку была даволі ладная і бадай ці не першая такая на Беларусі. Памятаю, калі я пагадзілася ехаць у Полацк, Цётка парывіста пацалавала мне руку, нібы я што гераічнае зрабіла, ці ўчыніла які подзвіг. Знаходзілася кнігарня ў цэнтры горада, недалёка ад Сафійскага сабора. Як называлася вуліца, я цяпер не памятаю. Кнігарня дзейнічала толькі адно лета. І сышла вайною 1914 года. У вайну ў ёй размяшчаўся шпіталь. Кніжкі ж былі спакаваны і адпраўлены ў Вільню. Арганізаваў яе Ластоўскі. Гэта была нашаніўская кнігарня. Чым я там займалася, пытаеце? А ўсім. Прадавала кнігі. Памятаю, было шмат беларускіх календароў.*



*Канстанцыя Буйло, натхнёная сваімі згадкамі пра полацкую беларускую кнігарню. Масква.*



*— І куплялі?*

*— А чаму ж не... Пасля 1905 года людзі праглі друкаванага слова. А я ж гандлявала не толькі беларускімі кніжкамі. Былі там кніжкі і іншых аўтараў. Пра Беларусь, пісаныя па-польску. І па-руску. Заходзіла ў кнігарню пераважна моладзь. Гімназісты, курсісткі, семінарысты. Заходзілі ў кнігарню і салдаты. У Полацку ў тую пару надзвычай шмат было салдатаў. Сярод іх былі і беларусы. Ім таксама было цікава паглядзець, што гэта за беларуская кнігарня і што ў ёй дзеецца. Упершыню ж такія кнігі з'явіліся на свет. І заходзілі. Мяне там вельмі паважалі. Я ж была не проста прадаўцом. Мяне ўсе там успрымалі як прадстаўніка літаратуры. На паліцах стаяла і мая «Курганная кветка». Гандлявала ўсім, што выпускала суполка «Загляне сонца і ў нашаваконца». Чытала вершы, праводзіла гутаркі, тлумачыла людзям, што робіцца ў свеце. Шмат было гаворак пра адраджэнне беларускага народа. Асабліва гэтай тэмай цікавіліся студэнты і семінарысты. Моладзь была парывістая, нацыянальна свядомая. Памятаю, усё прасілі: «Давайце значкі паробім, каб усе бачылі, што мы беларусы». Сёння нікога з іх не помню. Запомнілася адна хіба толькі Галя. Такая чарнавокая жвавая дзяўчына была. З ёй я дзялілася ўсім: мабыць, таму што тэмпераменту шмат агульнага было. Заходзіў у нашу кнігарню зрэдку і паліцэйскі. Рыжы такі, з пакручастымі вусамі. Заходзіў нібы сабе так, а на самай справе, я здагадвалася, цікавіўся, што тут робіцца. У мяне на ўсякі выпадак знаходзіўся для яго пачак цыгарэт. Ён браў яго, казаў мякка: «Дзякуй, дачушка» — і супакоена выходзіў. А мы працягвалі займацца сваімі справамі. Цікавы гэта быў час! Народ прагнуў вырвацца з якойсьці свае зачараванасці, з багнаў і балот. Янка Купала вельмі трапна выявіў гэта яго парыванне ў сваім славутым вершы «А хто там ідзе?»*

У маім архіве ацалела каля пятнаццаці лістоў і паштовак ад аўтаркі «Курганнай кветкі». У іх віншаванні са святамі, водгукі на кніжкі і публікацыі. Ну, і згадкі пра сваю полацкую беларускую кнігарню.

Нэлі КСЯНЕВІЧ

# ДЗІВОСЫ ВОЛІ

***Дзіўнае ўсё ж гэта слова. Азначае свабоду і абмежаванасць адначасова. «Я вольная рабіць што хачу» і «напруж волю, зрабі тое і тое» (як правіла, вельмі цяжкае, амаль непасільнае). Як гэта звязаць, каб спалучэнне Божага дару з яечняй дало ядомую страву? Люблю рашаць цяжкія задачы. Паспрабую...***

## ЦІ МАЁ ГЭТА ЖАДАННЕ?

Калі воля, значыць, свабода: раблю што хачу. Ці хачу я падскокваць ад звону будзільніка з жудасным жаданнем паспаць яшчэ хвілінку? Не! Тады лягу ў ложак да адзінаццаці і загадаю сабе падхапіцца а палове пятай. Засынаць буду не пад тэлевізар, а пад асабістае мармытанне (не ўслых, а пра сябе апісваю ўсё, што бачу з заплюшчанымі вачыма, карцінка там увесь час мяняецца, і калі апісваеш услых, то набіраешся энергіі, а калі пра сябе — засынаеш). Устала, зверыла ўнутраны гадзіннік з насценным. Палова пятай, самы час падыходзіць да люстэрка. Чаго я хачу? Быць прыгожай! Вось і шукаю ў сабе вартасці. Вочы — дзіва якія прыгожыя. Колер — рэдкі, мядовы. Нос таксама нічога. І ўсмешка класная. Цяпер — у душ. Ці маё гэта жаданне? Уяўляю, як цёплыя струменьчыкі бягуць па скуры і змываюць усё непатрэбнае. Канечне, маё! Потым, у мітусні дня не забываюся прыпыніцца перад чарговым дзеяннем і запытаць сябе: «Ты — маё? Калі так, то прашу ў распарадак!»

## ЯК БЫЦЬ З ЧУЖЫМІ?

Падчас праверкі выяўляюцца «зайцы». Без уваходнага квітка з адзнакай «маё жаданне» ў працоўны дзень спрабуюць праціснуцца прыбіранне кухні, чытанне надта разумнай кнігі па генетыцы і праверка сшыткаў унука. Спачатку рашаю, ці можна не рабіць гэтую справу, ці можна спіхнуць яе на каго іншага. Такую надта разумную кніжку нават пад дулам пісталета ні ўнук, ні муж чытаць не возьмуцца, посуд, мабыць, муж памые, калі папрасіць жаласліва, а вось Глебкавы сшыткі правяраць ён адмовіцца, гэта дакладна. Ну, кніжку ж можна адкласці. Іншым разам, лепшым часам… Калі самаадзнака зашкаліць, і трэба будзе спусціць сябе з нябёсаў на зямлю (думала, ты разумная, а вось чытаеш гэты выраз і дурнічка дурнічкай, ані нічога не разумееш). Сшыткі ўнука, калі іх пусціць самацёкам, імгненна ператвараюцца ў злёгку пажаваныя таемныя надпісы. Нічога не паробіш, трэба правяраць. Выкарыстоўваю правіла дваццаці хвілін. Усю працу раблю з таймерам: або яна будзе завершана праз чвэрць гадзіны, або я так захаплюся, што адмяню таймер, і тады гэта ўжо будзе маё жаданне. Галоўнае — пачаць.

Атрымала асалоду: даўно не працавала дэшыфроўшчыцай.

## ПА ГАДЗІНАХ

Для самых лянівых (я — у іх ліку) — класная тэхніка. Пратэсціраваць спіс спраў на дзень па прынцыпе «хачу — не хачу» з самай раніцы і распісаць па гадзінах, калі што рабіць. Напрыканцы — моркаўка, нешта вельмі прыемнае асабіста для сябе. Спіс моркавак пажадана скласці загадзя: практыка паказвае, што людзі не задумваюцца пра свае радасці да той пары, пакуль іх не прымусіш. Расклад гатовы. Думаем толькі пра тое, што робім цяпер, увесь свет чакае, калі мы з задавальненнем скончым гэту працу. А вечарам, калі ўсё зроблена, — заслужаная ўзнагарода. Гэта і ёсць рэалізацыя парадокса волі: з аднаго боку дакладна, згодна з раскладам, працуеш, напружваешся, але, з другога, якраз гэта напружанне і прыносіць задавальненне.

Ірына КЛІМКОВІЧ

# НА КРЫЖЫ ДАРОГ



Герб Старых Дарог.

***Раней казалі, што ўсе дарогі вядуць у Рым. Тым не менш сёння адна з іх прывяла нас у Старыя Дарогі. У старажытнасці гэта было невялікае паселішча, якое называлася проста Дарогамі і ляжала сярод дрымучых лясоў і топкіх балот на сярэдзіне шляху паміж Слуцкам і Бабруйскам. І ўжо тады тут шмат думалі пра тыя самыя дарогі: з прычыны вялікай забалочанасці заўсёды даводзілася пракладаць гаці і грэблі. Ішлі часы, яны патрабавалі новых, больш сучасных дарог. І вось пасля пабудовы шашы Масква—Варшава паселішча ў пачатку старой гаці атрымала назву Старыя Дарогі. Каля новай гаці ўзнікла яшчэ адно паселішча — Новыя Дарогі.***

## ПАМЯЦЬ ПРА ДЗЯДОЎ І СЫНОЎ

Першая згадка пра населены пункт Дарогі знойдзена ў дакументах архіва канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага, датаваных 1524 годам. Але народная пагалоска сцвярджае, што паселішча мае больш старажытную гісторыю. Некалі на месцы гэтага горада была непралазная дрыгва. Таму людзі, якія пасяліліся тут, зваліся дрыгавічамі. Згодна з легендай, дрыгавічы, а гэта сённяшнія палешукі, пайшлі ад двух смелых і дужых хлопцаў, якія аддзяліліся ад сваіх дзесяці братоў. З часам паміж братамі пачалася варажнеча і зайздрасць, яны ніяк не маглі падзяліць багацце, нажытае памерлым бацькам. Каб не варагаваць з братамі, двое малодшых выправіліся шукаць лепшай долі. Дарога прывяла іх у балоцістыя мясціны, парослыя непраходным дзікім лесам. Браты настойліва працярэблівалі дарогі, масцілі грэблі і ставілі кладкі, пакуль не вырашылі застацца тут назаўсёды. Зразумела, што сярод непралазных нетраў і гушчароў зручней хавацца ад ворагаў і зайздросных братоў. Можа і цяпер на Палессі і Старадарожчыне сустракаюцца грэблі, якія некалі зрабілі легендарныя браты. Гэта легенда, а што кажа гісторыя?

Вядома, што ў X стагоддзі землі дрыгавічоў пэўны час уваходзілі ў склад Кіеўскай Русі. Менавіта ў гэты перыяд тут інтэнсіўна асвойваліся пашавыя тэрыторыі, развіваліся рамёствы, узнікалі гарады і самыя старажытныя феадальныя дзяржавы-княствы. Землі Старадарожчыны ўваходзілі ў склад Тураўскага княства, якое знаходзілася на тэрыторыі паўднёвай Беларусі ў басейне ракі Прыпяць. У летапісах пад 980-м годам згадваюцца старажытныя тураўцы з легендарным правадыром дрыгавічоў — князем Турам. Кажуць, што ён быў першым князем Тураўскага княства і прыйшоў на гэтыя землі з Рагвалодам, першым гістарычна вядомым полацкім князем. А яшчэ кажуць, але гэта недакладна, што князі былі братамі. Калі так, то гісторыя паўтарае легенду. Як бы там

ні было, а далейшы лёс Тура невядомы. Што датычыць Тураўскага княства, яно праіснавала да XVI стагоддзя, тэрыторыя ж сучаснай Старадарожчыны яшчэ ў 1160 годзе адышла да Слуцкага ўдзельнага княства.

У 1396 годзе князь Вітаўт падарыў гэтыя мясціны свайму паплечніку і прыхільніку Івану Гальшанскаму, які неаднойчы дапамагаў яму падчас барацьбы за вялікакняскую ўладу. У Гальшанскага было шмат дзяцей. Ягоная дачка Ульляна стала жонкай Вітаўта. Другая дачка — Ганна Гальшанская — пабралася шлюбам з Альбрэхтам Гаштольдам, а іх сын Станіслаў уладарыў на гэтых землях. Сённяшнія старадарожцы захавалі памяць пра князёў Гальшанскіх, іх родавы герб — гіпацэнтаўр — упрыгожвае і сучасны герб Старых Дарог. Неўзабаве Станіслаў падараваў вотчыну Хадкевічам, адзін з іх у 1572 годзе свой маёнтак і Дарогі прадаў слуцкаму князю Алелькавічу.

На працягу стагоддзя Дарожчынай і Старадарожчынай валодаў беларуска-літоўскі княжацкі род Алелькавічаў, які шмат зрабіў для развіцця тагачаснай беларускай культуры і адукацыі. Самы вядомы прадстаўнік роду, ягоны заснавальнік — Аляксандр, або Алелька, Алесь, Олік, сын кіеўскага князя Уладзіміра, унук вялікага князя ВКЛ Альгерда, праўнук Гедыміна, князь слуцкі і капыльскі, военачальнік і дыпламат Вялікага Княства. Каб абараніць радзіму, ён вёў няспынныя войны з татарамі. Апошні князь з роду Алелькаў па мужчынскай лініі — Юрый. У 1600 годзе ягоная дачка Соф'я пабралася шлюбам з Янушам Радзівілам. З таго часу Слуцк і Капыль, шматлікія землі і маёнткі, у тым ліку і Старадарожчына, перайшлі ва ўладанне магнатаў Радзівілаў. Трэба сказаць, што княгіня Соф'я — годная прадстаўніца свайго роду і прадаўжальніца ягоных слаўных традыцый.

## Шмат дзе на Старадарожчыне ходзяць чуткі пра з'яўленне людзям самой Божай Маці, а сведкамі такой падзеі з'яўляюцца цудадзейныя камяні



*Сафія Слуцкая.*

Ішлі часы, мяняліся ўладары, будаваліся дарогі, скончаліся і пачыналіся людскія лёсы. Сёння, нягледзячы на тое, што горад завецца Старымі Дарогамі, у ім амаль не засталося старых будынкаў. Калі не лічыць колішнюю паштовую станцыю, якая будавалася даволі працяглы час і канчаткова была ўзведзена ў 1850 годзе. Будавалася станцыя пры дарозе Масква—Варшава, якая злучала Расійскую імперыю з Еўропай. Па гэтай дарозе ездзілі знакавыя асобы: манархі, іх сем'і, дыпламаты, навукоўцы... Дзеля таго, каб было больш зручна і ўтульна, кожныя 22 вярсты ствараліся паштовыя станцыі з пастоем для гасцей і экіпажаў, стайняй для коней, карчмой, кузняй.

Магчыма, Старыя Дарогі так бы і засталіся невялікім паселішчам, каб не багатыя лясы вакол вёскі. Яны і прыцягнулі ўвагу камерсантаў, якія ў 1893 годзе пабудавалі тут лесапільна-фанерны завод. А каб вырабы завода вывозіць на ўсерасійскі рынак, сюды з Асіповічаў працягнулі чыгунку. Дзякуючы ёй, вёска пачала ператварацца ў горад, тут адкрываліся майстэрні і крамы. Сённяшняя чыгуначная вежа і гандлёвыя рады, якія працуюць дагэтуль, таксама захаваліся з

тых часоў. Але нездарма гэтае месца некалі назвалі Дарогамі — трэба ўвесь час трымаць марку! Вось і першы аўтавакзал у Беларусі з'явіўся не дзе-небудзь, а менавіта ў Старых Дарогах. Справа ў тым, што чыгунку давялі толькі да Старых Дарог, а людзям трэба было ехаць далей, на Слуцк. Таму туды пусцілі аўтобус, пабудавалі аўтастанцыю, яна і дагэтуль працуе.

Што ў будучым? Вядома, старадарожцаў чакаюць не толькі новыя падзеі і лёсы, але і новыя дарогі.

## ТАЯМНІЦЫ СТАРАДАРОЖСКІХ КУРГАНОЎ

Сённяшнія даследчыкі Старадарожчыны таксама сцвярджаюць, што гэтыя цудоўныя, добра прыстасаваныя для жыцця мясціны былі заселены чалавекам у глыбокай старажытнасці. І пра гэта яскрава сведчаць археалагічныя знаходкі. Яшчэ на мяжы XIX—XX стагоддзяў тут рабілі фрагментарныя даследаванні археалагічных помнікаў. Але яны былі далёкія ад навукі. У 1979 годзе сюды прыязджала вядомы археолаг Таццяна Каробушкіна і падчас разведкі тых самых помнікаў зафіксавала на тэрыторыі раёна знойдзеныя школьнікамі тры каменныя сякеры, выробленыя і старанна адшліфаваныя яшчэ ў другім тысячагоддзі да нашай эры. Упершыню на тэрыторыі раёна ёю былі выяўлены ўмацаваныя паселішчы-гарадзішчы, на якіх жылі людзі ў раннім жалезным веку. Такія гарадзішчы ёсць вакол вёсак Новыя Ісаевічы, Асавец і Клятное. Кавалкі керамікі са штрыхамі і ямачным арнаментам, знойдзеныя пры даследаванні гэтых гарадзішчаў, сведчаць пра тое, што тэрыторыю Старадарожскага раёна насялялі прадстаўнікі Мілаградскай і Зарубянецкай культур. Калі казаць проста — балцкай і праславянскай.



*Шкілет дрыгавіча з курганнага насыпу.*



*Старадарожскія каменныя сякеры.*

Разведкі разведкамі, а сапраўдных раскопак да пэўнага часу тут ніхто не праводзіў. Таму старадарожскі краязнаўца, настаўнік гісторыі гарадской гімназіі Віталь Юрэвіч заўсёды марыў наладзіць у наваколлі праўдзівыя археалагічныя раскопкі. Ён адчуваў, што дрыгва і лясы, якіх сапраўды тут было шмат, заўсёды выступалі своеасаблівай камерай захоўвання, дзе на працягу не тое што стагоддзяў, а тысячагоддзяў праляжалі і захаваліся ўнікальныя артэфакты. Колькі разоў знаходзіў настаўнік сёе-тое падчас сваіх паходаў са школьнікамі. Ведаў, што непадалёк ад вёсак Паставічы і Новыя Дарогі, уздоўж ракі Арыжна, не проста шэраг узгоркаў, як можа падацца простаму грыбніку, а старажытнабеларускія пахаванні — курганы-могільнікі. Юрэвіч налічыў іх каля сямідзесяці.

Трэба было спяшацца з раскопкамі, таму што неўзабаве на курганах у пошуках скарбаў пачалі гаспадарыць «чорныя» капаль-

нікі. А ўсё таму, што мясцовыя людзі называюць гэтыя пахаванні «французскімі» або «шведскімі» могілкамі і лічаць, нібыта ў курганах пахаваны ваяры з войска Напалеона або шведскага караля. А ў магілах разам з нябожчыкамі — золата... Віталь занепакоіўся і звярнуўся спачатку да археолага Міколы Крывальцэвіча, з ім ён тыдзень рабіў разведкі па раёне і знайшоў шэраг дадатковых помнікаў. Пасля няўдалых самастойных спроб ён разам з яшчэ адным прафесійным археолагам — Алегам Іовым — ужо два гады афіцыйна раскопвае дрыгавіцкія курганы. Дапамагаюць дарослым юныя археолагі старадарожскіх школ. Намаганнямі Юрэвіча яны збіраюцца кожнае лета непадалёк ад курганоў у турыстычны дзіцячы лагер.

У выніку на могільніках X—XI стагоддзяў знайшлі кавалкі керамікі, срэбныя пярсцёнкі, нож, грузіла, а таксама тры чарапы, яны добра захаваліся. Кажуць, што цяпер антраполагі з дапамогай сучасных камп'ютарных тэхналогій па знойдзеных костках могуць дазнацца, як выглядалі нашы продкі, колькі ім было гадоў і што стала прычынай іх смерці. Навукоўцы кажуць, што тысячу гадоў таму пахаванне адбывалася паводле язычніцкіх уяўленняў. Нябожчыка клалі на зямлю галавой туды, дзе заходзіць сонца і сканчаецца жыццё — на Захад. Потым зверху раскладвалі пахавальнае вогнішча, пасля чаго на попеле ўзводзілі высокі насып, а вакол рабілі роў. Тут жа спраўлялася трызна па памерламу: ладзіліся баявыя спаборніцтвы і калектыўныя прыгашчэнні. Але нябожчыка спальвалі не цалкам, а часткова, так працягвалася і ў раннія хрысціянскія часы. Таму акуратна зняты з кургана слой зямлі адкрывае, калі пашанцуе, парэшткі шкілета і чэрапа.

**Кавалкі керамікі са штрыхамі і ямачным арнаментам сведчаць пра тое, што тэрыторыю Старадарожскага раёна насялялі прадстаўнікі Мілаградскай і Зарубянецкай культур. Калі казаць проста — балцкай і праславянскай**



*Камень-следавік каля Старых Дарог.*

Нярэдка стагоддзі ператвараюць у пыл адзенне нябожчыка, ягоныя ўпрыгожванні з косці і дрэва. А вось метал, кераміка і камень захоўваюцца і даносяць сучасным археолагам карысную інфармацыю. Так, адзін з насыпаў захаваў у сваім чэраве цела маладога дрыгавіцкага ваяра, які праспаў тут тысячу гадоў. Спераду і ззаду чэрап моцна пашкоджаны, а ў руках ваяра баявая сякера. Да думку Алега Іова сякера — рэдкая і каштоўная знаходка. Ад драўлянага дрэўка нічога не засталося, а вось каванае жалеза толькі трохі заіржавела. Сякерка зусім не вялікая: па форме і памерах нагадвае пабытавы сякач для мяса. Але менавіта такой прымітыўнай зброяй у тыя часы перамагалі ворагаў у адкрытым двубоі. Таму ўладальнік такой зброі мусіў быць фізічна моцным, спрытным. Пра тое, што знойдзены ваяр быў малады, гаворыць цудоўны стан зубоў і добра захаваны касцяк пад 170 сантыметраў росту. Узнікае пытанне: чаму і як загінуў наш ваяр? Пра гэта можна толькі гадаць. Тураўскае княства, куды ўваходзіла тэрыторыя Старадарожчыны, у X стагоддзі актыўна ваявала з Кіеўскім. Тураўшчына належала Святаполку Акаяннаму. Ягонага бацьку, Яраполка, забіў кіеўскі князь Уладзімір, а цяжарную маці ўзяў сабе ў наложніцы. Калі Святаполк вырас, ён вырашыў адпомсціць за бацьку і пайшоў вайной на Кіеў.

За два гады раскопак у Старадарожскім раёне даследавана шэсць курганоў. Мяркуючы па знаходках, людзі, якія тут жылі ў X стагоддзі, належалі да славянскага племені дрыгавічоў перыяду ранняга хрысціянства. Яшчэ высветлілася, што далёка не ўсе старажытныя

**Нярэдка стагоддзі ператвараюць у пыл адзенне нябожчыка, ягоныя ўпрыгожванні з косці і дрэва. А вось метал, кераміка і камень захоўваюцца і даносяць сучасным археолагам карысную інфармацыю**

людзі былі дробнымі: знойдзеныя шкілеты, у асноўным, мужчын да дваццаці гадоў, загінулых падчас войнаў, малымі не назавеш. Але наперадзе яшчэ не адзін курган, і ў выніку яшчэ не адна таямніца...

### СЛЯДАМІ БОЖАЙ МАЦІ

Са старадаўніх часоў жыхары Старадарожчыны захоўваюць дзівосныя легенды і паданні пра найбольш загадкавыя, патаемныя мясціны і прыродныя помнікі.

Так, шмат дзе на Старадарожчыне ходзяць чуткі пра з'яўленне людзям самой Божай



*Крыж на Мір-Гары.*

Маці, а сведкамі такой падзеі з'яўляюцца цудадзейныя камяні. Адзін з такіх камянёў — следавік каля вёскі Старыя Дарогі. У цэнтры каменя выразна відаць след чалавечай нагі. Верагодна, жаночай, бо па сённяшніх мерках — 37-ы памер. Як расказваюць старэйшыя жыхары, гэты незвычайны помнік ляжаў раней паблізу старых могілак. Вяскоўцы заўсёды шанавалі камень, бо былі ўпэўнены, што на ім адбіты след Божай Маці, Яна і надала следавіку цудадзейную сілу — лекаваць людзей. Лічыцца, калі прыкласці нагу да адбітка, хвароба праз некаторы час адступіць. Па словах людзей, многія з тых, хто ўшанаваў камень і папрасіў дапамогі ў Багародзіцы, адужалі. Пасля меліярацыі камень знік, і доўга ніхто не ведаў, дзе ён знаходзіцца. Зусім нядаўна валун апынуўся паблізу вясковых могілак.

Таксама распавядаюць, што некалі каля вёскі Паставічы, па дарозе са Слуцка ў Бабруйск, ляжаў камень з незразумелымі знакамі. Каля каменя быў крыж, а на самім валуне знаходзіўся вобраз Божай Маці. Паданне распавядае пра аднаго моцна хворага чалавека, які пакутаваў ад нясцерпнай болі. Аднойчы ў сне яму з'явілася Багародзіца і ўказала месцазнаходжанне крыніцы, вадою з якой хворы мог ацаліцца. Чалавек знайшоў тую крыніцу, выпіў з яе вады і ачуняў. У падзяку паклаў каля крыніцы вялікі камень і ўсталяваў крыж.

Паводле сведчання мясцовых жыхароў, яшчэ адзін цудадзейны камень са следам Божай Маці знаходзіўся ў былыя часы на Святой гары каля вёскі Новы Рабак. Дарэчы, сам узгорак, які быў утвораны падчас перасоўвання ледавіка па нашых землях, вельмі шануецца ў наваколлі і з'ўляецца не толькі цікавым прыродным помнікам Старадарожчыны, але і яе сакральнай святыняй. Яго другая назва — Мір-Гара. Па меркаванні навукоўцаў, гара стала для нашых продкаў паганскім капішчам — месцам, дзе адбываліся рэлігійныя рытуалы язычнікаў. На паўднёвым схіле Мір-Гары знаходзяцца шматлікія курганы, яны, паводле легенды, лічацца пахаваннямі княжых ваяроў. Пасля бітвы або размовы яны заключалі мір, таму і гару, кажуць, так назвалі. Яшчэ паданне распавядае, што некалі на гары расла сасна, і аднойчы на ёй цудоўным чынам з'явіў-

ся абраз Божай Маці, Святую сасну пачалі ўшаноўваць. Цікавасць да гэтых мясцін узрастала яшчэ і таму, што побач з-пад зямлі бруіла крыніца з гаючай вадой, якая шмат каму дапамагла ад цяжкіх хвароб.

Мінаў час, і ад Святой сасны застаўся толькі пень, на які доўгі час раз на год, на Пакравы, сяляне зносілі масла, сыр, мёд, палатно. Пасля над гэтым пнём была пабудавана драўляная царква з купалам, якая насіла назву Свята-Пакроўская. Цікава, што царкву заснавала князёўна Соф'я Слуцкая, пра якую мы ўзгадвалі вышэй. Гэта адбылося ў XV стагоддзі. З таго часу на Пакравы тут пачалі адбывацца вялікія святы і кірмашы, сюды з'язджаліся сяляне, рамеснікі, купцы з вёсак і мястэчак Случчыны, Старадарожчыны, Любаншчыны. Калі ва ўзросце 26-ці гадоў пры родах Соф'я памерла разам з дзіцем, яна была далучана да ліку праваслаўных святых, а яе абраз змясцілі ў той царкве. І людзі, перш чым пачаць гандаль, маліліся Святой Соф'і Слуцкай. Пры савецкай уладзе ў 1933 годзе царква была разабрана атэістамі з вёскі Сорагі і больш ужо не аднаўлялася. У 1995 годзе на гэтым месцы ў памяць пра Соф'ю Слуцкую быў пастаўлены крыж, да якога і сёння прыходзяць вернікі.



*Шчыткавіцкая прошча.*

Сляды знаходжання на землях Старадарожчыны Божай Маці захаваліся і каля вёскі Шчыткавічы. Там, як кажа паданне, яна з'явілася ў лесе, і ўжо не адна, а са сваім немаўляткам — Ісусам Хрыстом. Гэта адбылося ў 1910 годзе. Месца, празванае ў народзе прошчай, адразу было прызнана святым, і кожную маладзіковую нядзелю тут збіраліся людзі, пераважна жанчыны. Яны прыносілі сюды ахвяраванні, маліліся і бралі жмені зямлі з таго месца, дзе, паводле аповедаў, ляжала боскае дзіцяня. У святочныя дні пасля абедні ў Шчыткавіцкай царкве святар і вернікі хрэсным ходам ішлі да прошчы, дзе служылі малебен. Праз некаторы час тут была пабудавана капліца. Яна, на жаль, не захавалася. Дарэчы, пясок з прошчы і сёння лічыцца лекавым, яму прыпісваюцца неверагодныя ўласцівасці — лекаваць вочы і жаночыя хваробы. А раней, хто жадаў вылекавацца, трэба было паставіць на прошчы крыж, а да яго прыбіць скрыначку для ахвяравання грошай.

**Мінаў час, і ад Святой сасны застаўся толькі пень, на які доўгі час раз на год, на Пакравы, сяляне зносілі масла, сыр, мёд, палатно**

Можна і надалей апісваць святыні Старадарожчыны, іх яшчэ шмат. Тут я пералічыла самыя вядомыя і толькі тыя, якія звязаны з культам Божай Маці. Даследчыкі мінулага кажуць, што хрысціянскія вераванні, звязаныя з Багародзіцай, пайшлі ад больш старажытных, прысвечаных язычніцкаму жаночаму боству. Калі так, гэтыя мясціны найбольш насычаны водгаласамі такіх старадаўніх вераванняў. І цікавасць да іх вымагае заняцца даследаваннем гэтай унікальнай з'явы нашай культуры.

*Алена МЕЛЬНІКАВА*

# ВУЗЛЫ ЖЫЦЦЯ ЗМІТРАКА БЯДУЛІ



*Змітрок Бядуля.*

Цялец (♉) — другі знак Задыяка, сімвалічным вобразам якога з'яўляецца бык, што напалову выходзіць з зямлі. Часам быка выяўлялі з крыламі і каменнай задняй часткай. Гэта сімвал пазбаўлення ад путаў матэрыі, калі чалавек навучыцца правільна з ёй абыходзіцца, не стане яе рабом, а будзе садзейнічаць упарадкаванасці свету. Тады ён здольны ўзляцець, узняцца над зямнымі задавальненнямі, адарвацца ад іх. Ключавое слова знака Цяльца — назапашванне (як матэрыяльнае, так і духоўнае). А галоўны кіраўнік — планета Венера (♀), што сімвалізуе каханне, прыгажосць, гармонію і матэрыяльны дабрабыт. Другі кіраўнік, Хірон (⚷), які адказвае за справядлівасць, раўнавагу, у Цяльцы амаль што не праяўляецца. Ён сімвалізуе тут літару закона.

Вядомы беларускі паэт і празаік Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік) якраз і нарадзіўся пад знакам Цяльца 23 красавіка 1886 года ў вёсцы Пасадзец Віленскага павета. У яго астралагічнай карце звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што амаль палова планет у ёй знаходзіцца ў вылучаным становішчы. Напрыклад, Месяц (☽), Сатурн (♄), Хірон, Юпітэр (♃) маюць найслабейшае становішча ў знаках, і ў жыцці Змітрака Бядулі, хутчэй за ўсё, маглі даваць слабасць пэўных якасцей, садзейнічаць развіццю комплексаў. А вось Венера і Празерпіна (]·[) наадварот, апынуліся ў найлепшым становішчы: давалі магчымасць для развіцця і эвалюцыі. Такі набор распалюсаваных планет не мог не стварыць асобу выключную, здольную на багатыя і litрознабаковыя перажыванні, а станоўчыя планеты далі магчымасць выліць гэтыя перажыванні ў творчасць.

Дарэчы, планеты Венера і Празерпіна ў касмаграме Змітрака Бядулі знаходзяцца ў злучэнні з абодвума Месяцовымі Вузламі — умоўнымі пунктамі, што атрымліваюцца ад перасячэння экліптыкі з плоскасцю арбіты Месяца. Разгледзім гэты фактар больш падрабязна. Верхні Вузел (☊), які вызначае напрамак эвалюцыйнага развіцця чалавека, знаходзіцца ў касмаграме Змітрака Бядулі ў знаку Панны (♍). Гэта значыць, што развівацца Самуіл Плаўнік павінен быў у бок цвярозага рацыяналізму, уліку дробязей, педантызму, аналізу, самаахвяравання, служэння. Прафесіі, характэрныя для такога становішча Узыходзячага Вузла, — гэта ўрач, навуковы даследчык, рэстаўратар, крыміналіст. У касмаграме Змітрака Бядулі ў злучэнні з названым вузлом знаходзіцца планета Празерпіна. Прычым злучэнне дакладнае, градус у градус. Забягаючы наперад, варта адзначыць, што гэтая планета ў карце нараджэння мае найвышэйшы кармічны статус — ажно плюс 10 балаў. Для параўнання заўважым, што астатнія планеты маюць значна слабейшыя паказчыкі — не вышэй за 5 балаў. Наогул, статус планеты плюс ці мінус 7 і больш балаў лічыцца *каралеўскім* і сустракаецца даволі рэдка. Гэта дае чалавеку велізарны станоўчы ці вельмі цяжкі адмоўны патэнцыял. У нашым выпадку моцная Празерпіна яшчэ больш павышае важнасць Верхняга Месяцовага Вузла.

Цяпер звернем увагу на Заходзячы Вузел (☋). Ён дэманструе назапашаны продкамі чалавека досвед. Гэты вузел у касмаграме

Змітрака Бядулі знаходзіцца ў знаку Рыб (♓) і паказвае, што пісьменніку былі добра знаёмыя таямніцы міфалогіі, рэлігіі, містыкі, было даступным пачуццё вышэйшай гармоніі і прыгажосці. Сярод Рыб шмат рэлігійных дзеячаў, мастакоў, музыкаў, містыкаў і нават шпіёнаў. У знаку Рыб у злучэнні з Заходзячым Вузлом знаходзіцца планета Венера. Тут яна мае становішча, якое называецца *экзальтацыяй*, надзяляе чалавека здольнасцю да вялікіх пачуццяў і тонкіх перажыванняў. А яшчэ Венера ў Рыбах дае асаблівую далікатнасць, што пацвярджаюць усе ўспаміны пра Змітрака Бядулю. Такім чынам, па касмаграме з аднаго боку мы бачым усеабдымную гармонію, пачуцці, містыку і міфалогію, а з другога — цвярозы разлік, скрупулёзнасць і дасканаласць у дробязях, прагматызм. Чалавек з такім становішчам Месяцовых Вузлоў павінен трымаць гэтыя процілегласці ў раўнавазе. Выканаўшы сваю эвалюцыйную праграму па Верхнім Вузле, ён са спакойным сумленнем можа займацца справамі па Ніжнім Вузле. А калі не, то будуць узнікаць перашкоды, хваробы, а ў выключным выпадку можа здарыцца і смерць. З іншага боку, калі чалавек выконвае сваю праграму па Верхнім Вузле, то на чарговым вітку Месяцовых Вузлоў яму адчыняюць дзверы да шляху наперад, ён нібыта атрымлівае другое дыханне і рухаецца далей. Што ж, мы бачым велізарны патэнцыял і з аднаго, і з другога боку, але ўсё-такі ў жыцці пісьменніка пераважыла праграма Заходняга Месяцовага Вузла ў Рыбах. У ягонай творчасці шмат казачнага, міфалагічнага і містычнага, а па стылі крытыкі адносяць творы Бядулі да сімвалізму і экспрэсіянізму. Такім чынам, праграмма названага знака была адпрацавана пісьменнікам дасканала. Пасля разгрому літаратурных суполак у пачатку 30-х гадоў. Змітрок Бядуля «сышоў у падполле». Язэп Пушча згадваў, як ён баяўся сустрэч з крытыкам-пагромшчыкам Лукашом Бэндэ («Страшны чалавек. Як яго зямля трымае»). У 1930-я Змітрок Бядуля пісаў творы для дзяцей.

З авестыйскай астралогіі вядома, што калі на вяртанне Вузлоў чалавек трапляе ў цяжкія сітуацыі, гэта трэба расцэньваць, як пакаранне за адхіленне ад свайго эвалюцыйнага шляху. Калі ж лёс з чалавекам паступае жорстка на проціфазе Вузлоў — гэта расплата за бяздзеянне, пасіўнасць, грэбаванне назапашаным досведам. Месяцовыя Вузлы з’яўляюцца не паказчыкамі граху, а толькі індыкатарамі ўнутраных працэсаў, і кожнае іх вяртанне ці проціфаза — гэта падвядзенне вынікаў.



*Касмаграма Змітрака Бядулі.*

Мы ведаем, што смерць пісьменніка прыйшлася на ўзрост 55 гадоў. Смерць раптоўная, недарэчная і неспадзяваная. А гэта якраз час вяртання на сваё месца Месяцовых Вузлоў. Ці мог Змітрок Бядуля не пісаць, не задзейнічаць праграму знака Рыб? Не, не мог. Але, каб рухацца ў гэтым кірунку, яму патрэбна было напрацоўваць і праграму знака Панны. Шлях Верхняга Вузла для чалавека заўсёды цікавейшы — праз яго пазнаецца новае. Шлях па Ніжняму Вузлу часта сумны і нецікавы — усё знаёма, лёгка, без праблем. Перыяды эвалюцыйнай працы па знаку Рыб, з боку гледжання астралогіі, павінны былі прыходзіцца на гады жыцця з 9-га па 18—19-ты, з 27—28-га па 37—38-ы і з 46—47-га па 55—56-ы. Дарэчы, крытыкі заўважаюць, што найбольш плённымі для пісьменніка былі гады з 1918 па 1922, і менавіта перад трыццацісямігоддзем і другім зваротам Кармічных вузлоў. А перыяды з 18—19-га па 27—28-ы, з 37—38-га па 46—47-ы і, мяркуючы, пасля 55—56-га павінны былі адыгрaцца па знаку Панны. Магчыма, яму трэба было больш займацца крытыкай, мова- ці літаратуразнаўствам, вывучаць заканамернасці пабудовы літаратурных твораў, працаваць рэдактарам дзесьці ў часопісе, пісаць басні ці дэтэктывы. А магчыма, ён, як і Чэхаў, мог бы лячыць людзей. Але гэта толькі верагоднасці. Жыццё таго часу было вельмі няпростым, і не нам судзіць тых, хто жыў і працаваў у той складаны час.

# ЯК БЫЦЦАМ ШПАЦЫРУЕШ ПА МАЙСТЭРНІ

## КЛАСІЧНАСЦЬ АБСУРДУ

***Жыбуль, В. Стапеліі : вершы / Віктар Жыбуль. — Мінск : Галіяфы, 2012. — 220 с.***

Неяк у нас ужо звыклі ставіцца да былых «бум-бам-літаўцаў» з паблажлівасцю. Маўляў, што добрага могуць яны напісаць — адны гульні, да таго ж старыя, у якія гуляліся яшчэ сто гадоў таму.

На гэтым фоне амаль незаўважнай рызыкуе прайсці вельмі таленавітая, на мой погляд, кніга Віктара Жыбуля.

Гэта сапраўды знакавая для яго работа. Кніга пісалася доўга і пакутліва. Юрась Барысевіч у прадмове адзначае, што «гэтую кнігу паэзіі Віктар Жыбуль рыхтаваў да друку некалькі разоў: упершыню — яшчэ ў 1998 годзе пад назвай “Finita la tragedia”, потым — у 2000-м. пад назвай “Магіла гарбатага”, але тады яна з-за розных прычын не змагла ўбачыць свет. Такім чынам, да чытача дайшла ўжо трэцяя версія зборніка — удасканаленая і дапоўненая новымі вершамі». Безумоўна, на той час зборнік выглядаў бы натуральна. Быў бы своечасовым. Тым не менш ён спазніўся. І тут ужо трэба разбірацца, чаму авангардная па сваім змесце, замкнёная ў эстэтыцы беларускай паэзіі другой паловы 1990-х, кніга і сёння — актуальная.

Адказ хаваецца ў самой прыродзе верша Віктара Жыбуля, у авангардным характары яго паэзіі. Зазвычай, кажучы пра авангардную лірыку, уяўляеш сабе хаатычны набор сінестэтычных тропаў, калейдаскоп імгненных адчуванняў, зафіксаваных у вершы, звязаных выключна асацыятыўным чынам. У сувязі з гэтым вобразнасць у вершы становіцца ўскладненай, бо кожны новы троп паўстае новым вобразам, які счапляецца з наступным без рэверансаў у бок фармальнай логікі.

Вобразнасць у Віктара Жыбуля, хай гэта і падасца трохі парадаксальным, — не авангардысцкая. Можна нават сказаць, ужыўшы ўлюбёную прыстаўку крытыкаў, што яна паставангардысцкая.

Мне падаецца тут слушным правесці паралель з прозай Альгерда Бахарэвіча, з якой эстэтыка *менавіта гэтай* кнігі Жыбуля відавочна перагукаецца. Праз тое, што рэчаіснасць, выяўленая ў тэкстах абодвух аўтараў, практычна аднолькавая, і здаецца абсурднай толькі тым, хто не можа прачытаць горкую праўду паміж сімвалаў і пакручастых, разгорнутых метафар.

Стапеліі — гэта прыгожыя экзатычныя кветкі з надзвычай непрыемным пахам. Такім парадкам, ужо і назва рыхтуе чытача да парадаксальнасці аўтарскага мыслення. Папярэднія назвы няздзейсненай кнігі, агучаныя Юрасём Барысевічам і мною вышэй працытаваныя, больш празрыста намякалі на змест. У зборнік увайшлі спецыфічныя, найбольш змрочныя вершы Віктара Жыбуля. Часта гэта самыя натуральныя «страшылкі», якімі ў дзяцінстве зачытваўся ці не кожны з нас.

Слушна было б адзначыць, што ад «страшылкі» і вядзецца пункт адліку. Свая паэтыка ёсць і тут, яна Жыбулем адчуваецца і пераймаецца вельмі добра. У той жа час парадаксалізм, закладзены ў «класічнай страшылцы», тут, у аўтарскай творчасці, завастраецца і ставіцца «на чырвоны кут». Вершы не размеркаваны ў храналагічным парадку (пад кожным творам — даты, ад 1995 да 2011 года), а ўкладзены аўтарам у чатыры адмысловыя раздзелы. Трэба думаць, кожны з раздзелаў уяўляецца аўтарам як сэнсава-тэматычнае адзінства (калі гэта, канечне, не чарговая жыбулеўская іранічная дэканструкцыя).

Паэтыка зборніка вельмі цікавая, таму яна патрабуе асобнай гаворкі. Пакуль жа адзначым, што ў вершах 2000-х гадоў і асабліва апошняга часу паэтычнае бачанне ады-

ходзіць ад чыстай парадаксальнасці ў бок катастрафізму. З увагі на цэласнасць вобраза вершы гэтыя падаюцца найбольш спелымі творамі Жыбуля.

## АРХІЎНЫ БЫКАЎ

***Быкаў, В. Гарадзенскі архіў : Невядомыя творы (1957—1972). Незавершанае. Нататнікі / Уклад., прадм. і камент. С. Шаррана. — Гродна—Вроцлаў, 2012. — 446 с.***

Прадстаўляць Васіля Быкава не трэба. Маштаб асобы і ўнёсак у нацыянальную літаратуру ўсім зразумелыя. Варта толькі сказаць, што менавіта гэтаму пісьменніку пашэнціла на даследчыкаў. Яго творчасць вывучаецца на высокім узроўні.

Сапраўды ўнікальная па характары кніга пабачыла свет у серыі «Гарадзенская бібліятэка». Уклаў яе і адкаментаваў Сяргей Шапран — аўтар двухтомнай кнігі «Васіль Быкаў: Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах» (2009). Том наватарскі, бо цалкам архіўны. Склалі яго неапублікаваныя рукапісы Васіля Быкава, перададзеныя Сяргею Шапрану для вывучэння і публікацыі сынамі вядомага пісьменніка — Сяргеем Васільевічам і Васілём Васільевічам. Па сутнасці, гаворка ідзе пра ладную частку асабістага архіва Быкава, гэта — «перадгісторыя і самы пачатак вялікай быкаўскай эпапеі» (С. Шапран). Зразумела, што гродзенскі архіў змяшчае не толькі невядомыя творы, публікацыя якіх, безумоўна, — значная і важная справа. Але адшуканы і арыгіналы вядомых твораў пісьменніка. Паводле ўкладальніка, гэта «машынапісы апавяданняў “Сляды на зямлі”, “Сабакі”, “Салдацкі лёс”, “Ранак-світанак”, аповесць “Круглянскі мост”, а таксама аўтарызаваны яе пераклад на рускую мову, пераклады “Сотнікава” і “Праклятай вышыні”, фрагмент драмы “Решение” і літаратурны сцэнарый трохсерыйнага тэлефільма “Долгие версты войны”. Сярод іншага сустракаецца ранняя машынапісная рэдакцыя аповесці “Абеліск”, якая, як высвятляецца, першапачаткова называлася “Начная дарога” (…) Тут жа, у вялікім стосе пажаўцелых папер, шматлікая публіцыстыка…» Таксама знойдзены працоўныя запісы Быкава: выпіскі з цытатамі, чарнавікі, планы будучых твораў. І гэта надзвычай цікавы матэрыял. Хоць і не ў поўным аб’ёме, але ўкладальнік цытуе яго ў прадмове і каментарыях. Прынамсі, дае ўяўленне пра характар тэкстаў.

Частка гэтых падрыхтоўчых матэрыялаў увайшла ў кнігу як асобны раздзел — «Нататнікі». Ідучы за пункцірам паасобных запісаў, як быццам шпацыруеш па творчай майстэрні Быкава. Захапляльнае відовішча. У прыватнасці, найбольш звяртаюць увагу подступы да аповесці на сацыяльна-побытавую тэматыку. Увогуле, пошук тэматыкі — асноўны стрыжань нататнікаў. Меладраматычныя побытавыя сюжэты мяжуюць тут з лапідарнымі замалёўкамі франтавых сітуацый. Калі чытаеш «побытавыя сюжэты», то міжволі ўзнікае думка пра падабенства з Шамякіным. Толькі, мусіць, Быкаў самастойна ўбачыў і адчуў важнасць «сваёй» тэмы, хоць яна, як сведчаць нататнікі, не адразу стала «сваёй». А магла і наогул не стаць.

Невядомая быкаўская спадчына ў кнізе «Гарадзенскі архіў» прадстаўлена ў самых розных жанрах: аповесць («Атака»), апавяданне («Жалезны камандзір»), кінасцэнарый («Двое в ночи»), мемуар («Напісаць сваю біяграфію»), прыпавесці.

Наконт апошніх адбыўся нават казус. Справа ў тым, што некаторыя літаратуразнаўцы выводзілі наўпроставую лінію ў творчым метадзе пісьменніка, згодна з якой прыпавесці 1990—2000-х гадоў з’яўляліся заканамерным вынікам у эвалюцыі Быкава-мастака. А з адкрыццём прыпавесцей Быкава 1950—1960-х гадоў гэтая наўпроставая лінія разрываецца. Прынамсі, у канцэпцыю трэба ўносіць істотныя ўдакладненні. Што ў чарговы раз даказвае важнасць гісторыка-літаратурных штудый. Пошук, адкрыццё і публікацыя новазнойдзеных тэкстаў часам могуць цалкам змяніць уяўленне пра пісьменніка.

Кніга багата ілюстраваная. Тэксты друкуюцца ў арыгінальнай аўтарскай рэдакцыі, напісаны яны на беларускай і рускай мовах. Публікацыі кожнага твора спадарожнічае разгорнуты біяграфічны і тэксталагічны каментарый.

***Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ***

# ЛІТАРАТУРНЫЯ МЯСЦІНЫ БЕЛАРУСІ*

## СЛУЦКІ РАЁН

### Горад Слуцк

**Галубок Уладзіслаў** (3(15).5.1882—28.9.1937), тэатральны дзеяч, драматург, рэжысёр, акцёр, мастак, ураджэнец ст. *Лясная* Баранавіцкага р-на Брэсцкай вобл. У 1920-х гадах узначальваў Драматычную секцыю культурна-асветніцкага гуртка «Папараць-кветка» ў Слуцку.

**Гучка Яўгена** (н. 4.5.1941), паэта, радзіма. Скончыў БДУ і аспірантуру пры ім. Працаваў у школе, выдавецтве «Народная асвета». Аўтар кніг паэзіі «Сэрцам і думкай», «Формула травы», «На патрэбу душы» і інш.

**Дубінкі Вячаслава** (17.12.1941-10.8.2010), пісьменніка, радзіма. Скончыў Чарнавіцкі тэхнікум чыгуначнага транспарту (1961). Працаваў на будоўлі, фотакарэспандэнтам. З 1981 г. — у часопісе «Беларусь». Аўтар фотанарысаў, апавяданняў, публіцыстычных артыкулаў, эсэ, фотаальбомаў «Бабруйск» (1968), «Нясвіж» (1968), «Магілёў» (1971), «Брэст» (2-е выд., 1979), кніг прозы і публіцыстыкі «Паплач ля роднае крынічкі» (1981), «Не плач, душа мая» і «Ой, зялёны дубочак...» (1983), «Браты святой ночы» (1986), «Развітальная песня» (1989), «Сіндыкат Мані Дулі» (1992). Зрабіў літаратурны запіс дакументальнай аповесці П. Ратайкі «На жыццёвых кручах» (1985). Майстар выцінанак.

**Дылы Язэпа** (Восіпа; псеўд. Назар Бываеўскі, Тодар Кулеша і інш.; (2(14).4.1880—7.4.1973), пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі (1890—1898), Юр’еўскім ветэрынарным інстытуце (г. Тарту, 1899—1903), адкуль выключаны за ўдзел у студэнцкіх хваляваннях. У 1903—1904 гг. працаваў у газеце «Северо-Западный край» (Мінск). У 1905 г. вёў нелегальную работу сярод сялян. У 1906—1918 гг. працаваў у выдавецтвах Пецярбурга, Арэнбурга, Казані, Масквы. У студзені-лютым 1919 г. камісар працы ў Часовым рабоча-сялянскім урадзе Беларусі. У 1921—1924 гг. — на розных кіруючых пасадах у Мінску. З 1924 г. правадзейны член і вучоны сакратар Інбелкульта, дырэктар Інстытута па вывучэнні мастацтва, дырэктар БДТ-1, намеснік загадчыка Белдзяржкіно. У 1930 г. рэпрэсіраваны. З 1931 г. жыў у Саратаве. Рэабілітаваны ў 1957 г. Друкаваўся з 1909 г. Аўтар драматычных твораў «Пінскі гайдук» (паст. у 1924, выд. у 1926), «Падуанскі студэнт» (апубл. у 1981, пра Ф. Скарыну, не закончаны), «Юнак з Крошына» (1965, пра П. Багрыма), рамана «На шляху з варагаў у грэкі» (не закончаны), гістарычнай аповесці «Настасся Мякота» (1968, пазнейшая назва «У імя дзяцей»), успамінаў пра Альгерда Абуховіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, прац пра тэатральнае жыццё Беларусі ў канцы XIX — пач. XX ст. Пад псеўданімам А. Дыла выдаў кніжкі для дзяцей «Храбры Юрка» (1934), «Белачка» (1935).

**Корбута Вячаслава** (н. 2.7.1972), паэта, радзіма. У 1994 г. скончыў філалагічны факультэт БДУ. Працаваў у часопісе «Першацвет», СШ № 56 г. Мінска, ГА «Беларускі літа-

---

* Працяг. Пачатак у № 10—12 за 2007 г., № 1—12 за 2008 г., № 1—10, 12 за 2009 г., № 1—7, 9—12 за 2010 г., № 1—11 за 2011 г.

ратурны фонд», ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», выдавецтве «Галіяфы». Аўтар зборнікаў вершаў «Цар — алень» (1997), «Чаму ўсміхаецца сонца» (2005), кнігі паэзіі і прозы «Начны мастак», якая выйшла ў бібліятэцы часопіса «Маладосць» (1999). Жыве ў Мінску.

**Кошаля Пятра** (н. 20.4.1946), рускага паэта, радзіма. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве (1979). Друкуецца з 1963 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Лістота» (1979), «Гарадская зорка» (1981), «Рака Жыццё», «Такі як ёсць» (абодва 1987) прысвечаных Беларусі. Аўтар кніг дакументальнай прозы «Гісторыя пакаранняў у Расіі. Гісторыя расійскага тэрарызму» (1995), «Гісторыя вышуку ў Расіі» (Т. 1—2, 1996). Пераклаў на рускую мову кнігі выбраных вершаў Р. Баравіковай «Светнік» (1982) і Цёткі «Выбранае» (1986), пераклаў і склаў анталогіі беларускіх паэтаў 1920—30-х гадоў «Час ветравея» (1987) і беларускай дзіцячай літаратуры «Чарадзейная крынічка» (1997). Жыве ў Маскве.

**Мэндэле Мойхер Сфорым** (сапр. Абрамовіч Шалом Якаў, 20.12.1836—8.12.1917), яўрэйскі пісьменнік, ураджэнец г. п. *Капыль*, вучыўся ў слуцкім ешыбоце.

**Мужылоўскі Андрэй,** пісьменнік-палеміст, рэлігійны дзеяч (месца нараджэння невядома), з канца 1620-х гадоў быў слуцкім пратапопам.

**Незабітоўскі Станіслаў,** кальвінскі грамадскі дзеяч, мемуарыст, ураджэнец в. *Ятра* Навагрудскага р-на Гродзенскай вобл., доўгі час жыў тут. У 1668 г. ажаніўся ў Слуцку з дачкой Рыгора Мірскага Марыяннай.

З пачатку 70-х гадоў рэзідэнцыяй С. Незабітоўскага быў Слуцк, дзе ён жыў з сям'ёй. У сваіх мемуарах ён апісаў падзеі 1682—1700 гг. на Случчыне.

**Зоя Падліпская** (нар. 7.10.1964), паэтэса, ураджэнка в. *Сярагі* гэтага ж р-на. Працуе галоўным рэдактарам часопіса «Роднае слова», член Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Удзельніца літаратурных семінараў маладых літаратараў Міншчыны 1993, 1995, 1997 гг., Рэспубліканскага семінара паэтаў і празаікаў у Іслачы (1999). Аўтар васьмі калектыўных і двух асабістых зборнікаў паэзіі «Палон нябёсаў» (1998), «У вэлюме завей» (2005).

**Родчанка Рыгор** (15.7.1929—20.2.1994), беларускі краязнавец, педагог, ураджэнец с. *Няхаева* Луганскай вобл. (Украіна). Аўтар некалькіх кніг па краязнаўстве Слуцкага краю. Сярод іх — «Слуцкая старасветчына (факты і разважанні)» (1991). Пахаваны ў в. *Цімкавічы* Капыльскага р-на. **Яўген Гучок** выдаў пра гэтага краязнаўца кнігу «Ах, Родчанка!» (2011).

**Рудніцкі Дамінік** (4.8.1676—10.10.1739), ураджэнец Усходняй Беларусі (дакладнае месца невядома), беларускі і польскі паэт, выкладаў у мясцовым езуіцкім калегіуме.

**Сматрыцкі Мялецій** (каля 1577—27.12.1633), грамадска-палітычны і царкоўны дзеяч, пісьменнік-палеміст, ураджэнец мяст. *Смотрыч* (цяпер Дунаявецкі р-н Хмяльніцкай вобл., Украіна), у 1576—1578 гг. жыў пры двары слуцкага князя.

**Чарноцкі Напалеон,** ураджэнец в. *Нача* Ляхавіцкага р-на Брэсцкай вобл., вучыўся у Слуцкай гімназіі (1887), уваходзіў у тайны гурток самаадукацыі. У 1885 г. у Слуцку ўдзельнічаў у перакладзе на беларускую мову і выданні ў Тыльзіце (Прусія) на гектографе першага варыянта рэвалюцыйнай брашуры «Дзядзька Антон». Затым некалькі гадоў працаваў бібліятэкарам школьнай бібліятэкі.

**Шантыра Фабіяна** (23.1(4.2).1887—29.5.1920), пісьменніка і публіцыста, грамадскага дзеяча, радзіма. Працаваў прыватным адвакатам і настаўнікам. У 1907 г. за рэвалюцыйную дзейнасць прыцягваўся да судовай адказнасці. З 1914 г. — у арміі. Працаваў адміністратарам ваеннай бальніцы ў Бабруйску. Чытаў лекцыі ў Бабруйскай мужчынскай гімназіі. У 1916—17 гг. удзельнічаў у рабоце клуба «Беларуская хатка». З 1918 г. у Чырвонай Арміі. У 1918 г. загадваў Смаленскім аддзяленнем Белнацкама, у студзені 1919-га камісар па нацыянальных справах Часовага рабоча-сялянскага Савецкага ўрада Беларусі. У 1920 г. разам з А. Чарвяковым і В. Кнорыным уваходзіў у Беларускую рэдакцыйную калегію

ЦК КП(б) Літвы і Беларусі. Друкаваўся з 1909 г. Пісаў на беларускай, польскай і рускай мовах. Аўтар вершаў і апавяданняў, публіцыстычнай працы «Беларускае пытанне» (1918, рукапіс не захаваўся). Адзін з аўтараў калектыўнага зборніка «Зажынкі» (1918). Пераклаў на беларускую мову палітычную брашуру К. Лібкнехта «Павукі і мухі» (1920). Муж З. Верас, герой п'есы пра яе. У 1920 г. рэпрэсіраваны і прыгаворны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны ў 1992 г.

* * *

Пры **Слуцкай раённай бібліятэцы** працуе літаратурна-музычная гасцёўня «Алімп».

* * *

**Вёска Астрашын,** не існуе, месца знаходжання не ўстаноўлена, магчыма, гэта неіснуючая в. *Асташына* на тэрыторыі цяперашняга Клецкага р-на.

**Белаблоцкага Браніслава** (1861—14.4.1888), рэвалюцыянера, сацыёлага, літаратурнага крытыка, перакладчыка, радзіма. Скончыў Мінскую гімназію. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Удзельнічаў у рабоце гурткоў «Народнай волі». З 1882 г. — у Варшаве, супрацоўнічаў з дзеячамі партыі «Пралетарыят», вёў рэвалюцыйную прапаганду. Друкаваўся ў газеце «Przegłęd Tygodniowy» («Штотыднёвы агляд») і часопісе «Ateneum» («Атэнэум»).

**Вёска Балотчыцы** Беліцкага сельсавета

**Алешкі Антона** (19.1(1.2).1913—13.9.1971), пісьменніка, радзіма. Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. Скончыў у 1931 г. двухгадовыя педагагічныя курсы пры Слуцкім педагагічным тэхнікуме і да 1935 г. настаўнічаў у мястэчку Лапічы Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. Скончыў Ваенна-медыцынскую акадэмію імя С. Кірава (1941). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля вайны служыў урачом у часцях знішчальнай авіяцыі. Дэмабілізаваўся ў 1963 г. Жыў у Мінску. Друкаваўся з 1932 г. У 1938—1939 гг. часопіс «Полымя» змясціў некалькі апавяданняў і аповесць «Маладосць». Выйшлі кнігі аповесцей, апавяданняў «Раніца» (1949), «Іх першых вітае сонца» (1957), «Пяць сутак» (1959), «Над намі мільён вышыні» (1965), раман «Дарогі без слядоў» (1969), зборнік выбраных твораў «Неба на замку» (1974).

**Вёска Баславічы**, да 1964 г. у Знаменскім сельсавеце

**Ліхадзіеўскага Сцяпана** (26.4(9.5).1911—13.2.1979), беларускага і рускага паэта, літаратуразнаўца, крытыка, перакладчыка, радзіма. Скончыў Томскі педінстытут (1939). У 1939—1963 гг. — выкладчык Ташкенцкага педінстытута, з 1963 г. — загадчык кафедры Узбекскага рэспубліканскага педінстытута рускай мовы і літаратуры (Ташкент). Друкаваўся з 1925 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Рокаты далёкай прыстані», «Чырванеюць вішні» (абодва 1931), «Крывавыя знічкі на снезе», «Мы — маладая гвардыя» (абодва 1932), «Берасцянка жывых трывог» (1962), «Вянкі камунарам» (1974), «Чырвоныя макі» (1981); літаратурнакрытычных кніг «Анатоль Франс: очерк творчества» (Ташкент, 1962), «Поиски сердолика» (Ташкент, 1973), «Радость встреч: Сборник литературно-критических статей» (Ташкент, 1977). Памёр у Ташкенце, там жа пахаваны.

**Пасёлак Бязверхавічы** Акцябрскага сельсавета

**Крушыны** (сапр. Казак) **Рыгора** (3.12.1908—27.3.1979), пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў Мінскім педінстытуце (1920-я гады). Скончыў Маскоўскі інстытут кінематаграфіі (1935). У Вялікую Айчынную вайну супрацоўнічаў з нямецка-фашысцкімі акупантамі; друкаваўся ў «Беларускай газэце», «Беларускім работніку», «Раніцы». З 1944 г. — у Германіі,

у 1950—1960-я гг. працаваў на радыёстанцыі «Свабода». З 1960-х гадоў — у ЗША. Друкаваўся з 1925 г. Аўтар кніг «Паэзія чырвонаармейца» (1931), «Лебедзь чорная» (1947), «Вячорная лірыка» (1963), «Хвіліна роздуму» (1968), «Вясна ўвосень» (1972), «Дарогі» (1974), «Сны і мары» (1975), выбраных твораў (Нью-Йорк; Мюнхен, 1957). Пахаваны на могілках у Іст Брансвіку пад Вашынгтонам.

**Мурашкі Рыгора** (3(16).6.02.1902 — крас.1944), пісьменніка, радзіма. Вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі (1917—1918). Скончыў інструктарскія курсы пры Наркамаце ўнутраных спраў Беларусі (1920). У 1921—1924 гг. на савецкай і партыйнай рабоце. З 1926 г. — адказны сакратар часопіса «Бальшавік Беларусі», у 1930—1933 гг. — у Дзяржаўным выдавецтве БССР. У Вялікую Айчынную вайну — удзельнік мінскага падполля, з восені 1943 г. — у партызанах, разведчык пад псеўданімам Мікіта. Загінуў у час прарыву нямецка-фашысцкай блакады партызан на Лагойшчыне. Друкаваўся з 1924 г. Аўтар кніг «Стрэл начны ў лесе» (1926), «У іхным доме» (1929), «Сын» (1929, 3-е выд. 1957), «Пагранічны манастыр» (1930), «Званкі» (1931), «Рузікі» (1932), «Мюдаўская ноч» (1934), «Салаўі святога Палікара» (1940, 1967), «Таварышы» (1942, пад псеўд. Максім Загорскі), «Насуперак лёсу» (1942, пад псеўд. Мікалай Дуброўскі). Каля дома, у якім нарадзіўся Р. Мурашка, у 1974 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

У мясцовай школе існуе краязнаўчы музей. У ім — матэрыялы пра Рыгора Мурашку, ёсць вуліца імя пісьменніка.

**Вёска Бялевічы** Рачкавіцкага сельсавета

**Сержпутоўскага Аляксандра** (21.6.1864—5.3.1940), фалькларыста, этнографа, публіцыста, мовазнаўца, радзіма. Аўтар «Нарысаў Беларусі», прысвечаных звычаям і побыту беларусаў. Фальклорныя творы запісваліся ім у паўднёвай частцы Слуцкага і паўночнай — Мазырскага паветаў. Памёр і пахаваны ў Ленінградзе.

**Вёска Вялікая Сліва** Казловіцкага сельсавета

**Санько Валеры** (н. 29.8.1939), пісьменніка, радзіма. Скончыў Баранавіцкае медвучылішча (1958), БДУ (1967), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1978). Вучыўся ў Мінскім медыцынскім інстытуце (1964—1965). Працаваў фельчарам. З 1964 г. працаваў у рэдакцыях газет «Чырвоная змена», «Звязда», намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Здравоохранение Белоруссии», з 1972 г. — у выдавецтвах «Беларусь», «Народная асвета», «Полымя». У 1992—2006 гг. — дырэктар Беларускага выдавецкага таварыства «Хата». Друкуецца з 1958 г. Аўтар зборнікаў апавяданняў і аповесцей «Жыватворныя крыніцы» (1979), «Знаёмства» (1982), «Усё скончана: мы прайшлі па Маскве» (1993), «Не плач, маці» (1995), «Дахаты пойдуць усе» (1999), «Ненадрукаванае. У белдзяржлітструктурах» (2009), рамана «Звіняць жаўрукі ў чарнобыльскім небе» (2010), навукова-папулярных кніг.

**Вёска Грэск**, цэнтр сельсавета

**Клебановіча Міхася** (н. 14.3.1934), пісьменніка, радзіма. Скончыў БДУ (1957). Працаваў на Беларускім тэлебачанні. Заслужаны работнік культуры БССР. Друкуецца з 1971 г. Аўтар аповесцей «Іван Аляксеевіч» (1980), «Ранішняе сонца: Апавяданні і аповесць» (1981), «Манька» (1985), «Імярэк» (1992), п’ес «Аплявуха» (паст. 1960), «Санітарны дзень» (паст. на Беларускім радыё ў 1994), «Збродныя душы» (1997); сцэнарыяў тэлефільмаў: дакументальных «Вясёлка над полем» (1968), «Размова пра зямлю» (1971), «Салдаты перамогі» (1975), мастацкіх «Вера» (1993), «Варыяцыі» (1995); апавяданняў.

**Міклашэвіч Ганна** (н. 29.7.1973), паэтэса, пражывае тут. Працуе ў Грэскай СШ. Аўтар зборніка вершаў «Калыханка для дваіх».

**Вёска Еўлічы** Акцябрскага сельсавета

**Віткі Васіля** (сапр. Цімох Крысько; 3(16).5.1911—5.7.1996), паэта, радзіма. Нарадзіўся ў сям'і беззямельнага селяніна. Скончыў Слуцкую прафтэхшколу (1928). Працаваў у рэдакцыях газет і часопісаў, сакратаром Беластоцкага аддзялення СП БССР (1939—1941). З 1948 г. — намеснік, з 1951 г. галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у 1957—1974 гг. — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка». Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы (1972). Друкаваўся з 1928 г. Аўтар зборнікаў «Гартаванне» (Масква, 1944), «Поўдзень» (1946), «Вернасць» (1953), «Ружа і штык» (1958), «Паверка» (1961), «Вершы» (1968), «Беларуская калыханка» (1971), «Праводзіны лета» (1972), «Вышыні святла» (1977), выбраных твораў у 2 тамах (1973), «Трэцця пеўні» (1988). Значнае месца ў творчасці паэта займаюць сатырычныя вершы, пародыі, эпіграмы («Для дома, для альбома і трохі для эпохі», 1983). Аўтар п'ес «Апрамень будучыні» (1951), «Шчасце паэта» (1950, паст. Беларускім тэатрам імя Янкі Купалы, 1952), апавяданняў, артыкулаў пра беларускіх пісьменнікаў. У 1977 г. выдаў кнігу дзённікаў, нарысаў і апавяданняў «Дзеці і мы». Адзін з аўтараў чытанкі «Роднае слова» для 1 (1969), 2 (1970), 3 (1988) класаў. Для дзяцей напісаў вершаваныя казкі «Вавёрчына гора» (1948), «Буслінае лета» (1957), «Казка пра цара Зубра» (1960), кнігі «Дударык» (1964), «Азбука Васі Вясёлкіна» (1965), «Чытанка-маляванка» (1971), «Хто памагае сонцу» (1975), «Мы будуем метро» (1979), «Мінскія балады» (1981), зборнік апавяданняў «Зайчык-вадалаз» (1962), зборнік народных пацешак «Ладачкі-ладкі» (1977), «Дзецям: Выбраныя творы» (Т.1-2, 1986). Даследаваў праблемы выхавання («Урокі», 1982; «Азбука душы», 1988). Дзяржаўная прэмія Беларусі 1972 г. за кнігу «Чытанка-маляванка», «Казкі» (1968) і паэму «Беларуская калыханка» (1971). Ганаровы дыплом Міжнароднага журы па прэміях Х. К. Андэрсэна (1978) з занясеннем імя паэта ў ганаровы спіс дацкага пісьменніка. На беларускую мову перакладаў творы рускіх, латышскіх аўтараў. 15—16 мая 2008 г. у Слуцку адбыліся першыя Віткаўскія чытанні.

У прадмове да сваёй кнігі «Случчына» (1981) В. Вітка піша: «Бацькаўшчына майго маленства і юнацтва, матчына калыска майго слова і песні, я думаў пра цябе ўсё жыццё — блізка ад родных сцежак і на дарогах далёкіх вандровак... Памятаю дзедаву хату. Яе акенцы былі выпілаваны на шырыню роўна аднага бервяна. І хоць мы жылі ў асяродку, наша хата была самай крайняй пры забалочанай лугавіне, якая грэбляю дзяліла вёску напал... Случчына, ты — запаветная паэма мая, якую я пішу ўсё жыццё, збіраю па словах, па радках».

*Дзмітрый КРЫВАШЭЙ, Адам МАЛЬДЗІС*

*Працяг у наступным нумары*



# Бярозка

№ 5/2012(1008)


ЖДИ МЕНЯ

В краткой передышке после боя,
При мерцаньи бледного огня
Я хочу поговорить с тобою,
Написать: «Родная, жди меня!
Ждать тебе останется недолго,
Мы идем в последний, жаркий бой.
Будет время — городок на Волге
Вновь увидит вместе нас с тобой.
И за час грядущей нашей встречи,
За страну родную, за любовь
Бью врага, кромсаю и калечу
Проливаю я на поле боя кровь».








**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**






# Жыццё ў чаканні цябе






...Майскай раніцай я насцеж расчыніла акно. Свежы вецер бестурботна гуляе з маладой лістотай. Тое ж сонца, тое ж неба — бясконцае і чыстае, як і шмат гадоў таму... Той жа дом, які памятае, але ўжо ніколі не ўбачыць цябе... Наш дом — пабудаваны нашымі з табою рукамі... Цяпер мае рукі з цяжкасцю трымаюць нават аркуш паперы. Пажоўклы. З выцвілымі літарамі. Ён лёгка месціцца на маёй далоні, і, здаецца, у ім — сэнс апошніх дзесяцігоддзяў майго жыцця. Дарэмна я спрабую прачытаць запаветныя радкі — выплаканы даўно мае вочы. Выплаканы па табе... Але мне і не трэба бачыць, я і так ведаю на памяць той верш невядомага мне аўтара. Ты мне ніколі ўжо не раскажаш, навошта выразаў з газеты той вершык, навошта нёс яго на грудзях чатыры гады па лініі фронту... Але тыя радкі, нібы заклён, будуць гучаць у маёй душы да апошняга ўздыху...

Калі было цяжка, калі было балюча, калі не хацелася жыць ад адчаю, я ведала — трэба чакаць. Дзеля цябе, дзеля нашых дзяцей, дзеля нашай будучыні... Твае рэдкія лісты надавалі сілы, ты пісаў: «...не далёка той дзень, калі вораг цалкам будзе выгнаны і мы зноў радасна і шчасліва зажывём». І я верыла кожнаму твайму слову, бо інакш проста не магло быць — вядома, ты вернешся, і ўсё будзе, як раней... Ты сцвярджаў, што «жыццё франтавое — вясёлае, настрой — бадзёры». І мне часам здавалася, што ты ў бяспецы, хоць я разумела, што ўсё зусім не так. Гнаць ад сябе цяжкія прадчуванні, трывожныя думкі

і чакаць, чакаць цябе кожную хвіліну... Бо дзесьці там, пад варожымі кулямі, ты паўтараеш: «Родная, чакай мяне...» Жыць чаканнем...

Але цябе больш няма. Ты не дайшоў да Перамогі зусім трошкі. Цяпер незнаёмыя людзі нясуць табе кветкі. Мне цяжка паверыць, што пад шэрай плітой брацкай магілы — твой апошні прыстанак.

А я і не веру. Бо са мной твае лісты, побач нашы дарослыя дзеці, а над галавой — мірнае неба, за якое ты змагаўся... Дзеля якога я цябе чакала...

Не, ты ёсць... Ты ёсць маё жыццё. Ты ёсць усюды і ва ўсім. Ты назаўсёды са мной...

*Анастасія ХУРСЕВІЧ,*
*11 клас, СШ № 209, Мінск*

*Падрыхтавана з выкарыстаннем матэрыялаў пра А. С. Ганчарова, прадастаўленых музеем СШ № 209 г. Мінска*

ЖДИ МЕНЯ

В краткой передышке после боя,
При мерцаньи бледного огня
Я хочу поговорить с тобою,
Написать: «Родная, жди меня!

Ждать тебе останется недолго.
Мы идем в последний, жаркий бой.
Будет время — городок на Волге
Вновь увидит вместе нас с тобой.

И за час грядущей нашей встречи,
За страну родную, за любовь
Бью врага, кромсаю и калечу
Проливаю я на поле боя кровь».

* * *

**Ваенкамат. Чарга. У ёй хлапчына.**
**Ён да сваіх гадкоў два-тры**
**Абавязкова паспрабуе прыпісаць.**
**Тыповая для той вайны карціна —**
**На фронт прасіліся малыя... Ваяваць.**

**Суровы ваенкам, прыўзняўшы вочы,**
**Адзінае пытанне задае:**
**— Што, сірата? У тыле быць не хочаш?**
**Адпомсціць ворагу імкнешся, так ці не?**

**Хлапчук ківае. Ваенкам рашуча**
**Скалечанай рукой заяву рве:**
**— Не, хлопец, не пушчу!**
**У ваенкама**
**Такі ж сынок загінуў на вайне...**

**Дарослыя падлеткаў зберагалі,**
**Ды не ставала сілы зберагаць...**
**Бацькам на змену, на святую справу**
**Ішлі малыя дзеці ваяваць!**

*Ксенія ПАРФЕНЮК, 7 клас,*
*гімназія № 146, Мінск*

# Бабуліна гісторыя



Я сучасная дзяўчына. І, як і ўсіх маіх аднагодкаў, у першую чаргу мяне цікавяць не кніжкі і вучоба, а, напрыклад, розныя напрамкі музыкі, субкультуры, гурты... Але гэта зусім не значыць, што я не ведаю гісторыі сваёй краіны. Ведаю, бо яе добра выкладаюць у школе.

Што мы, сучасныя дзеці, ведаем пра вайну? Для нас вайна — гэта нешта вельмі далёкае. Але ў многіх ёсць бабуля або дзядуля, якія былі сведкамі ваенных падзей, самі ваявалі...

Ведаю шмат гісторый, якія пачула ад дзядулі. Ён сямнаццацігадовым юнаком пайшоў на фронт, прыбавіўшы сабе ўзрост: хацелася быць героем, змагацца за Радзіму. Пра гэтыя гады ён не можа забыцца, тым больш, што напамінам застаўся асколак у галаве, які так і не змаглі дастаць урачы.

Але не дзядуліну гісторыю я раскажу, а бабуліну. Гэты выпадак узрушыў мяне, прымусіў разважаць пра тое, што было раней, і пра тое, што ёсць цяпер.

Здарылася гэта ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёна, дзе падчас вайны жыла мая бабуля, тады яшчэ маленькая дзяўчынка. У вёсцы было многа яўрэяў, і з першых дзён фашысты пабудавалі гета. Бабуліна матуля часта давала дачцэ кавалак хлеба і бутэльку малака, каб дзяўчынка цераз вузенькі лаз перадавала харч бязвінным людзям, падтрымлівала іх. І кожны вечар са страхам чакала дачку дадому: баялася, што схопяць фашысты.

Перад адступленнем эсэсаўцы вырашылі знішчыць усіх яўрэяў. Уранку іх заганялі ў вялікі свіран, які знаходзіўся на ўскрайку вёскі. Па-рознаму заходзілі людзі ў шырокія цёмныя дзверы. Усе ведалі, што гэта апошні прытулак у іх жыцці. Многія плакалі, крычалі, прасілі фашыстаў пашкадаваць, адпусціць. Некаторыя моўчкі глядзелі ў неба, нібы развітваліся з хмаркамі, сонейкам, птушкамі...



Сярод людзей вылучалася высокая і прыгожая дзяўчына, якая ішла з горда ўзнятай галавой і падтрымлівала пад рукі двух старых — бацьку і маці. Вялікія вочы, чорныя па пояс валасы, зграбны стан не маглі не прыцягнуць увагу фашыстаў. Сярод іх было многа маладых хлопцаў, і яны пашкадавалі дзяўчыну за яе прыгажосць.

— Ідзі адсюль, кідай старых і ўцякай, — казалі яны прыгажуні.

Дзяўчына паглядзела на лес, які быў зусім не далёка, на фашыстаў. Надзея на хвіліну асвяціла яе твар. Затым яе позірк спыніўся на бацьках. Яны ўсміхаліся і адпіхвалі яе ад сябе.

— Не, я не пакіну сваіх тату і маму, — адказала дзяўчына і, падхапіўшы старых пад рукі, увайшла ў свіран.

За ёй з грукатам зачыніліся дзверы. А праз некалькі хвілін будынак заняўся полымем.

Гэта гісторыя ўсхвалявала мяне да слёз. Змагла б я вось так, як гэта дзяўчына, развітацца з жыццём, пайсці на такую страшную смерць толькі за сваёй маці? Не ведаю. Адно знаю: гэта прыкра, калі жыццё чалавека залежыць ад звяроў, па-іншаму фашыстаў назваць не магу.

Ніхто не мае права забіць другога чалавека. Але, думаю, што гэта гісторыя дапаможа навучыць маіх будучых дзяцей таму, чаму навучыла мяне: кожны можа змагацца за сваю чалавечую годнасць, нават цаной свайго жыцця.

*Люба МЯЦЕЛІЦА, 17 гадоў, Маладзечна*

* * *

**Я запыталася ў сваёй бабулі,**
**Ці ў мамінай сям’і яна была адна?**
**Бабуля хмурна вусны прыадкрыла:**
**— Сястра малодшая жыла,**
**Яе ўзяла вайна.**

**Хвіліну мы з бабуляй памаўчалі,**
**А потым яна ціха дадала:**
**— Паўгода ёй было,**
**і слоў яшчэ не разумела.**
**Жывот, ці што, пад вечар**
**у малой заныў —**
**Захныкала яна,**
**і не давала спаць салдату,**
**А ён падняўся і яе забіў...**

**Ніколі не знікае след злачынства.**
**Цябе я праклінаю, даўняя вайна!**
**За дзікі стрэл бяздушнага фашыста,**
**Што ненароджаных сясцёр стрыечных**
**У мяне адняў.**

*Ксенія ПАРФЕНЮК, 7 клас, гімназія № 146, Мінск*

# Разгадваць святую таямніцу жыцця з пляцаком за спінай

***Не падыходзьце да жыцця са сціснутымі кулакамі. Расцісніце кулакі. Ідзіце ў жыццё, будзьце бязмежна цнатлівымі. Праяўляць якія-небудзь перадузятыя адносіны — гэта хітры выкрут: вы ўжо ўсё вырашылі, не спрабуючы, не выпрабоўваючы, не жывучы.***

Оша

## Дарогі здараюцца, абавязкова змяняюцца…

Упершыню я паехала аўтастопам у шаснаццаць. Цяпер мне дваццаць чатыры — і прыпыніцца немагчыма.

Але спачатку адбывалася так.

Мне было дзесяць, потым трынаццаць, а потым пятнаццаць… Ездзіць на экскурсіі са школьным класам — у Мірскі замак альбо ў Гальшанскі — свята! З бацькамі на машыне на рыцарскі фэст — таксама. Але… Моладзь прыязджае аўтастопам! Ах, як жа цудоўна без бацькоў, аўтастопам! Як жа крута! Ну, хіпі там, фенькі на руках, заплечнік. Дарога! Кіламетры! Ды… Як?.. Як здзейсніць? Не, не для мяне гэта… Не для мяне…

З бацькамі… На машыне…

Аднак часам адчуваеш, што жыццё — неверагоднае! Жаданні спраўджваюцца, а ты і не чакаў. Забыўся, што мары могуць здзяйсняцца.

Паехаць упершыню стопам — гэта было значнай падзеяй. Ганарылася сабой. Хацела, каб усе ведалі, што я вярнулася з *трасы*. «Траса» — такое роднае слоўка для аўтастопшчыка!

Эх, мае шаснаццаць гадкоў!.. Крутыя кеды, як у Курта Кабэйна. На адным кедзе белы матузок, на другім — чорны. І неяк разгарнулася гэтае захапленне вольнай дарогай, заквітнела…

І вось я ўжо прызвычаілася да міжнароднага стандарту ў запісванні мабільных нумароў, бо ў нататніку з'яўляюцца тэлефоны з пазнакамі: «Піцер», «Масква», «Прага», «Берлін», «Бамбей»…

Спаць у намёце каля трасы, піць ноччу каву ў дарожнай кавярні з добрым дзядзькам-дальнабойшчыкам, радасна зліваецца душою з выпадковым кіроўцам, а потым не ўбачыць яго ніколі, быць стомленым, галодным і нявыспаным… І прыходзяць часіны, калі зразумець не можаш, навошта ўсё гэта табе трэба. А потым… Глухая і дзікая, разбітая траса на Мурманск. Машына падскоквае. Оперная артыстка спявае ў магнітафоне. І неба… вар'яцкі захад белых начэй Расіі! У мяне з сабою толькі вялікі пляцак. Нават спадарожніка-сябра няма побач. Але ўсё так гарманічна, і ўсё ж я люблю ні з чым не параўнальную стыхію дарогі!

 

Цікава назіраць, як змяняюцца з гадамі падарожжы, адчуванні, інтарэсы, мэты і філасофія дарогі. Піцер не дае больш той шалёнай радасці, лёгкасці, як у першы раз, у сямнаццаць. Некаторыя асабліва кранальныя сустрэчы можна перажыць толькі аднойчы. Мне больш не хочацца начаваць на паддашках старых піцерскіх дамоў, бо нешта сышло назаўжды, разам з той містычнай блізкасцю, што ўзнікала ў першых вольных вандроўках з сябруком. А яшчэ стала нецікава і ўвогуле непатрэбна натхнёна і дысцыплінавана занатоўваць, як раней, перажытае з пляцаком.

Дарогі здараюцца, абавязкова змяняюцца, прыходзяць і сыходзяць. І вось... з вызваленнем адчуваеш раптам, што за ўсімі дарогамі, перажываннямі, гісторыямі і прыгодамі хаваецца нешта большае.

Мудрацы кажуць пра нейкі гарманічны, неспасцігальны будзёнай логікай Розум, што адзіны на ўсіх. Галоднага і змерзлага аўтастопшчыка рана ці позна абавязкова накормяць і сагрэюць — пра гэта ведаюць усе вольныя вандроўнікі.

## «Любая паслядоўнасць падзей правільная!»

Аўтастопам ездзяць студэнты, а таксама тыя, каго можна акрэсліць як «хіпі». І тут хочацца сказаць пра існаванне цэлай субкультуры, якую называюць «аўтастопшчыкі». Ёсць нават вялікія сустрэчы аўтастопшчыкаў, у лесе, — называецца «Эльба». Там сядзіш ля вогнішча, слухаеш гісторыі пра шалёныя падарожжы, радуешся: «Усе вакол — вольныя вандроўнікі!»

Усе аўтастопшчыкі ведаюць, хто такі Антось Кротаў. Прафесійны рускі вандроўнік! Аўтар натхняльных кніжак не толькі пра практычныя аспекты аўтастопа, але ж і пра філасофію дарогі. Ён аб'ездзіў Еўропу, Азію, Афрыку. Працытуем Антося: «Дык вось, розніца паміж ежай, што вырасла на агародзе ды прыгатавана на вогнішчы, і комплексам з "натуральных і ідэнтычных натуральным смакавых рэчываў" — гэта і ёсць розніца паміж вольным вандраваннем і ваяжом ад турфірмы». Удакладнім, што вольнае падарожжа — гэта самастойнае падарожжа без гасцініц і турфірм. А з намётам і спальнікам. З упіскамі. Упіска — слэнгавае слоўка, што прыйшло да нас ад хіпі і азначае «месца, якое падаравала табе магчымасць бясплатна адпачыць». Хіповыя людзі, аўтастопшчыкі альбо проста студэнты, якія ў курсе аўтастопнай альтруістычнай філасофіі, могуць з радасцю дазволіць пажыць у сваім доме незнаёмцу-вандроўніку. Працытуем яшчэ раз спадара





Кротава: «Паверце, кожны чалавек можа апынуцца ў любой кропцы кантынента, калі ў яго ёсць час і жаданне. Вольныя вандроўкі — гэта не халява, а спосаб спазнання дабрыні навакольнага свету». Альбо вось яшчэ знакамітае, кротаўскае: «Любая паслядоўнасць падзей правільная!» Актуальна, калі нібыта не шанцуе ў дарозе. Ды й увогуле, не толькі для дарогі актуальна.

У Расіі ёсць цэлая вялікая суполка — Акадэмія Вольных Падарожжаў. Яе сябры скарыстоўваюць не толькі метад аўтастопа, аднак і ходзяць у паходы пешкі. Адзін з самых цікавых праектаў АВП — «Дом для ўсіх». Штогод выбіраецца новы горад, новая краіна. «Дом для ўсіх» ужо быў у Каіры (Егіпет), Ошы (Кыргыстан), на востраве Брэвеннік (Архангельск), у Тбілісі (Грузія)... Дом здымаецца за грошы добраахвотнікаў, і пажыць, прынцыпова бясплатна, там можа любы.

Праілюструю філасофію аўтастопшчыкаў расповедам пра летнік АВП на адным фестывалі. Ля вогнішча там ляжаў цэлы стос кніжак, выдадзеных Акадэміяй. А ля гэтага стоса — грошы. Любы жадаючы, і зусім не абавязкова жыхар летніка АВП, можа: узяць кніжку бясплатна, узяць кніжку і пакласці грошы, узяць колькі трэба грошай без кніжкі альбо з кніжкай. І ўсе астатнія варыянты.

Карацей, хоць і здараюцца ў свеце мітрэнгі, добры гэты свет!

## Ёсць законы. І іх не абмінеш!

Размаўляючы пра падарожжы, нельга забыцца і на заканадаўчы момант. Да васямнаццаці гадкоў проста так, без бацькоў у іншую краіну не заедзеш, а толькі са старэйшым сябрам і з даверанасцю на яго асобу ад бацькоў.

Ну, а калі распачынаеш вандроўнае жыццё з падарожжаў па радзіме... У заканадаўстве сказана наступнае: «Дзецям, якім менш за чатырнаццаць гадоў, забараняецца знаходзіцца без суправаджэння дарослых у грамадскіх месцах з 22.00 да 06.00, непаўналетнім ад чатырнаццаці да шаснаццаці гадоў — з 23.00 да 06.00. Прадугледжана адміністрацыйная адказнасць за парушэнне гэтай забароны». Гэта трэба ўлічваць — і быць асцярожным!

А што, калі няма спадарожніка, але ў дарогу хочацца? Альбо ў шчаслівым узросце «зялёнага» падлетка ты яшчэ не гатовы. Да таго, як паехаць у шаснаццаць аўтастопам, я шмат пра гэта марыла. Можна проста запісаць у нататнік свой цвёрды намер, часова на яго забыцца, супакоіцца, адпусціць намер у паветраную прастору сусвету. Надыдзе патрэбная часіна — і мара здзейсніцца!

Цяпер модна сярод моладзі вандраваць аўтастопам, але пераважная большасць людзей з вялікімі пляцакамі — асобы студэнцкага ўзросту.

 

## Спатолім разам гэту смагу жыцця, дружа!



Спадарожнікі — гэта змястоўная і асобная тэма.

На трасе можна бачыць такія адзінкі, як «хлопец і дзяўчына», «дзяўчына і дзяўчына». Больш рэдка проста «хлопец» ці проста «дзяўчына». А самы марудны, няўдзячны варыянт — «хлопец і хлопец».

Часта ў пару спалучаюцца мала знаёмыя ці зусім не знаёмыя асобы, якія знайшлі адно аднаго праз інтэрнэт альбо агульных знаёмых.

Вольнае падарожжа зближае людзей так, як няздольны зблізіць іх шпацыр па горадзе альбо паход у кіно. Разам у дарогу, асабліва такую, якая з пляцаком, спальнікам і намётам, — гэта проста выдатны момант, каб спазнаць Іншага Чалавека. Ну, а калі ты дзяўчынка, а ён хлопчык, як жа пазнавальна вывучаць на практыцы асаблівасці мужчынскай псіхікі!

Шмат гісторый, калі людзі раз’язджаюцца. А пашанцуе, дык сапраўднае сяброўства альбо каханне народзіцца на трасе. У любым выпадку «твой» ці «не твой» чалавек, а становіцца ён родным!.. Ну, а як жа іначай? Калі снежнай зімой, не знаходзячы даху, разам шпацырууеш цэлую ноч па чужым нязведаным горадзе, калі раздзяляеш радасць бачыць і адчуваць горы!..

Карацей, не заўжды знаходзіш сталага сябра, але ж роднага чалавека, якога ўжо ведаеш і зусім не саромеешся, знаходзіш — такі адзін з цудаў, падараваных стыхіяй вольнай дарогі. І спярша гэты цуд быў адным з маіх каштоўных адкрыццяў.

Але усё мяняецца з часам. Неяк незаўважна перастала баяцца ездзіць аўтастопам адна. А потым, у самоце на трасе, перастала баяцца ночы: ну, і няхай, сама намёт ля дарогі пастаўлю... Так мне адкрыліся яшчэ дзве важныя каштоўнасці: незалежнасць, самадастатковасць, калі становіцца *ўсё адно* — адзін у дарозе ці з сябрам. А таксама адкрытасць свету, людзям, новым знаёмствам — са спадарожнікам так не атрымаецца.

Са шматлікімі дальнабойшчыкамі ды проста кіроўцамі я пазнаёмілася, шмат гісторый выслухала. І такія цёплыя, шчырыя гутаркі, бывае, здараюцца! І як не пагадзіцца тут, што жыць на свеце і падарожнічаць — радасна і пазнавальна.

***Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ,***
***фота аўтара***

*Працяг будзе*

# Аборт — гэта забойства

***Па статыстыцы Guttmacher Institute за год у свеце робіцца каля 42 мільёнаў абортаў. Колькасць іх на дзень — каля 115 тысяч. Каб зразумець наколькі гэта страшна, можна параўнаць з ваенным часам: у польскім лагеры Асвенцыме ў дзень забівалі 30 тысяч чалавек. На жаль, аборт сёння з'ява вельмі распаўсюджаная. Нават сярод падлеткаў і моладзі.***

***Чаму так адбываецца і што стала прычынай гэтай з'явы? Пра гэта я вырашыла даведацца ў спецыяліста. На мае пытанні адказала ўрач-гінеколаг Чысцінскай паліклінікі Маладзечанскага раёна Вольга Чухінская.***

**— Ці праводзіце вы ў паліклініцы прафілактычныя размовы з моладдзю?**

— Так, праводзім. У нас ёсць сумесная праца з урачом-псіхолагам. Мы чытаем лекцыі для школьнікаў пад назвай «Школа станоўчага мацярынства». Там уздымаецца тэма абортаў, здаровага ладу жыцця і падрыхтоўкі да стварэння сям'і. Праблема ў тым, што часта моладзь пачынае рана жыць палавым жыццём. Мяркую, што гэта звязана з тым, што нашы падлеткі аказаліся пад моцным уплывам той інфармацыі, якая прыходзіць да нас з Захаду. І так атрымліваецца, што тая інфармацыя стварае нейкую адмоўную тэндэнцыю. Чамусьці нашы дзеці і падлеткі, убачыўшы штосьці негатыўнае, адразу ж хапаюцца за яго як за прыклад для паводзін. Яны думаюць: калі гэта дзесьці і камусьці можна, значыць, можна і мне. Адсюль і ранняе палавое жыццё падлеткаў, і нізкі ўзровень культуры такіх адносін. Але магу сказаць, што за час маёй працы тут абортаў сярод падлеткаў не было. Выпадкі цяжарнасці сярод непаўналетніх дзяўчат — не рэдкасць, але ніколі падлетка на аборт не адпраўлялі. Усе цяжарныя дзяўчыны нарадзілі. Самая малодшая дзяўчынка, якая стала да нас на ўлік, мела 13,5 гадоў, але і яна нарадзіла дзіця. У такіх выпадках маці бярэ на сябе апякунства.

**— Ну, а калі ўсё ж дзяўчына прыходзіць да вас з перакананнем не нараджаць дзіця, ці магчыма яе адгаварыць ад аборту?**

— Хачу тут адзначыць, што якраз падлеткаў хутчэй можна ўгаварыць нарадзіць, чым дарослых жанчын. Маладыя людзі больш задумваюцца і больш схіляюцца да таго, каб нарадзіць. Вось такі тут парадокс.

**— А ці шмат выпадкаў, калі дзяўчаты 13-18 гадоў зацяжарваюць?**

— Не магу сказаць, што шмат, але яны ёсць. Некалькі год таму на ўлік станавіліся ў сярэднім 1-2 дзяўчыны на год, і ўсе яны нараджалі дзяцей. А цяпер пайшла тэндэнцыя павелічэння — у год ад 3 да 4 дзяўчат. Але ўсе стаялі на ўліку, і ўсе нарадзілі. І ўсе з добрымі дзеткамі.

 

**— А як вы ставіцеся да абортаў?**



— Маё стаўленне ўжо даўно негатыўнае. Для мяне гэта вельмі складаная тэма. Калі я толькі пачынала працаваць акушэрам-гінеколагам, нават і падумаць не магла, што такая звыклая ў нашым асяроддзі справа, як аборт, — гэта нішто іншае, як забойства. У часы, калі я яшчэ вучылася, у нас не было такой інфармацыі. Ні разу ў інстытуце пра гэта не прагучала ні слова. Але калі я пераехала працаваць у Чысць, мне давялося паразмаўляць са святаром. Толькі тут я ўпершыню даведалася і была перакананa, што аборт — гэта забойства. Нават калі ўрач ці медсястра прымаюць удзел у такой аперацыі, яны нясуць адказнасць за ненароджанае дзіця. Гэта страшны грэх. Пасля я даведалася, што магу адмовіцца рабіць аборты. Тут я змагла ўздыхнуць з палёгкай. Наша паліклініка афіцыйна адмовілася ад правядзення такіх аперацый. І цяпер мы вядзём актыўную працу ў кірунку змяншэння колькасці абортаў сярод цяжарных жанчын і дзяўчат. З кожнай жанчынай, якая збіраецца ісці на прыпыненне цяжарнасці, мы праводзім размову. Распавядаем, якія цяжкасці могуць быць. Увогуле, аборт — гэта адзіная аперацыя, якая робіцца «ўсляпую», і могуць узнікнуць немалыя ўскладненні, нават да лятальнага зыходу. Або жанчына можа застацца інвалідам ці не зможа больш зацяжараць. Калі ж ніякія аргументы не дзейнічаюць, жанчына павінна падпісацца, што адказнасць за зроблены выбар нясе толькі яна. І нават калі штосьці зробіцца з яе здароўем, урач не нясе ніякай адказнасці. Вельмі балюча і сумна бачыць, як некаторыя жанчыны спакойна ставяць свой подпіс і ідуць на аборт, а лепш сказаць на свядомае забойства. І не спыняе іх небяспека для здароўя і маральныя каштоўнасці... А яшчэ сярод людзей узнікла такое меркаванне, што калі яны спыняць цяжарнасць у перыяд да 22 дзён, то гэта міні-аборт, ці так званая «рэгуляцыя». Калі болей, то ўжо аборт. І калі на прыёме я пыталася ў жанчын, ці рабілі яны раней аборты, то яны даказвалі мне, што не, толькі «рэгуляцыю». Жахліва, бо людзі нават не разумелі, што гэта такое. І можа быць, гэта таксама адыграла пэўную ролю, таму што надта лёгка людзі ішлі на прыпыненне цяжарнасці. Яны думалі, што гэта проста неабходная працэдура. Але ж гэта самы звычайны аборт. Проста дзіця, якое забівалася, было меншым.

Асноўнымі прычынамі абортаў у нашым грамадстве з'яўляюцца такія, як, напрыклад, незамужжа. Ці трэцяе дзіця ў сям'і. Калі яшчэ другога могуць нараджаць, то трэцяе — «перабор». І як правіла, у такой сітуацыі жанчына адэкватная, гаворыць, што не супраць нарадзіць, але тады супраць муж. Ну, але ёсць і мужчыны, дзякуючы якім жанчыны пагаджаюцца нараджаць.

Вось, дарэчы, гісторыя пра падлеткаў. Дзяўчына 17 гадоў, вучылася ў ВНУ. Яна была не замужам, сустракалася з хлопцам, зацяжарала. І калі сказала маці, што цяжарная, то маці схіляла дачку да аборту, але хлопец не дазволіў дзяўчыне ісці на гэта. І яна нарадзіла хлопчыка. Пасля дзяўчына з хлопцам ажаніліся, і яна нарадзіла другога сына. А калі зацяжарала трэцім дзіцём, то зноў вырашыла рабіць аборт. Але яе муж сказаў сваё трывалае «НЕ!» Нарадзілася дачка. І вось дзякуючы такому чалавеку існуе моцная сям'я. Дзяўчыне цяпер каля 25 гадоў. Яна шчаслівая. У яе спакойнае сумленне, добрае здароўе і любімыя дзеткі.

**— Як вы лічыце, ці ёсць абставіны, якія могуць апраўдаць аборт?**

— Апраўдаць аборт увогуле нельга. Ні пры якіх умовах. Але, калі стаіць пытанне наконт жыцця цяжарнай жанчыны, напрыклад, калі ёсць захворванні, якія могуць выклікаць лятальны зыход, то, згодна з нашым заканадаўствам, тут права выбара за жанчынай. Ёй тлумачыцца ўсё, яна можа адмовіцца і нарадзіць, ці наадварот. Ведаеце, да 1918 года ў Беларусі і Расіі аборты былі забаронены. Але пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі іх дазволілі. І таму цяпер, калі жанчына прыйдзе і скажа: «Я хачу зрабіць аборт», забараніць мы ёй не можам. Мы можам толькі паспрабаваць пераканаць у адваротным.

**— А ці ўплывае рэлігійная свядомасць чалавека на яго рашэнні?**

— Калі ў чалавека ёсць вера, калі жанчына ведае, што аборт — гэта забойства, то яна ніколі не зробіць гэта. І былі такія выпадкі, што жанчыне казалі: калі яна не зробіць аборт, то памрэ. Але жанчыны нараджалі. І ўсё было ў іх добра, і дзеці, і яны самі заставаліся здаровымі. Часам я доўга размаўляю з жанчынамі на гэтую тэму, і бываюць вельмі розная рэакцыі: плачуць, кажуць, што ім гэта не трэба. А некаторыя вагаюцца. І калі з імі паразмаўляць, то адмаўляюцца ад аборту. Магу вас запэўніць, што тыя, хто перадумаў забіваць сваё дзіця, заўсёды пасля шчаслівыя. Дзеці ў іх нараджаюцца прыгожыя, разумныя, проста анёлы. І муж у такіх выпадках часцей становіцца больш уважлівым да жонкі, сям'я робіцца мацнейшая. І яшчэ я заўважала, што праблемы, якія здаваліся перашкодамі для нараджэння дзіцяці, неяк самі сабой вырашаюцца. Нехта жыллё атрымлівае, нехта вырашае свае ўнутраныя пытанні, хтосьці адносіны ў сям'і наладжвае.

**— А былі выпадкі, калі вы раілі чалавеку паразмаўляць са святаром?**

— Так, амаль заўсёды, але не ўсе пагаджаюцца. Вельмі рэдка. Яны адчуваюць, што там іх будуць пераконваць. Таму не ідуць, бо баяцца зламацца. Ці не хочуць і не ідуць, а тыя, хто ідзе, найчасцей адмаўляюцца рабіць аборт.

**— Што б вы параілі моладзі, якая ўступае ў жыццё?**

— Быць цнатлівымі і чыстымі. Напачатку стварыць сям'ю, а пасля ўжо нараджаць дзяцей. Каханне — гэта адказнасць. І трэба падымаць маральнасць. Не толькі дзяўчат, але і хлопцаў.

***Дар'я МІХАЙЛОЎСКАЯ, 17 год***



# Буккросінг: прачытаў кніжку — «адпускай» у падарожжа!

***Усё ў гэтым свеце рухаецца. І электроны, і атамы, і малекулы, і хвалі светлавыя, і хвалі марскія, і планеты, і людзі, і гадзіннікі, і эвалюцыя, і дэградацыя, і вада, і аблокі, і, як спяваў Караленка, усё-ўсё-ўсё. Кнігі вырашылі не быць выключэннем і таксама пачалі свой адносна актыўны рух па розных гарадах свету. Прачытаць кніжку, а потым з кімсьці падзяліцца, пакінуўшы ў метро ці на аўтобусным прыпынку. І імя гэтай з'яве «буккросінг», ці «кнігаварот».***

## Правілы гульні

Асабіста я з дзяцінства параўноўваю кнігу з жывой істотай, якая асцярожна ствараецца Аўтарам, выляпляецца, нібыта з гліны, жвава ўсковае на ногі і бяжыць скараць нашыя розумы і сэрцы. Калі пашанцуе, вядома.

Менавіта для таго, каб кнігі адчувалі сябе свабоднымі, а ў жыцці кожнага з нас дадалося крыху авантуры і цеплыні адначасова, быў створаны дзіўны напрамак, своеасаблівы клуб чытачоў-арыгіналаў, — буккросінг, альбо, інакш кажучы, кнігаварот.



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Вось як характарызуюць сваю суполку непасрэдна стваральнікі руху: «Буккросінг — гэта кніжны клуб, які знішчае межы прасторы і часу. Гэта кірунак для людзей, якія ламаюць стэрэатыпы, бо ніхто і ніколі ў гісторыі так не рабіў. Сам прынцып буккросінгу вельмі просты: прачытаў — аддай іншаму. Мы пакідаем кнігі на вуліцы, у метро, кафэ і рэстарацыях, і кожны жадаючы, калі знойдзе, можа проста ўзяць і прачытаць, каб пасля таксама пакінуць дзесьці на вуліцы».

Буккросеры стасуюцца між сабою ў сеціве — на афіцыйным сайце **www.bookcrossing.ru**, дзе ўжо, дарэчы, адведзена спецыяльная старонка для Беларусі, у сацыяльных сетках кшалту «Укантакце». Там можна пазнаёміцца з правіламі гульні.



*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

Кожная кніга атрымлівае ўласны нумар на афіцыйным сайце. І нумар гэты прапісваецца на вокладцы. Далей буккросер пакідае кнігу на вуліцы, «адпускае». Вярнуўшыся дамоў, ён абавязаны напісаць на афіцыйным сайце, што кніга пад нумарам N адпушчана. У ідэале прыпісаць: дзе і калі. І ў кнігі такім чынам пачынаецца новае, падарожнае жыццё...

Гэта калі гуляць па ўсіх правілах ды калі вам сапраўды цікава, як складзецца лёс кнігі, «адпушчанай» вамі, да якіх людзей яна патрапіць. А наогул нішто не замінае проста прыйсці да буккросінг-паліцы (што гэта, чытайце ніжэй), узяць кнігу, якая паглядзела на вас ласкавей за астатнія, ды пакінуць кнігу ўзамен. Гэта непераагоднае адчуванне. Асабліва ў тым выпадку, калі вы — натура рамантычная. Зрэшты, буккросінгам толькі такія і захапляюцца. Вы бераце ў рукі кнігу, якую пакінуў для вас нейкі чалавек. А прачытаўшы, можаце аддаць яе іншаму. Своеасаблівы дотык да некага зусім не вядомага. Дыстанцыйны абдымак, ды яшчэ і з карысцю для ўласнага развіцця.

## Беларускі буккросінг

У нашу краіну кнігаварот завітаў нядаўна. Маладая і дрэдастая Ганна Аленская з'яўляецца адным з арганізатараў руху ў Беларусі.

Ганну і кампанію напаткаў цэлы шэраг перашкод. Самі ведаеце галоўную праблему (мінчукоў? беларусаў? чалавецтва?..): «усеагульная млявасць і абыякавасць да жыцця». Адгукнуліся, безумоўна, але мізэрна маленькая колькасць. Пакінем рытарычнае пытанне, чаму так адбываецца, і паразважаем над побытавым.

Пакідаць кнігі проста на вуліцы часам бывае небяспечна. Таму я спытала ў арганізатараў, ці ёсць у Мінску спецыяльныя месцы, бібліятэчныя паліцы, дзе можна пакінуць кнігі, як гэта робіцца ў іншых краінах. Увага, адказ Ганны: «Так, але пакуль іх няшмат. Першай адкрылася кніжная паліца ў бібліятэцы БНТУ. Нягледзячы на тое, што гэты «шафік» даволі цяжка адшукаць, сапраўдныя буккросеры ўсё ж дабіраюцца да яго. Навучэнцы БНТУ «адпускаюць»

 


*Фота Рагнеда Малахоўскага.*

шмат цікавых кніг, дзякуй ім за гэта, але зусім не рэгістрыруюць іх на сайце. Без рэгістрацыі амаль не магчыма адсачыць далейшы лёс кнігі і падзякаваць таму, хто яе адпусціў».

Я перыядычна карыстаюся буккросінгпалічкай, што знаходзіцца адразу на ўваходзе ў кнігарню «ЛогвінаЎ». Сярод незразумелых брашурак і шэдэўраў савецкага рэалізму трапляюцца рэчы вельмі карысныя. Штосьці з мастацкай літаратуры ці які-небудзь падручнік. Чамусьці буккросеры адпраўляюць ў вандроўкі велізарную колькасць розных падручнікаў. Так што, абітурыенты, шукайце неабходныя дапаможнікі ў кніжных «прытулках»!

Хочацца нагадаць беларускай моладзі (а можа, і бацькам нашай беларускай моладзі?), што ёсць у свеце шмат рухаў і хваль. Акунуўшыся ў хвалю кнігавароту, пачынаеш ставіцца і да жыцця трохі інакш. Трымаючы ў руках кнігу, што самастойна блукала сабе па горадзе, іншымі вачыма глядзіш на выпадковых мінакоў. Хто ведае, можа, нехта з іх будзе чытаць тваю кнігу?

Не давайце ўласнай ляноце перабіць творчыя парывы душы, жывіце з захапленнем. Уявіце сабе, як Максім Багдановіч, хітра ўсміхаючыся, дэкламуе сваё «Жывеш не вечна, чалавек, перажыві ж у момант век», і адпраўляйцеся хутчэй рабіць тое, што заўжды адкладвалі да заўтра, да вясны, да новага года. Гэта датычыцца не толькі кнігаварота. Рабіце добрае!

***Rudy varjat ці Даша МАРОЗАВА,***
***ліцэй БДУ***





● Слоўнік-алоўнік

# Ванцак

**Ванц*а*к** — гэта рэзкі, востры боль у жываце. А таксама заварот кішак, конская хвароба.

*Такі* ***ванцак,*** *як у нас казалі, што не вытрымаць было. Лявон Юрэвіч.*

«Каб цябе **ванцак** кінуў! Каб **ванц*а*к** узяў!» — лаюцца беларусы.

«Што такое **ванц*а*к**?» Гэта неардынарнае пытанне задавалася вучням школы № 1 горада Мінска.

Альбіна, 16 гадоў: «Прылада працы?»

Коля, 12 гадоў: «Коннік?»

Аляксандр, 15 гадоў: «Нешта, звязанае з сельскай гаспадаркай?»

Дамініка, 16 гадоў: «Страва якая-небудзь? Пастух?

Крыжаванка: на веданне беларускіх слоў і для запамінання нашага **ванц*а*ка**.




**1.** Прыемны пах.
**2.** Кароткая палёгка ад цяжкой, працяглай працы.
**3.** Унутраная цяга і здольнасць да якой-небудзь справы, прафесіі.
**4.** Цячы, ліцца цурком.
**5.** Жучок чырвонай, жоўтай або белай афарбоўкі з плямкамі.
**6.** Востры кавалак чаго-небудзь разбітага.

*Кацярына **БЕЗМАЦЕРНЫХ**,*
*малюнак Вольгі **АЛЕЙНІКАВАЙ**, 7 клас, гімназія № 25, Мінск*



# Вялікі конкурс школьных сачыненняў

***Лізавета Басалыга на працягу дзевяці класаў вывучала музычныя дысцыпліны, спявала ў школьным хоры «Раніца», грала на беларускім народным інструменце — цымбалах. Музыку лічыць вельмі каштоўным досведам у сваім жыцці. З'яўляецца вядоўцай канцэртаў, прымае ўдзел у школьным самакіраванні. Мае шмат сяброў. Плануе паступаць у Інстытут журналістыкі БДУ.***

***Сябры! Вясна і вашыя творчыя сачыненні, дасланыя нам у рэдакцыю, натхняюць нас жыць! Мы рады новым імёнам на старонках нашага часопіса. Так што і ад цябе сачынення чакаем!***

## Чаму я выбіраю гэту мову?

*Кожны народ*
*мае хаця б адзін геніяльны твор,*
*і гэты твор — мова.*

Алесь РАЗАНАЎ



*Лізавета Басалыга.*

Родная, мілагучная, пяшчотная, адзіная мая беларуская мова! Колькі табе прыйшлося перажыць, колькі змен ты перанесла, але беларускае слова тваё засталося нязменным. У душы маёй ты ніколі не загінеш, бо са мной ты з самага дзяцінства.

Кожнае лета я прыязджаю ў вёску да сваёй бабулі. Калі я заходжу ў хату, каб павітацца з ёю, перш-наперш адчуваю пах прыгатаваных для любімых унукаў аладак, чую, як даносяцца гукі беларускага радыё, якое моцна гучыць на ўсю хату. Бачу сваю родненькую бабулю ў каляровай хустачцы з талерачкай трускалак у руках. У гэты момант я адчуваю непарыўную сувязь са сваёй радзімай. Усё тут для мяне мілае, роднае і блізкае!

Пасля традыцыйнай вясёлай вячэры з нагоды нашага прыезду мы разам з бабуляй прыбіраем і размаўляем па-беларуску. З яе вуснаў беларускія словы гучаць неяк асабліва пявуча і душэўна. Кожны раз я захапляюся яе гаворкай. Вельмі люблю тыя моманты, калі бабуля вышывае крыжыкам, а я ўважліва слухаю цікавыя і смешныя гісторыі з яе маладосці.

Вось яны, вытокі беларускага слова! Дзякуючы вёскам і яе жыхарам жыве наша мова, гучыць. Я ведаю, што менавіта мая бабуля і тая вясковая атмасфе-




ра паўплывалі на маё стаўленне да традыцый, культуры і мовы Беларусі.

На жаль, сёння мы сутыкаемся з вялікай праблемай: у нашай краіне размаўляюць па-беларуску адзінкі. Людзі, якія зусім не ўспрымаюць беларускую мову, могуць нават палічыць чалавека, які гаворыць на роднай мове, звар'яцелым. Зразумела, што гэта больш датычыцца моладзі. Не трэба браць прыватныя выпадкі, дастаткова параўнаць колькасць абітурыентаў, якія здаюць беларускую мову, з тымі, хто аддае перавагу рускай. Жаданне быць такім, як усе? Адсутнасць любові да сваёй Радзімы? Цяжка сказаць. Да мяне разуменне таго, што беларуская мова блізкая мне, прыйшло само па сабе. Мяне зусім не хвалюе, што ўсе астатнія мае аднакласнікі выбралі рускую мову. Гэта мой уласны выбар. Маё жаданне размаўляць па-беларуску мацнейшае за меркаванні іншых. Канешне, не ва ўсіх ёсць такая цудоўная бабуля і асяроддзе, як у мяне. Не трэба кагосьці вінаваціць… Але, на мой погляд, чалавек, які мае жаданне, заўсёды знойдзе магчымасць удасканаліць свае веды роднай мовы. Важна таксама быць прыкладам для сваіх дзяцей. Для мяне такім узорам павагі да роднай мовы з'яўляюцца мае бацькі і бабуля. Адкуль жа можа з'явіцца ў нашчадкаў любоў да роднай мовы, калі мы, сучаснікі, так зняважліва ставіліся да яе?

Беларускую мову рэдка дзе пачуеш. Возьмем, напрыклад, сродкі масавай інфармацыі. Існуе адзіная беларускамоўная рэспубліканская газета «Звязда», практычна адсутнічаюць на беларускім тэлебачанні перадачы на роднай мове. Нашы продкі ўсімі сіламі змагаліся за незалежнасць краіны, за яе мову, за захаванне традыцый і культуры, а сёння мы ўласнаручна знішчаем той каштоўны скарб, які яны пакінулі нам. І як ніколі актуальна гучаць сёння развагі Яна Скрыгана, выдатнага беларускага пісьменніка: «Паміранне мовы такая ж натуральная з'ява, як і нараджэнне яе. Быць можа, што і мая мова некалі памрэ, як памру я сам, чалавек. І я аніяк не баюся натуральнай смерці.








А от калі гвалтоўна паміраць — страшна». Трэба зразумець, што будучыня будзе толькі такой, якой яе зробім мы, сучасныя людзі.

Няма ў свеце нічога раднейшага за мову. Для мяне яна — гэта ўсё. Гэта родная вёска, дзе я вырасла і дзе жыве мая бабуля, гэта творы таленавітых беларускіх пісьменнікаў, якіх я люблю чытаць, мілагучныя песні, якія прыносяць мне вялікую асалоду. Размаўляючы на роднай мове, я набліжаюся да сваіх каранёў, тым самым шаную памяць продкаў, паважаю гісторыю і традыцыі сваёй краіны. Наша мова — гэта вялікае багацце. Яе трэба берагчы, нельга саромецца яе, бо гэтым самым мы будзем адракацца ад сваёй краіны, якая самая цудоўная і самая прыгожая ва ўсім свеце.

Беларуская мова заўсёды ў маім сэрцы. Мая мова не павінна загінуць. Я паспрабую зберагчы, захаваць яе, каб было што перадаць нашчадкам. А хто ж гэта зробіць, калі не я?!

*Лізавета БАСАЛЫГА, 11 клас*
*СШ № 145, Мінск*



